Перавядзем разам з героем аповеду дых, абаб'ем разам зь ім калашыны і згадаем тую пару, калі нашымі немаладымі ўжо душамі авалодала запозьненае, а таму хваравітае і ўсёпаглынальнае каханьне. Згадаем пару, калі недзе пад сэрцам нараджаліся новыя надзеі, ценька гучалі новыя песьні, калі жар каханьня казытаў пяткі й нам увесь час карцела некуды бегчы. І хаця жар той быў усяго толькі бэнгальскім агнём, мітусьлівым фаервэркам у цемрыве шэрых будняў, душа ляцела на прывідны агонь, не раўнуючы, як начны матылёк на палахлівае полымі васкоўкі.

Вось і наш герой, напоўніўшы навакольле шапаценьнем бурачнага лісьця, ляцеў на згубны агонь, недзе пад сэрцам ягоным нараджаліся тамліва-трапяткія надзеі і гучалі... не, ня песьні, а словы кагадзе прачытанай нататкі. Словы ўбіліся ў памяць, з кожным крокам гучаньне іх мацнела, убіралася ў сілу, а калі наш герой упіхнуў галаву ў пралом пахілага плоту і азірнуўся, з вуснаў ягоных сарвалася малітоўная скорагаворка: - Да самай ночы гараць агні Бычкоўскага клюба...

На трэці павер узьбег на адным дыханьні, пужлівай чапляй прайшоўся па дывановым ходніку і толькі на канцы калідора дазволіў сабе аддыхацца. Кашлянуў, крануўся пальцамі дзьвярной ручкі ды так і застыў у непаразуменьні: там, за дзьвярыма, чуўся жаночы сьмех, прыглушана дзынкнулі шклянкі, і нехта, праўдападобна загадчыца райана Сьцефурак, прамовіла:

- Абавязкова завітай у Лівадзійскі палац. Гэта цуд нейкі!

Кароткую хвілю за дзьвярыма панавала ціша, потым Сьцефурак гучна крэкнула, суцішна мацюкнулася, замармытала штосьці, выразна прамовіўшы словы «шчасьліва адпачыць», і празь імгненьне паўстала перад Макарам.

- Данута Станіславаўна! Да вас наведнік, - выгукнула загадчыца райана і, кінуўшы празь плячо няўцямную фразу: - Пазвані, як даедзеш, - высьлізнула з габінэту.

Данута была не адна - у габінэце, закінуўшы нага на нагу, сядзела сакратарка Марына і яшчэ адна кабета, прозьвішча якой Макар ня ведаў. На стале грувасьцілася пляшка шампану, бліскалі чатыры келіхі й ляжала каробка чакалядных цукерак.

- А-а... журналісты! - сьпеўна і зь лёгкай гіроніяй у голасе азвалася Данута Станіславаўна, і Макару ад тае гіроніі стала не па сабе.

Ён спыніўся ля бар'ера, спалохана зірнуў на бутэльку.

- Заходзьце, Макар Іванавіч, ужо бег гіроніі прамовіла гаспадыня габінэту, мелькам паправіўшы прычоску. - Гэта мы тут, дурныя бабы, гулянку арганізавалі. Водпуск абмываем. Заўтра ў Крым еду.

Яшчэ колькі імгненьняў Макар муляўся ля бар'ера, а потым, пад цікаўнымі позіркамі Дануччыных сябровак, прайшоў на нягнуткіх нагах да крэсла, сеў і, ратуючыся ад жаночых вачэй, склаў далоні на тым месцы, дзе схадзілася ў адно калашыньне парусінавых штаноў.

Данута падхапіла недапітую бутэльку, спраўна, не раўнуючы, як кельнэр, разьліла рэшту шампану па келіхах.

- Я вам у свой наліла. Не пагрэбуеце?

Макар глынуў пітва і закашляўся, дробнымі пырскамі пакрыўшы парусінавыя нагавіцы.

- Ну што вы, Макар Іванавіч. Супакойцеся, нікога ня бойцеся, - прамовіла, ці, лепей сказаць, прасьпявала Данута Станіславаўна, ляпнуўшы Макара па сьпіне.

Сытуацыя вымагала нейкай дзеі, нейкіх арыгінальных словаў, і Макар, адкерхаўшыся, афіцыйным тонам запытаў:

- Ну, а як там наконт артыкула?

Запытаўся, а потым пашкадаваў, бо Дануччыны сяброўкі разам засьмяяліся, а загадчыца габінэту з

робленай крыўдай выдыхнула:

- Вось якія пайшлі кавалеры. Іх не жанчыны цікавяць, а нейкія артыкулы.

Болей Макар не прамовіў ні слова. Сядзеў, увабраўшы голаў у плечы, слухаў сакратарку Марыну, якая распавядала - як шмат ёй даводзіцца друкаваць markdownрознай лухты, - і ніяк ня мог уцяміць: дзеля чаго яго сюды запрасілі.

Нарэшце, хвілін празь дзесяць, сакратарка ўзьнялася, плюснула Дануту ў шчаку, пажадала добрага адпачынку і жанкі гамузам выйшлі ў калідор. Разьлеглы габінэт напоўніўся цішынёю, і ўсё наўкол набыло суворае аблічча. З шафы сувора паглядаў гіпсавы Энгельс, стрыжаны «пад польку» Брэжнеў ня менш сувора паглядаў з партрэта, і нават шыльда з надпісам «Намэнклятура абкама» на даўжэзным, застаўленым аднолькавымі шэрымі тэчкамі стэлажы, набыла пагрозьліва патаемны сэнс. Дзесьці там, у шэрым шыхце, стаяла і ягоная асабістая справа.

Адчуваньне таго, што ён, Макар, не шараговы партыец, а намэнклятура абкаму, кранула душу трапяткім халадком, утуленая ў плечы галава годна ўзьнялася, але ў наступнае імгненьне зноў убілася ў плечы: у габінэт, бразгаючы спаласнутымі келіхамі, увайшла Данута Станіславаўна. Нічога не сказаўшы, нават не зірнуўшы ў ягоны бок, гаспадыня габінэту паставіла келіхі ў браніраваны сэйф, прыбрала са стала пустую пляшку, потым падышла да люстэрка і доўга папраўляла прычоску, раз за разам паўтараючы адну і тую ж фразу:

- Божухна, што з валасамі?

Каб нейкім чынам засьведчыць сваю прысутнасьць, Макар рыпнуў крэслам, стрымана кашлянуў, але гэта не дапамагло. Гаспадыня габінэту глядзелася ў люстэрка, перабірала паперы, зачыняла фрамугі і не зьвяртала на яго аніякай увагі.

Макар пачаў хвалявацца і падумаў быў - ці не сысьці ўпрочкі, ды тут Данута, выцершы пыл з гіпсавага Энгельса, кінула на падваконьне анучку, крутнулася, як тая дзяўчынка, на адной назе і весела прамовіла:

- Ну дык што, ідзем?

Сказана гэта было з такой лёгкасьцю, з такой іскрыстай бестурботнасьцю, што ў Макара ёкнула сэрца і ён, забыўшыся пра ўсё на сьвеце, прыхапіўся з крэсла і зрабіў крок насустрач свайму шчасьцю.

Ні ў калідоры, ні на сходах яны, дзякаваць богу, нікога ня стрэлі, а вось на ганку сутыкнуліся са збоем жанчын - былі там і райкамаўкі, і райвыканкамаўкі, і яшчэ немаведама хто. Ідучы па прыступках, Макар паскорыў крок, намагаючыся абмінуць усіх гэтым пляткарак, але Данута схапіла яго за рукаво, сагнула руку абаранкам і, піхнуўшы пад локаць далікатныя пальцы, зацюкала абцасамі па асфальце. Так яны і пайшлі, пад ручку, і сьпіна Макарава сьвярбела ад пранізьлівых жаночых позіркаў.

Зьлёгку замглёнае, дасьпелае сонца яшчэ было высока. Сонца вісела над будынкам райкама, па-над возерам, адбіваючыся ў яго спакойным люстры, над дымным комінам льнозавода, які вытыркаўся з-за дахаў азярышчанскай ускраіны, што называлася Зарэччам. Там, у Зарэччы, гарлалі пеўні, крычалі вароны, бязладнай грамадой пералятаючы зь месца на месца, і голасна мэкалі козы.

Макар ня бачыў сонца, ня бачыў крыклівых варон, ня чуў казінага мэканьня. З усіх ворганаў пачуцьця ў яго працаваў толькі нюх - ён удыхаў водар парфумы, невідушча ступаў па ходніку, і Дануце даводзілася тузаць спадарожніка за руку, каб абмінуць лужу альбо каровіну ляпеху.

Яны дайшлі да ўнівэрмага, павярнулі на Чырвонаармейскую і тут, абмінаючы чарговую лужыну, Данута пацягнула яго за рукаво.

- Памятаеце, што я сказала, калі мы танцавалі?

Ступіўшы нагой у лужу, Макар спыніўся, асавела паглядзеў пад ногі.

- Вы што, як конь - на хаду сьпіце? - рагатнула спадарожніца, і гэтае параўнаньне вярнула Макару слых і зрок. - Учора... на «Качыным Востраве»... я сказала, што прыношу мужчынам няшчасьце...

Макар няпэўна кіўнуў, паспрабаваў пасьміхнуцца.

- І не баіцеся зьвязвацца... з такой ведзьмай?

Макар страсянуў галавой, а Данута, паправіўшы валасы на скронях, задуменна і разам з тым нерашуча прамовіла:

- Ну што ж, тады пойдзем да мяне. Пачастую вас кавай.

Ад такой прапановы можна было ашалець. У гарачкавых мроях Макар са сьлязьмі на вачах уяўляў - як ён пакахаецца з Данутай Станіславаўнай. Яму ўяўляліся прызнаньні, нясьмелыя пацалункі, прагулянкі ў фасфарычным сьвятле ліхтароў. Але каб так, адразу, без нічога ніякага, Данута запрасіла да сябе піць каву - такога ён не ўяўляў нават у самых сьмелых лятунках. Таму й аслупянеў Макар, і Данута, абмінуўшы лужыну, зь нецярплівасьцю выдыхнула:

- Ну дык ідзем, ці так і будзем стаяць?

Цагляны дом у канцы Чырвонаармейскай вуліцы быў адзіным пяціпавярховікам у Азярышчы і менаваўся Домам спэцыялістаў. Там, у двухпакаёвай кватэры з усімі выгодамі, жыла Данута Францкавяк.

Цёмнымі вечарамі, кульнуўшы добрую чарку, Макар часта блукаў каля гэтага дома, заходзіў у пад'езд, крадком падымаўся на трэці паверх, каб кранууцца рукой запаветных дзьвярэй, а іншым разам, пад роспачны брэх сабак, залазіў на яблыню, што расла на другім баку вуліцы, і апантанымі вачыма глядзеў на зялёны квадрат - вакно Данучччынай спальні.

Пару разоў ён бачыў, як Данута распраналася, а аднойчы, угледзеўшы ў пройме рассунутых штораў нейкага мужыка ў салатавай майцы, ледзь не самлеў ад рэўнасьці і, сьлізгануўшы нагой па суку, зваліўся долу.

Цяпер ён ішоў з Данутай па Чырвонаармейскай - уздоўж парэпанага плоту, міма газэтнага шапіка, міма сьметніцы і горбіўся ад таго шчасьця, якое на яго раптам абрынула.

Ля пад'ездных дзьвярэй Данута на імгненьне спынілася.

- Вось тут я і жыву, у дваццаць трэцяй кватэры.

Спыніўся і Макар. З захапленьнем зірнуў на вокны трэцяга паверха, вінавата шморгнуў носам і раптам, у памкненьні кінуцца немаведама куды, разявіў рот і выцягнуў шыю.

- Куды вы? - крыкнула Данута, калі ён сарваўся зь месца.

- Я зараз... Я вомігам, - гукнуў Макар, завярнуў за рог дома і стаў на хаду поркацца ў кішэнях.

Сэрца парывіста білася, набойкі на абцасах лідзкіх «гадаў» ляскаталі па ходніку, і язык, спрабуючы ўгнацца за тымі зыкамі, таропка паўтараў адну і тую ж фразу:

- Да позьняй ночы гараць агні ў вокнах Бычкоўскага клюба...

У краме шампанскага не было, а таму давялося бегчы ў «Каліну красную». Разганяючы курэй да качак, ён дабег да рэстарана, узьляцеў на ганак і ў дзьвярах сутыкнуўся зь Мішкам Мандрыкам.

- Макар?! Ты што? Куды ляціш?

Ён не адказаў, адно махнуў рукою, узьбег на другі паверх і, перапудзіўшы афіцыянтку Машу, зморана прасіпеў:

- Шампанскага... Бутэльку... за любыя грошы.

Каб ізноў не сутыкацца з Мандрыкам, ён скарыстаўся чорным ходам, пералез цераз плот і пашыбаваў агародамі, сьціскаючы ў руцэ, нібыта апошнюю гранату, бутэльку рэстараннага шампану.

Здавалася, чаго прасьцей - націснуць кнопку званка. Працягні руку, тыцні пальцам у пукаты гузік, і за дзьвярыма пачуецца мэлядычнае бомканьне. Аднак, падышоўшы да дыхтоўных, абабітых чорным дэрмацінам дзьвярэй зь лічбаю «23» на люстраным сукосьніку, Макар зьніякавеў, прыслухаўся да навакольных зыкаў і, не рашаючыся пазваніць, з шумам перавёў дыханьне.

На лесьвіцы было ціха; так ціха, што ён чуў грукат уласнага сэрца. Сэрца білася, як стрыножаны певень. Каб суняць шалёнае біцьцё, Макар прыціснуў далонь да грудзіны, налёг лобам на дзьвярны вушак і спалохана азірнуўся: за сьпінаю рыпнулі завесы, і ў пройме дзьвярэй бліснулі вочкі нейкай старой кабеты. Дануччына суседка пачала сьвідраваць яго сваімі вачыма-сьвярдзёлкамі, таму нічога не заставалася, як націснуць на кнопку званка.

Пасьля першага званка яму не адчынілі. Макар прыслухаўся ў спадзеўцы пачуць таропкія крокі, але за дзьвярыма было ціха, і толькі аднастайны цьмяны пошум далятаў аднекуль здалёк, магчыма, зь іншай кватэры. Палец зноў націснуў на пукаты гузік, цьмяны пошум аціх, дзьверы адчыніліся, і перад вачыма паўстала гаспадыня кватэры. Галава Дануччына была спавітая махровым ручніком.

Данута хмыкнула і, пакінуўшы дзьверы адчыненымі, зьнікла ў ванным пакоі.

... Дануччына кватэра ўражвала: пад высокай стольлю вісела шыкоўная кандэлябра, на падлозе ляжаў варсісты дыван, але што ўражвала найболей, дык гэта няўлоўны, хвалюючы пах, які лунаў у паветры, ды выгодны, абцягнуты зялёным аксамітам фатэль, у які ён плюхнуўся, агледзеўшы пакой.

Крэсла было на дзіва мяккім. Ён літаральна патануў у ім і, выпрастаўшы стамлёныя ногі, задаволена крэкнуў. Дзіўна, але той хвіляй ён зусім не хваляваўся. Сэрца білася з разважлівай упэўненасьцю, Макар паспрабаваў нават усхваляваць сам сябе, уголас прамармытаўшы: - Я тут, у багіні, - але гэта не дапамагло. Ён заставаўся спакойным яшчэ доўгіх чатыры хвіліны - аж да той пары, пакуль да таямнічага паху, што лунаў у пакоі, не дамяшаўся другі - пах даўно ня мытых шкарпэтак. Мікар убіў галаву між каленяў, патрабавальна зварухнуў ноздрамі: шкарпэткі сьмярдзелі як мае быць. Не надумаўшы нічога лепшага, ён сьцягнуў з пятак сьмярдзючкі, таропка запіхнуў у кішэні.

Сядзець з голымі нагамі, аднак, не выпадала. Абламаўшы жоўты пазногаць на пальцы левай нагі, Макар прабег у калідор, стаў насоўваць свае стаптаныя «гады», і акурат у гэты момант дзьверы ваннага пакоя расчыніліся і стукнулі яго ў лабешнік.

- Ох, які вы разбэшчаны мужчына! - з асуджальнай весялосьцю прамовіла гаспадыня кватэры, і ў Макара ад такіх слоў гарачкава заірдзеліся шчокі.

Данута падышла да трумо, расхінула крысьсё кітайскага халата, пільным вокам агледзела ў люстры свае зграбныя, шчыльна ссунутыя ногі.

Ад такой відзежы ў Макара загарэліся ня толькі шчокі, але й патыліца.

- Вы што там, заснулі? - гукнула Данута, а калі госьць, не пачуваючы пад сабою ног, ступіў на мяккі дыван, павярнулася і гульліва запытала: - Як я вам, падабаюся?

На твары Макаравым адбілася сарамліва-разгубленая ўсьмешка, а Данута, не чакаючы адказу, крутнулася перад люстрам і, расьцягваючы зыкі, прасьпявала:

- Ды падаба-а-юся...

Потым яна села ў фатэль і ўжо сур'ёзным і крыху сіплаватым голасам дадала:

- Шмат каму падабаюся, ды толькі замуж ніхто не бярэ...

Запанавала ціша. Госьць муляўся пасярод пакоя, цягнуў долу штаны, каб прыкрыць голыя ногі, а гаспадыня тым часам сядзела ў фатэлі, бузуважна паглядаючы некуды паўзьверх Макаравай галавы. Колькі доўжылася маўчаньне? Хвіліну, дзьве, а можа ўсе пяць? Але Данута ўрэшцe рэшт ачулася, ускінула вочы і, заўважыўшы пляшку шампану на стале, тыцнула пальцам у бок сэрванту.

- Вазьміце... там, за шклом... фужэры.

Келіхі былі адмысловыя, на высокіх ножках, з залатымі птушкамі на баках. Узяць іх дрыжачымі пальцамі ўяўлялася справаю даволі складанаю, данесьці да стала было яшчэ складаней, але Макар з годнасьцю справіўся з заданьнем - напоўніў пакой крыштальным звонам і, пазмагаўшыся з пляшкаю, стрэліў у столь поліэтыленавым коркам.

У паветры запахла піўнымі дражджамі, няўрымсьлівая вадкасьць зашыпела ў келіхах, папёрла праз верх, а Данута, хітнуўшы галавой, задуменна прашаптала:

- Божа мой, тры гады мазгі кампасьціраваў...

Макар глынуў напою, папярхнуўся, ікнуў; у нос яму дало салодкім пахам гнілых яблык.

- Калі б вы ведалі - як мне ўсё абрыдла. - Данута таксама глынула шампану і бязгучна ікнула. - Кожны дзень адно і тое ж. Усё тыя ж пысы, усё тыя ж размовы... Як? Як вырвацца з гэтай ямы? Вы ня ведаеце? - жанчына наставіла на госьця свае шэрыя вочы, і госьць, ня ведаючы, што адказаць, таропка напоўніў фужэры.

Віно казытнула коўцік, палілося ў нутро, але да страўніка не дапяла - захрасла недзе ў шлунках.

- І навошта вы тады ўвайшлі? - уздыхнула Данута, утрапёна і зь нейкім дзіўным шкадаваньнем

паглядзеўшы на Макаравы «гады».

- Калі? - не зразумеў Макар, неўпрыкмет адцягнуўшы калашыньне і гэтак жа неўпрыкмет адрыгнуўшы дражджавым духам.

Гаспадыня кватэры не адказала: закінула на сьпіну вільготныя валасы, дастала з паддону стала парцалянавую попельніцу, пачак імпартных цыгарэт і мініятурную запальнічку.

Запальнічка пстрыкнула, і па тым, зь якім імпэтам заскакалі ў Дануччыных вачах увішныя вогнікі, можна было зразумець, што жанчына гатовая расплакацца.

- Ну дык што - ідзіце ў ванную.

Галавакружна-пахкі дым, які выдыхнула Данута, ачмурыў настолькі, што Макар забыўся на хвілю - дзе ён, што зь ім і чыё гэта калена выбілася з туркусовага, колеру марской хвалі, халата.

«Як жа так? Адразу ў ванную... Мы ж нават не пацалаваліся...» - думкі непрагляднай завірухай закружыліся ў галаве, ад іх зрабілася цёмна ўваччу, і зьбянтэжаны госьць, выставіўшы наперад рукі, невідушча пасунуў у ванную.

Вільготны пах ці то мыла, ці то шампуню, яшчэ больш ускружыў галаву. Вочы прабегліся па шыхце markednaкаляровых бутэлек з шампунем, па бліскучых колцах, на якіх вісела поліэтыленавая заслона, і, нарэшце, засяродзіліся на запацелым люстэрку. Пальцы крануліся вільготнай паверхні, намалявалі на ім размашысты квадрат, і ён убачыў у люстры свой вагняшчокі твар.

Ён скінуў штаны разам з трусамі, здзёр кашулю, сьцярожка залез у ванную. Зьнямелыя пальцы крутнулі кран, і ў патыліцу ўдарылі халодныя струмені з душа.

Мыла было сьлізкім, духмяным, круглявым па форме і ўвесь час высьлізгвала з далоні. Макар абмацваў рукамі выгінастае дно ваннай, а намацаўшы круглявую

сьлізготу, з апантанасьцю мармытаў:

- Сяльчане прыходзяць сюды адпачыць, паглядзець цікавы фільм...

Потым ён выцерся махнатым ручнікам, выцягнуў са штаноў трусы, а згадаўшы імя загадчыцы бібліятэкі Забыронькі, прыкусіў дрыготкую вусну. Трусы былі падзертыя, ад іх тхнула мачой, таму, павагаўшыся, Макар нацягнуў штаны на голае цела. Ён паспрабаваў запіхнуць трусы ў кішэню, але яны туды ня лезьлі, і ў галаве нарадзіўся дзёрзкі плян: адразу з ваннай пайсьці на кухню й выкінуць трусы ў фортку.

Сьцярожка, каб не нарабіць груку, ён выйшаў у калідор, зьбіраўся ўжо прасьлізнуць на кухню, але, угледзеўшы ў пройме дзьвярэй Дануту, застыў, ачмурэлы.

Калі б гаспадыня кватэры паўстала перад ім голай, ён не ачмурэў бы так, як тою хвіляй. Не, Данута не была голай, але ейны ўбор - белыя панчохі, карункавы пас, такія ж карункавыя пальчаткі да локцяў і празрысты станік у буйную сетку - перацяў дыханьне, халодным жарам апаліў ніз жывата. Ногі зрабіліся ватнымі, таму Макар, схапіўшыся за вушак, апусьціўся на калені, выцер вільготнымі трусамі агідны пот з ілба.

Данута сядзела, адкінуўшы галаву на сьпінку фатэля, паліла цыгарэту і, падчас чарговай зацяжкі, разам з дымам выдыхнула фразу:

- Ён заўсёды мяне так апранаў.

Дрыжачай рукой Макар паспрабаваў запіхнуць трусы спачатку ў прарэх, затым у кішэнь, потым папоўз вокраччу па мяккім дыване, неадрыўна пазіраючы на ружовыя смочкі, што прабіваліся скрозь белую сетку станіка. З кожным ягоным рухам Данута ўсё болей і болей рассоўвала калені, і перад вачыма паўставала карціна, ад якой, здавалася, пацелі вочы і варушыліся валасы, прычым ня толькі на галаве. Апанаваны сьціхотам, Макар падпоўз да фатэлю, з трапяткой пяшчотай пацалаваў абцягнутае панчохай калена,

памкнуўся да панадных вуснаў, але Данута, перакрывіўшыся, схапіла яго за чупрыну і тыцнула носам у грудок імшыстых валасоў, якія дурманліва пахлі шампунем.

Праз гадзіну, адчыніўшы ўдарам нагі рассохлыя дзьверы, Макар выйшаў з пад'езда і парывіста ўдыхнуў зьвінючага паветра. За гэтую гадзіну нічога навокал не зьмянілася - дзесьці на верхнім паверсе ўсё так жа фальшыва пілікаў гармонік, па сьметніку блукалі тлустыя гракі, ад першага пад'езда ад'ехала машына - Макару нават падалося, што гэта быў Мішкавы «ўазік», - а над Азярышчанскім возерам падымаўся ўгору вечаровы туман. І ўсё ж такі штосьці зьмянілася ў сьвеце, штосьці ў ім адбылося. І Макар, яшчэ раз удыхнуўшы паветра, зразумеў: зьмянілася ягоная душа. Душа стала маладой і лёгкай, яна варушылася ў грудзях, падступала да горла і прасіла песьні.

Перапоўнены пачуцьцямі, Макар капнуў нагой трусы, якія ён кагадзе шпурнуў у фортку і якія цяпер ляжалі пасярод ходніку, і, згадаўшы, як дрыжэла Данута, як роспачна схаапіла яго за вушы і зморана застагнала, раскінуўшыся ў крэсьле, здрыгануўся і ад макаўкі да пятак і пакрыўся гусінай скурай.

Мілосная замарач, аднак, доўжылася нядоўга. Бо адразу ж уваччу паўстала іншая сцэна - калі Данута, вохнуўшы раз астатні, упёрлася яму ў грудзіну каленам і рашуча прамовіла: - Ня трэба.

Данута прамовіла гэта ў той момант, калі ён, Макар, ужо спусьціў штаны і сапрэлы маленькі дручок сьлізгануў па імшыстых валасах, і гэтыя два словы ўтаймавалі юр, і дручок, зачапіўшыся за карункавы пас, абмяк, і разам зь ім абмякла - бязвольна і пакорліва - усё ягонае цела.

Дома ён доўга й бязмэтна блукаў па пакоі, потым доўга мыўся пад душам, сьпяваючы на поўны голас, нарэшце, плюхнуўся на канапу і паліў да позьняй ночы, зачараванымі вачыма паглядаючы на шэрую столь.

Тае начы ён ня спаў, і толькі на золку, калі ў вокны

ўбіўся няўтульны сьвітанак, унурыўся - ці то ў сон, ці то ў паўсонную замарач; яму мроіліся нейкія страшныя патарочы, увушшу зьвінелі нечыя галасы, і недзе на доле, у недасяжнай далечыні, ляжалі, спавітыя ранішнім сном, дзьве плямы. Адна, вялікая, была Чорным морам, другая, меншая, - Азоўскім. Плямы цьмяна блішчэлі, вабілі і ўадначас пужалі сваім халодна-ртутным бляскам, з кожным імгненьнем павялічваліся ў памерах, і Макар, за хвілю да таго, як плюхнуцца ў ваду, прачнуўся.

Сонца ўжо грэла пятку, на гадзіньніку была палова восьмай, а за сьценкай, як заўсёды такім часам, стрымана лаяліся суседзі.

Ад роспачнай пацягушкі хруснулі косткі, скрыгатнулі зубы, і на вуснах адбілася лагодная ўсьмешка. Усьмешка, аднак, уквеціла твар толькі на імгненьне: твар нечакана спахмурнеў, вочы зьбегліся да пераносься, і Макар падхапіўся з ложка.

- Праспаў, халера! - вырвалася з самлелых грудзей, і левая нага патрапіла, як заўсёды, ў правую калошу.

Празь дзесяць хвілін ён ужо ціснуў званок Дануччынай кватэры, і старая порхаўка, рыпнуўшы завесай, прамовіла ў сьпіну:

- У санаторыю зьехала... на машыне... з мужыком нейкім.

Порхаўка зашамкала штосьці пра блудлівых мужыкоў, а Макар налёг ілбом на дзьвярны вушак, скрыгатнуў зубамі і застагнаў, ды так роспачна, што старая перахрысьцілася і спалохана прычыніла дзьверы.

* * *

- Сядайце, таварыш Мурленя. Вы нас не пераканалі. - Першы ляпнуў рукою па стале, а калі спорткамітэтчык стаў казаць штосьці ў сваё апраўданьне, ляпнуў яшчэ раз, ды так хвацка, што ўсе аціхлі, і пранізьлівую цішыню неабачліва парушыў гудлівы свавольнік. Чмель,

паблукаўшы недзе, ізноў уляцеў у залю, скрыжаваўшы на сабе асавелыя позіркі раённых актывістаў.

- Ці той гэта? - суцішна запытаўся Мішка Мандрык, і тут жа, зірнуўшы на ўскудлачаную галаву Фаіны Сьцефурак, вакол якой наразаў колы гудлівы свавольнік, з палёгкай прашаптаў: - Той самы.

Стрэлкі гадзіньніка між тым канчаткова абвісьлі, паказваючы палову сёмай. Якраз гэтай хвілінай сымфэропальскі хуткі спыняўся на станцыі Азярышча. Макар зыркнуў на райкамаўскі гадзіньнік, потым на свае «камандзірскія», асуджана вохнуў і расшпіліў яшчэ адзін гузік на кашулі.

Апошнія тры дні даліся Макару ў знакі: ён пазбыўся сну, зблажэў з твару, і жыцьцё ягонае ператварылася ў суцэльны кашмар. Апанаваны мазахісцкімі відзежамі, ён уяўляў, як Данута мілуецца на марскім беразе са старымі армянамі, уяўляў, як яе загарэлыя, абцягнутыя белымі панчохамі калені лашчаць нечыя валасатыя лапы, і ад тых уяўленьняў яму рабілася млосна, кроплі халоднага поту беглі па драбах, і Макар у адчаі прагнуў лізнуць перасьмяглым языком высокае неба.

Зрэшты, неба ён так і не лізнуў, але затое дастаў адрас санаторыя, у якім адпачывала Данута. Два дні круціўся ў райкамаўскай прыёмнай, а на трэці дзень, паклаўшы на край Марынінага стала разьмяклую чакалядку, пачуў:

- У Місхоры яна. Санаторый «Советская Белоруссія».

Зачыніўшыся ў габінэце, ён да самага вечара круціў тэлефонны дыск, спрабуючы злучыцца з Місхорам, потым нейкім дзіўным чынам апынуўся ў «Каліне», напіўся там, як павук, і проці ночы выправіўся на чыгуначную станцыю.

Наступным ранкам, разьдзершы павекі, ён угледзеў у ваконным вакне жаўтлявы будынак з шыльдаю «Дно», утрапёна міргнуў вачыма і скаціўся з паліцы.

Ранак быў халодным. Вецер шкамутаў кашулю, ганяў па лобе клок зьліплых валасоў, казытліва пералічваў драбы, але Макар не адчуваў холаду. Стоячы на пляцформе, з пакамечаным рублём у кішэні, ён паспрабаваў уцяміць: як патрапіў на цягнік і чаму паехаў на поўнач, калі Місхор знаходзіцца на поўдні, і, нічога ня ўцяміўшы, пайшоў шукаць рэдакцыю мясцовай газэты, каб пазычыць у калегаў грошаў на адваротную дарогу.

Наогул, апошнімі днямі, пачынаючы ад векапомнай п'янкі на загараднай базе, Макару стала ня толькі адбіваць памяць, але й пачала мроіцца розная лухта. Засынаючы, ён чуў Дануччын сьмех, Данута прыходзіла да яго ў снах; ён, укленчаны, кранаўся гладкага калена і, узьняўшы вочы, з жахам бачыў, што перад ім не Данута, а страхаморлівая ведзьма. Раніцою, з пахмельля, ён чуў мармытаньне, якое далятала з вадазьліўнага бачка, а ўдзень яго часьцяком ахопліваў жах, і ў такія хвілі яму карцела выкінуцца ў вакно альбо гвазданудь бутэлькай па галаве небараку Хаміцкага. Вось і цяпер, пачуўшы вантробны голас Тарзана Пятровіча Куксёнка, якога сталі прабіраць сьледам да Мурленем, Макар памкнуўся гвазданудь дырэктара прамкамбіната графінам па галаве, але, адумаўшыся, скрыгатнуў зубамі і - нечакана для сябе самога - рушыў да выхаду. Ля самых дзьвярэй за ім увязалася чмяліна, а яшчэ праз хвіліну з залі сьцярожкім крокам выйшаў Мішка Мандрык.

Што б там ні казалі паэты-песеньнікі, а каханьне - страшная рэч. Тлуміць, мучае, а парой наогул нішчыць людзей. І якіх людзей! Можна налічыць не адзін дзесятак славутасьцяў, якія, зазнаўшы няшчаснага каханьня, засіліліся, атруціліся, альбо, як талстоўская Ганна, кінуліся пад колы цягніка. Скажам таксама, што і аўтар гэтага аповеду зьведаў свойчас мілоснае ачмурэньне, а таму, апісваючы пакуты свайго героя, працяўся да яго шчыраю спагадай.

Ну сапраўды, ці можна было не паспачуваць герою, апісваючы, як той даставаў з рэдакцыйнай шафы ружы,

якія тры дні прастаялі ў слоіку з-пад гарчыцы, а ружы аказаліся прывялымі; ці ж можна было не хвалявацца, апісваючы, як герой ішоў, пасьля доўгай разлукі, на сустрэчу са сваёй каханай, і ці можна было не мацюкнуцца, згадаўшы старую порхаўку, якая сядзела ля пад'езда? І, падумаўшы, аўтар выкінуў гэтыя сцэны з апоpower, каб не надаваць твору залішняй шчымлівасьці і не засьмечваць яго нецэнзурнымі мацюкамі.

- Прыехала. Гадзіну таму, - паведаміла порхаўка, калі Макар падышоў да пад'езда. Навіна напоўніла душу яшчэ большым неспакоем. Зрабіўшы выгляд, што нічога ня чуе і ня бачыць, Макар выцягнуў з газэтнага скрутку прывялыя ружы, увабраў голаў у плечы, нясьмела пераступіў парог.

Гэтым разам ён адразу ж пазваніў, і ў той жа міг, як званок аціх, сэрца ягонае спынілася. Магчыма, калі б гаспадыня кватэры забавілася і не адразу адчыніла, Макар бы тут, ля дзьвярэй, і памёр, але, на шчасьце, за дзьвярыма рыпнула падлога, кляцнуў замок і на парозе паўстала яна... Данута. Сэрца балюча сьцялася і затахтала з такім імпэтам, што ў Макара закружылася галава і кветкі, якія трымаў за сьпінаю, высьлізнулі з самлелых пальцаў.

Ён стаяў, панурыўшы веі, баячыся зірнуць на Дануту, а калі, нарэшце, зірнуў, дык сэрца ягонае ізноўку спынілася. На загарэлым Дануччыным твары, дакладней, у куточках пульхнатых губ, блукала грэблівая ўсьмешка. Акурат такая ж усьмешка блукала на вуснах мадам Сьцефурак, калі тая выганяла з залі гудлівую жамерыну.

- Не прыходзьце сюды, - сказала, як адсекла, гаспадыня кватэры і, прычыняючы дзьверы, дадала: - І не званіце.

Хвілін дзесяць - ня меней, - стаяў Макар перад дзьвярыма і ачомаўся толькі тады, як на доле керханулі і прастору скаланулі шаргатлівыя крокі. Ён падняў з-пад ног букецік, бліснуў сьлязьлівым вокам і, зьбягаючы па сходах, упёр прывялыя кветкі знаёмай бабулі.

Невядома - куды б кінуўся Макар і што б ён стаў рабіць, калі б не наляцеў у дзьвярах пад'езда на шырокую сьпіну Мішкі Мандрыка. Мішка стаяў на парозе і смаліў папяросу.

Іншым днём ды іншым часам Макар зьдзівіўся б такой сустрэчы, але цяпер, асавела глянуўшы па баках, ён адно толькі мыкнуў ды рассунуў два пальцы, просячы ў сябра папяросіну. Не дачакаўшыся, пакуль Мішка выцягне з пачка беламорыну, Макар яшчэ раз мыкнуў і няпэўнай хадою пайшоў сваёй дарогаю.

- Макар, што з табой? Дзе ты быў? - голас сябруковы прагучаў глуха, усё адно як з бяздоннай бодні.

Мандрык схапіў яго за пінжак, паклаў на каршэнь сваю вузлаватую, упрыгожаную сіняй катвігай руку, зазірнуў у самыя вочы, і ў Макара адлягло ад сэрца.

Потым была «Каліна»: шалёная п'янка, песьні, гарачыя румзы на сябруковым плячы, нарэшце, тэлефонны званок з рэстараннай кухні, дакорлівыя Дануччыны словы: - Ну я ж прасіла... - якія прыглушала скаварчэньне секунцоў на патэльні, потым былі скокі да поўнай зморы, цьмянае сьвятло ліхтароў, брэх сабак у Зарэччы і сіплыя Мішкавы мацюгі ля вуха: - Ды куды ты, йоп!.. Далася табе гэтая лярва.

Ноччу ён спаў на падлозе, не распрануўшыся, у сьне яму мроіўся Дануччын сьмех уперамешку зь Мішкавымі мацюгамі, мроілася чмялінае зумканьне, скаварчэньне секунцоў на патэльні; ён ізноўку падаў у Чорнае мора, а за хвілю да таго, як плюхнуцца ў цёмныя хвалі, здрыгануў нагой і зь цяжкасьцю разьмежыў павекі.

Тыя, каму даводзілася прачынацца на падлозе ўласнай кватэры, звычайна адразу ж ішлі на кухню, выпівалі нагбом паўчайніка і, завітаўшы ў прыбіральню, з воклікам: - Ой, бля-а... - валіліся на канапу. Макар, аднак, не пайшоў на кухню - ён наогул ня мог нікуды пайсьці, бо не даваў рады падняцца на ногі. Пусьціўшы густую сьліну і пацёршы даланёю гузак на лобе, герой аповеду зморана войкнуў і папоўз да тэлефону.

Палец ніяк не патрапляў у дзіркі тэлефоннага дыску, і патрэбны нумар прыйшлося набіраць пяць разоў запар. Была шостая гадзіна раніцы, таму ў слухаўцы доўга сьпявалі гудкі, чулася мернае рыпеньне, падобнае на рыпеньне старых спружынаў у ложку, нарэшце, гудкі абарваліся, і на другім канцы дроту прыспана азвалася Данута.

- Станіслава Данутаўна, - блытана прасіпеў Макар, кашлянуў, каб прачысьціць глотку, і тая, да каго ён зьвяртаўся, скаланула мэмбрану страшным воклічам: - Забудзь мой нумар, жывёліна!

Слухаўка азвалася кароткімі гудкамі, выпала з рукі, матлянулася на вітым шнуры, паўтараючы сцэну са шпіёнскіх фільмаў.

А палове дзесятай Макар прыйшоў у рэдакцыю і перш-наперш зазірнуў у габінэт адказнага сакратара.

Хаміцкі - мужык цёрты, цынічны, які зжыў са сьвету трох жонак, але й той, пабачыўшы шэфа, спалохана адхінуўся, і ў пашыраных зрэнках ягоных мільганула неспакойная думка: «Вось што робіць з чалавекам каханьне!»

На шэфа было страшна глядзець: твар меў зялёнае адценьне, валасы ўскудлачаны, на лобе наліваўся сіньню аграмадны гузак, а вочы зьбіліся ў кучку, і цяжка было зразумець - на каго яны глядзяць: на яго, Хаміцкага, ці на брэжнеўскі партрэт, які вісеў на сьценцы.

- Ну, як тут? - запытаўся шэф не сваім голасам, і адказны сакратар няўцямна перасмыкнуў плячыма.

Шэфава рука палезла ў кішэнь, кінула на стол скамечаны трульнік, затым храбусткі рубель, і адказны сакратар, бяз слоў зразумеўшы, што да чаго, схапіў грошы і выбег з габінэту.

Калі б Макару прапанавалі адарваць палец, сесьці на вогнішча альбо выдраць пару здаровых зубоў, а

наўзамен паабяцалі патушыць агонь, які палаў у душы, ён бы без ваганьняў пагадзіўся. Але ж ніхто нічога не прапаноўваў, душа гарэла сінім полымем, і Макар не знаходзіў сабе месца. Ён мерыў габінэт нэрвовым крокам, - хадзіў ад шафы да вакна і наадварот, - потым стаў хадзіць вакол стала, пару разоў парываўся некуды пазваніць, але, падняўшы слухаўку, ізноў кідаў на вагар, а адчуўшы лёгкае ўдушша, падцягнуў непадатныя просвы і адчыніў вакно.

Мядовы ветрык крануўся лоба, на кароткае імгненьне разагнаў пякельныя думкі. Макар заплюшчыў павекі, удыхнуў пахі летняга дня, а калі зірнуў на сьвет, дык убачыў пляшку гарэлкі ў руках адказнага сакратара.

- У Будулая ўзяў, - паведаміў Хаміцкі і, у спадзеўцы атрымаць свае сто грамаў, праглынуў няпрошаную сьліну.

Гарэлку ў Азярышчы, з прычыны ўборачнай кампаніі, давалі толькі ў рэстаране, і ад ранку, калі рэстаран быў на замку, даводзілася бегаць да цыганаў, што жылі ў Зарэччы.

- Давай! - незадаволена выдыхнуў Макар, стомлена ўздыхнуў і стаў лічыць працяглыя Сазонавы глыкі.

... Гарэлка апаліла паднябеньне, зь цяжкасьцю прайшла ў нутро. Макар скрывіўся, адрыгнуў, зноў прыклаўся да рыльца, і ў гэты момант на рэдакцыйны падворак выехала, бліснуўшы бампэрам, шэрая «Волга». Машына спынілася пасярод двара, газанула, і зь яе выйшлі двое: нейкі міліцэйскі чын і сакратар абкаму Калупайка.

Прыгнуўшы голаў, Макар выбег у калідор, мерачыся даць дзёру праз заднія дзьверы, але, згадаўшы, што дзьверы зачынены, вярнуўся ў габінэт, прыхапіў са стала недапітую пляшку і з грукатам уваліўся ў шафу.

- Ну, хто тут ёсьць? - пачуўся неўзабаве прыглушаны Калупайкавы голас, і пад шафаю рыпнулі масьніцы.

Разважаючы на добры лад, можна было меркаваць, што

Калупайка зазірне ў пусты габінэт дый сыдзе з рэдакцыі. Але ж рыпеньне масьнічын засьведчыла іншае: сакратар абкаму сыходзіць ня надта сьпяшаўся.

Макар паміргаў у цямноцьці, прыпаў левым вокам да замочнай шчыліны і ўбачыў Калупайку, які набліжаўся да шафы. Сэрца ёкнула, Макар адхінуўся ад шчыліны, стукнуўся патыліцай аб заднюю фанэрыну і ад страху перастаў дыхаць. Ня дыхаў ён хвіліны тры, а калі зноў прыпаў да шчыліны, Калупайка ўжо сядзеў у крэсьле і з насьцярожлівай усьмешкай на твары накручваў тэлефонны дыск.

Голас Калупайкавы гучаў глуха, невыразна, і асобныя словы нават цяжка было разабраць.

- Нам трэба пагаманіць, - стоена казаў сакратар і нават тут, унутры фанэрнай шафы, было чутна, што сакратар хваляваўся.

Калупайка кашлянуў, са стогнам уздыхнуў і пасьля паўзы прамовіў:

- Ну добра, не жадаеце размаўляць са мной асабіста, давядзецца размаўляць з кіраўніком абласнога камітэту партыі. Карацей, я высылаю «Волгу».

Макар бачыў праз шчыліну, як Калупайка падышоў да вакна, махнуў рукой, і на падворку парывіста загула машына.

Потым госьць стаў хадзіць па габінэту, запусьціўшы рукі ў штаны і штосьці там перабіраючы, і Макар, падгледзеўшы гэта, скрывіўся і прыпаў вуснамі да пляшкі.

«Волга» вярнулася надта хутка, але галава пасьпела захмялець, замочная шчыліна плыла перад вачыма й даводзілася штохвілі міргаць, каб яна не сплыла канчаткова.

На калідоры зацюкалі жаночыя туфлікі. Макар прыпаў да рыльца, потым да шчыліны і ўраз працьверазеў: у габінэт увайшла Данута. Увайшла рашуча, грацыёзна,

пераблытаўшы думкі ў галаве і чарговым разам перацяўшы дыханьне.

Данута села ў крэсла, і ў шчыліне сталі бачны толькі частка загарэлай рукі ды мысок лякіраванага туфліка.

Калупайка штосьці сказаў - словы гэтыя праляцелі міма вушэй, - а вось Дануччына фраза: - Жонцы паспавядайцеся! - казытнула ня толькі слых, але й душу.

- Дана, ну як ты не разумееш, - прамармытаў Калупайка, абхапіўшы рукамі голаў. - Развод для мяне - гэта канец кар'еры. Ты гэтага хочаш?

- Я ўжо нічога не хачу, - адгукнулася Данута, і зь відавоку зьніклі адразу і рука, і мысок лякіраванага туфліка.

- Твае выбрыкі проста зьдзіўляюць, - сакратар абкама шаргатнуў нагой па падлозе. - Тады, на «Качыным Востраве»... - У гэтым месцы сакратар уздыхнуў: - «Пакахаю першага, хто ўваліцца ў залю...» Ну, павісла ты на гэтым п'яным ёлупні. І што? Думала, я пабягу тапіцца?

Пачуўшы пра «Качыны Востраў», Макар тузануўся, бухнуў азадкам у заднюю сьценку і замёр бяз духу.

- Э-эх, Данка! - вырвалася з сакратарскай глоткі, і Макар ізноў зірнуў у шчыліну. - Няўжо ж я цябе тут пакіну?

Калупайка дастаў з кішэні нейкую паперку, пачаў чытаць: - Вуліца Савецкая, 45 А... Трыццаць шэсьць квадратаў, санвузел разьядналы... - У гэты міг Дануччына рука пацягнулася за паперкай, а Калупайка, схапіўшы Дануту за пальцы, юрліва гукнуў: - Спачатку пацалунак!

І тут надарылася неверагоднае: Данута падхапілася з крэсла і спрытна ўселася на Калупайкавых каленях.

- Ну ты хоць яму аддалася? - пралепятаў сакратар,

цалуючы аголены Дануччын плячук.

- Вось яшчэ! - фыркнула Данута, чытаючы паперку, а Калупайка, пасьля роспачнага ўздыху, прамовіў: - Ну як жа... гэты ёлупень у цябе цэлых дзьве гадзіны адседзеў.

Данута паспрабавала зьлезьці з каленяў, але сакратар надзейна абхапіў яе за сьцёгны.

- Гэта табе Мандрык сказаў, шпіён твой?

- Ну, ня злуй, - Калупайка прымірэнча перавёў дых, - я гэтага п'янтоса хачу ў Маскву паслаць, у Акадэмію грамадзкіх навук. Дзеля гэтага сюды і прыехаў.

Валасатая рука накрыла абцягнутае белай панчохай калена, паткнулася пад спадніцу, і ўсё патанула ў тумане. Макар ліхаманкава працёр вочы, і ў галаве ягонай замітусіліся, шукаючы выхаду, абрыўкі фраз: «Павісла на ёлупні... Мандрык... шпіён твой...» Галаве стала горача, цела скаланулі дрыжыкі, ён рассунуў форткі дзьвярэй і ўбачыў, што з Калупайкам цалуецца не Данута, а нейкая страхаморлівая каргота.

- Ведзьма, - прашапталі сасьмяглыя вусны, лёгкія ўвабралі паветра, і Макар, выкуліўшыся з шафы, страшным голасам загарлаў:

- С-сука!

Жаночы віскат зьліўся з рэхам гэтага крыку, перад вачыма мільганулі задзёртая спадніца, расшпілены прарэх і шэрыя мужчынскія туфлі. Туфлі затупалі па падлозе, узьняліся ў паветра, імкнучыся да адчыненага вакна; Макар ухапіўся рукамі за левую туфліну і пачуў звон разьбітага шкла, мацюкі і трэск штыкецін пад вокнамі.

Ён зь цяжкасьцю падняўся на ногі, перакінуў з рукі ў руку сакратарскі абутак, а згледзеўшы на падворку міліцэйскага палкоўніка, памкнуўся зноў залезьці ў шафу. Па дарозе ён наступіў на пляшку, падскочыў, улякнута паглядзеў сабе пад ногі. Недапітая гарэлка разьлілася па падлозе, дакладна паўтарыўшы абрысы

Азоўскага мора.

- Ён там, у рэдакцыі, - даляцеў з падворка плаксівы голас, і па правай назе паплыло мяккае і пяшчотнае цяпло. Яно плыло ўсё ніжэй і ніжэй, аж пакуль пад нагою не пачала расьцякацца цёмная пляма. Пляма расла ва ўсе бакі і неўзабаве стала нагадваць па форме Чорнае мора. І вось, калі ў калідоры цяжка затупалі, а пад вокнамі жаласна заенчылі, дзьве плямы зьліліся, адкрыўшы вачам бязьмежны прастор, і схаладнелае сэрца парывістым біцьцём вітала суткі стыхій.

## Восеньскія вакацыі

*(З аповедаў пра Ваню Бянькова)*

### I

Першымі днямі лістапада сямнаццацігадовы Ваня Бянькоў прыехаў дадому, у вёску Бычкі Азярышчанскага раёну. Ваня вось ужо трэці год вучыўся ў адным з баранавіцкіх ПТВ і, адпрацаваўшы са сваёй групай два месяцы на ўборцы лёну, зарабіў такім чынам пяць дзён адпачынку.

Убіўшыся ў родную хату, хлопец праспаў цэлыя содні, потым паўдня адваляўся ў ложку і падняўся толькі тады, калі маці, Ларыса Пятроўна, сьцягнула зь яго коўдру і жартам агрэла падушкай па галаве.

- Мандрык тут, ці зьехаў куды? - запытаўся Іван, падліваючы цёплай вады ў рукамыйнік.

Лёшка Мандрык быў вядомы на ўсю вёску бандзюк - улетку Іван з-за яго ледзь не патрапіў у вязьніцу, і Ларыса Пятроўна заўсёды хмурнела, калі чула гэтае прозьвішча.

- Зьнік недзе... Мандрычыха казала - паехаў на трактарыста вучыцца, - маці падхапіла рагач, выцягнула

зь печы чыгунок з гарачаю бульбаю, - а можа, дзе ў турме сядзіць - за яго дужа не бярыся.

Абкруціўшы чыгунок анучкаю, Ларыса Пятроўна ўздыхнула, высыпала парную бульбу на талерку.

- На зіму ўсе разьехаліся. Адзін Лябёдка застаўся. У калгасе рабіць ня хоча - гойсае на матацыкле. На Пакровы Бадунісе гусака задушыў. Ехаў п'яны з Азярышча... так шыю і пераехаў. Бадуніха і цяпер бядуе. Зьбіраецца ў суд падаваць. - Ларыса Пятроўна накінула на голаў хустку, мелькам зірнула ў аскепак люстэрка, што стаяў на рукамыйніку, падхапіла зь цьвіка ватоўку. - Ну, сядзі... Я на фэрму. А то ж, пэўна, равуць, нядоеныя, - ужо з парога азвалася маці і, бразнуўшы клямкаю, затупала на падворку.

Лябёдка, пра якога згадвала Ларыса Пятроўна, быў гадоў на пяць старэйшы ад Івана і да апошняга часу працаваў у бычкоўскім клюбе кінамэханікам. У жніўні, акурат перад Іванавым ад'ездам на вучобу, з тым Лябёдкам бяда надарылася: заснуў, падпіты, у кінабудцы, а нехта з супольнікаў недапалак у бляшанку кінуў, у якой стужка ляжала. Ну і задыміла, вядома. Дым з вокнаў папёр, людзі зьбегліся, а Мандрычыха, загадчыца клюбу, зь перапуду ў Азярышча патэлефанавала, пажарную машыну выклікала. Пасьля таго выпадку Лябёдку і выкінулі з працы.

...Куснуўшы кіслы гурок, Іван пасьміхнуўся - згадаў, як ачмурэлага ад дыму Лябёдку выносілі з кінабудкі, і, падпёршы рукою рухавыя пашчанкі, зірнуў у вакно.

За вакном, у сутоньні пахмурнага восеньскага дня, хіталася на ветры згалелая яблыня, а на яблыні, на самай высокай яе галінцы, дрыжэй ад холаду самотны яблык. Яблык быў зьмерзлы, зморшчаны, і, пазіраючы на яго, Іван са скрухаю падумаў, што пройдуць тры дні і давядзецца зноўку зьбірацца ў дарогу, каб ехаць у праклятушчыя Баранавічы. Тры дні... і зноўку будзе халодны вагон, зноўку будуць бясконца ляпаць дзьверы, і ён, седзячы на бакавым месцы ля прыбіральні, будзе стукацца патыліцай аб стоп-кран, аж пакуль у вачах

хваравітым трызьненьнем не паўстане будынак баранавіцкага вакзалу.

Хлопец уздыхнуў, захрабусьцеў кіслым агурком і адчуў раптам, як штосьці мяккае і цёплае кранулася лыткі. Іван зірнуў пад ногі і ўбачыў ката Барыса. Барыс пацёрся трохі аб ягоную лытку, пацягнуўся, наставіў на Івана круглявыя вочы. Давялося кінуць на падлогу кавалак бульбіны, але Барыс на такі пачастунак нават не глянуў.

- Зажэрся ты, братка! Цябе б, бляха, у Баранавічы, у інтэрнат, - прамовіў Іван, і кот, згаджаючыся з такімі словамі, вякнуў ды паглядзеў на дзьверы.

Іван выпусьціў ката на двор, удыхнуў праз дзьвярную пройму ядранага паветра і вырашыў таксама праветрыцца.

Перадзім'ем у Бычках сумна. Прайдзіся праз усю вёску - жывой душы ня стрэнеш. Клюб зачынены, бібліятэка таксама. Вецер пясок са сьнегам круціць ды выцьвілы сьцяжок на шасту матляе. Сьцяжок, як сьведчыць надпіс на кардонцы, у гонар камбайнэра Ф.І.Траяна ўзьняты, які ў жніўні на сваім СК-4 чатырыста тон збожжа намалаціў. Збожжа даўно на станцыю зьвезьлі. Хведзька Траян даўно тыя грошы прапіў, што яму ў прэмію далі, а сьцяжок усё матляўся, і шост гудзеў на ветры, і не было ў сьвеце анічога больш сумнага, чым гэтае матляньне і гэтае панылае гудзеньне.

«І на якую халеру прыехаў?» - падумаў Іван, тузануўшы дзьвярную ручку. Кінабудка была зачыненая і, мяркуючы па той колькасьці пяску, што намяло пад дзьверы, невядома калі адчынялася. Іван прыпаў вокам да шчыліны дзьвярэй, доўга глядзеў на стаптаны чаравік, што ляжаў пасярод кінабудкі, разважаючы - каму той мог належаць - Лябёдку ці Мандрыку? - і гэтыя развагі былі перарваныя матацыклетным рокатам. Рокат чуўся з боку Азярышча: матацыкал змучана чхаў, страляў выхлапнымі газамі, і гэта сьведчыла за тое, што па дарозе ехала Лябёдкава «Панонія».

Зьяжджаючы з Дабранскай гары, матацыкал загуў на фарсажы, а пад'ехаўшы да клюба, заляскатаў парывіста і глуха.

- Ваня! Прыехаў! - выгукнуў кіроўца «Паноніі», задаволена пасьміхнуўся і, зьняўшы крагі, працягнуў Івану сваю перапэцканую машыннай алівай руку. Лябёдку было цяжка пазнаць. Калі раней ён гойсаў на сваёй «Паноніі» ў танкісцкім шлеме, дык цяпер галаву ягоную ўпрыгожваў моташлем з самаробным брылём, і гэты брыль рабіў яго падобным да вялізнай качкі.

- Зь Віцебска еду, ад брата, - растлумачыў Лябёдка, пасьля чаго крутнуў ручку газу і, матлянуўшы галавой, прамовіў: - Адвязвай ды сядай. Газанем, бляха!

За сьпінай былога кінамэханіка месьцілася, прытарочаная да сядзеньня, пашарпаная валіза. Іван паспрабаваў быў разьвязаць аборку рукамі, потым пусьціў у ход зубы і ў рэшце рэшт палез у кішэнь па сьцізорык.

- Асьцярожней толькі, у мяне там радыёлямпы, - мармытнуў Лябёдка і з натхненьнем паддаў газу.

Па тупкай сьцяжыне паехалі з грукатам, зь ветрыкам, а ўзьехаўшы на пясок, матацыкал запаволіў бег і завыў як перад скананьнем.

- Калі прыехаў? - запытаўся Лябёдка.

- Учора, - азваўся Іван; у гэты момант матацыкал стрэліў выхлапнымі газамі, тузануўся і заглух.

- Даканаў мяне гэты пярдун! - Лябёдка грукнуў кулаком па бэнзабаку, і хлопцы, даўшы волю мацюкам, добрых трыста мэтраў - аж да самае сталоўкі - піхалі-разганялі матацыкал, але той так і не завёўся.

У сталоўцы, куды яны ўвайшлі, было пуста, адно за прылаўкам, падпёршы рукамі кучаравую галаву, сядзела дачка загадчыцы Люська Халімонава і з сумам у вачах чытала нейкую кніжку. Зь Люськаю Іван некалі вучыўся ў школе, сядзеў за адной партай, а аднойчы,

здаецца, у сёмай клясе, нават пісаў «любоўныя» цыдулкі. І хаця пасьля таго мінула ці мала часу, Іван і цяпер пры стрэчы зь Люськаю чырванеў і наагул пачуваў сябе ніякавата.

Абабіўшы кірзачы, Лябёдка паважнай хадою падышоў да Люські, гульліва пасьміхнуўся, а Люська, не адрываючыся ад чытаньня, памацала рукой пад прылаўкам і выставіла перад наведнікам бутэльку «Стралецкай».

Такія Люсьчыны паводзіны наведніку відочна не спадабаліся. Зьняўшы з галавы моташлем, ён налёг грудзінаю на прылавак, з робленай цікавасьцю зазірнуў у кнігу.

- Што, Мапасана чытаем? - прагугніў Лябёдка, і шырокая пяцярня ягоная паволі легла на Люсьчын азадак.

Люська, відаць, толькі таго і чакала, бо кніжка надта ж імпэтна ўзьнялася ў паветра і гучна ляснула па Лябёдкавай патыліцы.

- Лябёдка! Зноў хулюганіш? - пачулася за перабойкаю, а ў раздатачным вакенцы ўзьнік расчырванелы твар загадчыцы сталоўкі.

- Пятроўна! Цешчы ты мая дарагая! Я ж да вас сватацца прыйшоў! - жартаўліва заенчыў Лябёдка, і адказам яму быў грукат мэталёвага посуду і абураны голас Пятроўны:

- А каб цябе парвала, такога зяця!

Пятроўна выйшла з кухні, паправіла на галаве хустку, а згледзеўшы Івана, які муляўся ля дзьвярэй, з усьмешкаю на вуснах запытала:

- Што, Ваня, прыехаў... будзеце цяпер на пару піячыць?
- Пятроўна хацела яшчэ нешта сказаць, аднак Лябёдка, абураны такімі словамі, паставіў «Стралецкую» на бліжэйшы столік і суворым голасам загадаў:

- Абслугоўвайце наведнікаў!

Іван, слухаючы ўсё гэта, гатовы быў скрозь зямлю праваліцца. Ён ужо і ня рады быў, што пацёгся зь Лябёдкам у сталоўку, і, перакідваючы з рукі на руку брынклівую валізу, кідаў дакорлівыя позіркі на шырозную Лябёдкаву сьпіну.

Пятроўна ляснула дзеля прыліку косткамі лічыльнікаў, з усьмешкаю на перакошаным твары прамовіла:

- Два шэсьцьдзесят... наведнікі.

- Дзьве скумбрыны і чатыры хлеба, - усё тым жа афіцыйным тонам прасіпеў Лябёдка, пашнарыў па кішэнях і, зьвяртаючыся да да Івана, прабачальным голасам запытаў: - У цябе пару рваных ня знойдзецца?

Іван зь Лябёдкам расьлі бязбацькавічамі. Іван свайго бацьку толькі на фотаздымку бачыў, а Лябёдкаў бацька, калі сын яшчэ і ў школу не хадзіў, завэрбаваўся па аргнаборы ў Карэлію, і яго там, нецьвярозага, забіла на лесапавале. Бязбацькавічы, як вядома - тыя ж браты. Іван мінулым часам цэлымі соднямі прападаў у кінабудцы. У карты граў, кружэлкі круціў на клюбнай радыёле, а вечарамі стужкі перамотваў ды фільмы глядзеў праз адтуліну. Праўда, калі Лябёдка бываў не ў гуморы - з бадуна, ці калі з Мандрычыхай палаецца, - дык мог свайму «брату» і па карку заехаць, а то, згадаўшы саратаўскую вучэбку, у якой служыў у войску, мог загадаць разоў сорак ад падлогі адціснуцца. І вось, сядаючы за стол у куце сталоўкі і адчуваючы, што настрой Лябёдкавы канчаткова сапсаваны, Іван з насьцярогаю пакасіўся на сваю былую аднаклясьніцу.

«Стралецкая» - настойка на дзіва паганая. Яе глытаеш, а яна назад лезе...

Кульнуўшы па першай, хлопцы скрывіліся, пусьцілі пад ногі згуслую сьліну і з драпежным выглядам на тварах сталі зьдзіраць зубамі скуру зь перасохлых рыбін.

Пару хвілінаў яны сядзелі моўчкі, грызьлі каляную

рыбу, аж пакуль Лябёдка не пацягнуўся за бутэлькай і, наліваючы па другой, не працадзіў:

- Яны яшчэ пашкадуюць...

Наліў сабе Лябёдка ў два разы болей, чым сябру, і пад пільным Іванавым позіркам трунак уліўся ў ягонае нутро нат не зварухнуўшы коўціка.

- Два разы вымпэл атрымлівалі... Курва гэтая, Мандрычыха, на сэмінары езьдзіла. А безь мяне... раз на тыдзень круцяць, і стужка праз мэтар ірвецца. - Былы кінамэханік выплюнуў на падлогу рыбіну луску, выцягнуў з кішэні пачак «Беламору».

- А хто круціць? - пацікавіўся Іван, мерачыся запусьціць пальцы ў пачак з куравам.

- Як хто - Мандрычыха!

- Мандрычыха?! - а яна ўмее?

Былы кінамэханік чыркнуў запалкаю, паднёс да папяросы, і жоўты вогнік зь вясёлым імпэтам мільгануў у ягоных вачах.

- Мішка Бадуноў круціць. А яна так... ажыцьцяўляе агульнае кіраўніцтва. - Лябёдка зацягнуўся папяросай, з шумам выпусьціў дым, і той паволі паплыў у бок вакенца раздачы.

- Мішка ж непаўналетак, дык яна да Даўгалёва езьдзіла, дамаўлялася. Казалі, пляшку белай ставіла. Ну і дамовілася, старая курва. Палову стаўкі сабе забірае, а палову Бадунісе аддае.

За сьценкаю зноўку штосьці грукнула, палілася вада, і пачуўся зычны голас Пятроўны:

- Хопіць смаліць! Не ў хляве!

Яшчэ празь імгненьне ў пройме раздатачнага вакенца мільгануў раззлаваны твар Пятроўны, вакенца зачынілася, і загадчыца, ужо прыглушаным голасам,

дадала:

- Закругляйцеся. Хутка зачыняць буду.

Шызы дым, які дагэтуль плыў у ваконца, папоўз па сьцяне, ахутаў шыльду зь нязграбным надпісам «У нас не курят».

- Задзяўбла, - прашаптаў Лябёдка, затушыў аб нутраны бок стала папяросіну і, падвысіўшы голас, выдыхнуў: - Куды зачыняцца?! Сталоўка да сямі працуе!

- Да дваццаці сямі! - крыкнула за сьценкаю Пятроўна, пасьля чаго Лябёдка хітнуў галавой і пацягнуўся за бутэлькаю.

Рэшткі «Стралецкай» былі разьлітыя пароўну.

- Азярышчанцы казалі - Даўгалёў ня ведае, што й рабіць. Кінамэханікі ж на дарозе не валяюцца! Ня сёньня-заўтра папросіць заяву напісаць. Толькі во яму! - Лябёдка ляпнуў даланёй левай рукі па выстаўленай правай і падняў шклянку.

- Люська! Чаго ты тут мацюкі слухаеш?! Ідзі дахаты! - азвалася за сьценкаю Пятроўна, і Люська, захлопнуўшы кнігу, без асаблівай ахвоты падалася да вешалкі.

- Пятроўна, куды ж яна?! Хай пачакае... я ж папраўдзе жаніцца хачу! - жартаўліва заенчыў Лябёдка, а Люська, зьняўшы зь вешалкі паліто, крутнула пальцам ля скроні.

- У каго, у цябе? - крыкнуў увасьлед дзяўчыне былы кінамэханік, але тая не пачула - выбегла на двор.

Ад дзьвярэй павеяла халадэчай. Ачуўшыся, Іван пацёр лабешнік, п'янавата ўтаропіўся ў супольніка. Ад выпітага кружылася галава, у вушах шумела і ён зусім ня цяміў - пра што вёў гаворку сябра.

- У труне я бачыў гэты кінапракат! - гукаў суразмоўнік, раз-пораз пляскаючы даланёй па валізе. У валізе пры гэтым штосьці бразгала. - Як захачу, дык буду мець болей, чым той Даўгалёў... з усёй яго канторай. - Слова

сьвядомасьць, здаваўся яму пошумам вады ў інтэрнатаўскім душы. Ён стаяў пад цёплым дожджыкам, вада лілася на грудзіну, на плечы, казытліва зьбягала па сьпіне, і настылая душа ягоная расьцякалася разам з вадою ў акіяне цеплыні і лагоды. Паваліўшыся ў траву, ён на кароткую хвілю апрытомеў, разьмежыў павекі, але ўжо ў наступнае імгненьне замарач ізноў апанавала сьвядомасьць, і хваравіта-чырвоная імгла ізноў замітусілася ў вачах.

- Ваня, ты што?! - усё адно як як з пустой бочкі прагучаў знаёмы голас. - Падымайся... Недалёка ўжо... агні вунь сьвецяцца.

Яго падхапілі пад пахі, некуды пацягнулі; барвовы туман клубіўся навокал, і гарачкавыя патарочы падымаліся з туману, трывожачы душу сваімі неакрэсьленымі і страшнымі абрысамі.

Сьвядомасьць вярнулася зьнянацку. Ён на дзіва выразна пачуў ракатаньне рухавіка і адрывістыя галасы.

- З моста зваліліся. Мокрыя ўсе... - сіпла гукаў Лябёдка, і ў адказ яму нехта кашлянуў і гэтаксама прастуджана прамовіў: - Ну, дзе дружбан?

- Тут... трызьніць ужо. Два кілямэтры на сабе цягну.

Яго зноўку падхапілі, павялі да машыны, і ён, баючыся страціць прытомнасьць, перастаўляў непаслухмяныя ногі, хілячыся галавою да шырокага Лябёдкавага плечука.

**IV**

Прачнуўшыся, Іван акінуў хату няўцямным позіркам і са зьдзіўленьнем адчуў, што цела ягонае зрабілася бязважкім і што ён ня чуе ні рук, ні ног. Адчуваньне гэтае было такім яскравым, што Іван нават баяўся паварушыць чэлясамі: а раптам іх і сапраўды няма. Адарваўшы патыліцу ад падушкі, ён паварушыў нагою, а ўбачыўшы, як варухнулася коўдра, зморана апусьціў галаву на падушку.

У вушах стаяў лёгкі звон. Было такое ўражаньне, што вушы закладзеныя пульхнатай ватаю, і скрозь гэтую вату прарываліся гукі: мернае цíканьне ходзікаў і бязладная матчына гамонка.

- Хрося, бедная, б'ецца... Пятнаццаць кароў доіць, дзяцей даглядае... А гэты... толькі і глядзіць - дзе б хто бутэльку паставіў, - гаманіла на кухні маці, і Іван, прыслухаўшыся, зразумеў, што гаворка ішла пра Хведзьку Траяна.

- Зь сястрой судзіцца... І з-за чаго?!

- З-за гаўна! - пачулася за сьценкаю. Зьвяглівы голас гэты належаў загадчыцы сталовай.

- Колькі ён гэтага гною з фэрмы вывез! Табе, Пятроўна, скажы, дык не паверыш! Нават у Азярышча вазіў - ленінградцам, што хаты пакуплялі. Піў потым цэлы месяц.

- А чаго ня піць? - азвалася Пятроўна. - Карову ня дзержыць...

- Якая там карова! - маці бразнула талеркамі, прайшлася па кухні. - На карову сена трэба накасіць, ды падаіць а пятай раніцы... А жонка ж леная, як палка... Гаўна на лехі - і таго няма. Ад маткі цягнуць.

Сабраўшы сілы, Іван павярнуўся на бок, ложак ціха рыпнуў, і гаворка на кухні аціхла.

- Сьпіць, - шапятнула маці, адгарнуўшы фіранку. - Тры начы гарэў... раніцою толькі тэмпература спала. Пацеў жа - аійо! Не пасьпявала прасьціны мяняць. - Маці ўздыхнула, і голас ейны набыў пагрозьлівае адценьне. - Выправіўся... з п'янюгам гэтым... Лябёдчыха казала - з мосту зваліліся. Дзіва што... Вочы заліўшы, куды хочаш уваліўшся.

- Гэта ж мая Люська ўчора ў клюб хадзіла, - ледзь чутна прагугніла Пятроўна, падладжваючы свой зьвяглівы голас да матчынага шэпту, дык там Мішка Раднёнак, што на малакавозцы робіць, пра Лябёдку расказваў.

Казаў, езьдзілі зь ім аж у Вялікарусію. Лябёдка тамака матацыкал у кустах кінуў. Паўдня шукаў, пакуль знайшоў. А потым мальцу нейкаму гарэлку вазілі.

- Гэта, відаць, шафёру, які іх прывёз, - прамовіла маці, адчыніла дзьверы, і Пятроўна, грукнуўшы ўслонам, запытала: - Ну што, пасунем?

Маці зь Пятроўнай выйшлі з хаты, а Іван, пазяхнуўшы ў жменю, кульнуўся на жывот і ў той жа міг заснуў. Спаў ён нядоўга і абудзіўся ад зыкаў, што далятаді з прысенку.

- Не пушчу! - грымеў, зумкаючы ў даёнках, матчын голас, і ў адказ ёй нехта прасьцюджана і басавіта паўтараў: - Па справе... гасьцінец перадаць... - Хвіліну ў прысенку зацята барукаліся, здушана крахталі, на падлогу звалілася даёнка, і прасьцюджаны бас прасіпеў: - Ды ня зьем я яго, халера!

Дзьверы адчыніліся, пачуўся сіплы кашаль, і толькі па гэтым кашлі пазнаў Іван таго, хто шчаміўся ў хату.

- Ну, падлюка, глядзі... Зараз участковага паклічу! - пакрыўджана вымавіла маці, а яшчэ празь імгненьне падчэпленая брылём моташлема фіранка памкнулася ўглыб сьвятліцы.

- Панавешвала тут, - буркнуў Лябёдка, блытаючыся ў фіранцы, а выблытаўшыся і ўбачыўшы Івана, зьняў з галавы шлем і вінавата пасьміхнуўся. - Ну як ты? - голас Лябёдкавы быў дарэшты зьнявечаны прастудай.

- Нічога, - адказаў Іван, кіўком галавы запрашаючы госьця прысесьці на ложак.

- Ледзь прарваўся, - Лябёдка паглядзеў у бок уваходных дзьвярэй, уздыхнуў і, ссунуўшы коўдру, сьцярожка прысеў на край пасьцелі: - Дык, кажаш, нічога?

- Нічога, - паўтарыў Іван і ў сваю чаргу запытаўся: - Як нага? Баліць?

- На мне, Ваня, як на сабаку - на другі дзень

загойваецца. Вось толькі глытка ные, - левая Лябёдкава рука кранулася вафэльнага ручніка, якім была абкручана шыя, а правая скамечыла вушанку, якая ляжала на каленях.

Іван пазнаў сваю шапку.

- Во, шапка твая, - усхапіўся Лябёдка, - забыўся тады ў бабулі. Я ж зь Берасьцянкі еду. Завёз Мар'яне падсьвінка ды сто рублёў грошай даў. Добрая бабуля... Пра цябе спытвала. Даведалася, што хворы, дык забедавала. Во! - сябрук таропка выцягнуў з кішэні слоік з-пад гарчыцы, - мёду табе перадала... лякуйся.

Іван расчулена шморгнуў носам і, памаўчаўшы, запытаў:

- Дык я што... ну там, на дарозе, зусім вырубіўся?

- Вырубіўся, - кіўнуў Лябёдка. - Я цябе два кілямэтры на сабе цягнуў. Цягну, а ты мяне за вуха кусаеш ды просіш гарачую ваду адключыць. Трызьніў, напэўна. Добра яшчэ, невельскія хлопцы на ЗІЛе падвярнуліся. Да самай хаты давезьлі. Мы на заўтра ў Невель езьдзілі. З Раднёнкам. Пару пляшак паставілі, потым яшчэ ўзялі. Думаю во ў Невель падацца... Хлопцы тыя паабяцалі ў тэлеатэлье ўладкаваць. Так што, магчыма, хутка ў горад перабяруся. Хопіць ужо бычкоўскую гразь таўчы.

Лябёдка закашляўся, роспачна чхнуў, выцер нос ражком уціральніка, які спавіваў шыю. Пару хвілін яны маўчалі, потым Лябёдку зноў пачаў біць кашаль, і ён, прыкрыўшы даланёю рот, падняў з падлогі матацыклетны шлем.

- Ну што, Ваня... пайду, - вырвалася зь Лябёдкавай грудзіны, - а то мяне таксама дрыжыкі бяруць.

Калі за Лябёдкам зачыніліся дзьверы, Іван пакруціў у руках слоік і нечакана заплакаў. Ён і сам ня мог зразумець - адкуль зьявіліся гэтыя сьлёзы, што завілымі раўчукамі зьбягалі па скронях, і кот Барыс, які сядзеў на печы, са зьдзіўленьнем пазіраў на яго, сьвецячы ў

паўзмроку сваімі зялёнымі вачыма.

## Вясновая песьня шпака

Кожны раз увесну, калі прылятаюць птушкі і высокае неба скаланаецца ад птушынага граю; калі ў гарадзкіх парках і на гародах паляць леташнюю лістоту і жоўтыя лапы дыму цягнуцца, нібыта кітайскія цмокі, да дрыготка-зьвінючага сонца, памяць мая абуджаецца і я вяртаюся ў тую далёкую, немаведама якога году вясну, бачу шпака, што сьпявае на разгалістай яблыні, і маці, якая стаіць на ганку, зь вінаватай усьмешкай паглядаючы на пяюна. «Шпак», - прамаўляе маці й вочы ейныя захоплена бліскаюць. Я таксама гляджу на птушку і ў гэты момант за сьпінай маёй чыркае запалка і бацька, прыпаліўшы папяросу, вясёлым голасам гукае: «Ну, здорово живёшь... Какой же это шпак? Это скворец!» Мы з бацькам сьмяемся зь нехлямяжага матчынага слова, і маці, усё з той жа вінаватай усьмешкай на твары, ледзь чутна прамаўляе: «Скворец».

З таго красавіцкага ранку мінула сорак, а можа й болей гадоў. І сёньня, згадваючы вясёлы бацькавы сьмех і матчыну ўсьмешку, я разумею, што яны нездарма захаваліся ў цёмных спратах памяці, бо былі своеасаблівым кодам маёй сутнасьці, жывымі генамі беларускай і расейскай мэнтальнасьці.

Дзьве душы - беларуская ды расейская - жывуць ува мне з тае пары. Ім цесна пад адной скурай, яны штодня крояць на часткі маё ego і, відаць, я змагу ўсьвядоміць сябе беларусам толькі на боскай пасьцелі, калі адна душа вылузьнецца са скуры, а другая - беларуская - затрымаецца на хвіліну. І калі знадворку будуць сьпяваць шпакі, і жоўтыя лапы дыму будуць цягнуцца да сонца, а на белых вуснах маіх застыне вінаватая ўсьмешка, ведайце: я памёр беларусам.

Творы падобнага жанру вымагаюць прэамбулы.

Вымагаюць нейкай замяшанай на лірыцы мудрагелі, хаця ў наш цэйтнотны час падобныя ўступы глядзяцца як анахранізм (слова вытворнае ад народнага выразу «А на храна?»). Зрэшты, анахранізм пануе сёньня ня толькі ў мэмуарыстыцы: ім працятае ўсё наша жыцьцё («А на храна нам гэтая мова?» - кажуць простыя беларусы; апошняе слова можна замяніць дэмакратыяй, рынкам альбо незалежнай дзяржаваю). Анахранізм стаўся ідэалягічным падмуркам краіны і незьлічоныя анахраністы ў розныя часіны сьвідравалі непадатную аўтараву сьвядомасьць.

«Якога хрэна ты, смаркач, лезеш у палітыку? Хутка табою займуцца кампэтэнтныя органы», - казаў аўтару, тады яшчэ вучню дзесятае клясы, родны бацька.

«Навошта табе, маладому чалавеку, расейцу, беларуская мова?» - пытаўся афіцэр КГБ, ушчыльную заняўшыся аўтарам увосень 1974 году.

«На якую халеру табе гэтая беларушчына? Займіся ты лепш сям'ёй», - казала аўтару ягоная жонка неўзабаве пасьля вясельля.

«Віця, не чапляйся да камуністаў - прыдушаць», - казала аўтару ягоная цешча.

«Вінцэсь, на якую халеру ты марнуеш час? Беларускія тэксты нечытабельныя. Напішы што-небудзь па-расейску», - заахвочваў аўтара адзін зь мясцовых расейскамоўных пісьменьнікаў.

«Ну на што ты паклаў сваё жыцьцё? Пра які народ ты дбаеш? Народу даўно няма. Ёсьць п'яныя трактарысты, якія скруцяць цябе, плюнуць у твар і здадуць лукашыстам... Твае сябрукі хоць штосьці, ды паймелі, а што займеў ты? Кучу хваробаў? Сапсутыя нэрвы? Ну што ты маўчыш?»

Маўчу, бо ня ведаю - што сказаць у сваё апраўданьне.

У прадоньні маёй расейскай душы часьцяком варочаліся падступныя думкі і сьпела перакананьне,

што Беларушчына - гэта бясконцая дарога да небасхілу, да таго месца, дзе зьліваюцца ў адно чорная зямля рэальнага і нябесны блакіт прыдуманага сьвету. Да небасхілу нельга дапяць, аднак, угледзеўшы - колькі замардаваных беларусаў ляжыць на ўзьмежку той дарогі і пабачыўшы - ува што ператвораны рэальны сьвет, - я кожнага разу апантана ўглядаюся ў небасхіл і пакрыўджаную беларускую душу поўніць нязгода.

«Гэта ў цябе ад дзеда. Той таксама не любіў камуністаў», - паведаміла мне родная цётка, калі я ўпершыню загаварыў зь ёю па-беларуску і падзяліўся - а гэта было ўлетку 1971 года - сваімі жыцьцёвымі інтэнцыямі. Цётка Вольга жыла ў Піцеры, лічыла сябе пушкіністкай, а таму ўспрыняла мае пошукі Радзімы як небясьпечную дурноту, выказаўшы меркаваньне, што мяне зьбілі з тропу гэбраі і палякі.

Адсутнасьць гістарычнай памяці - адметная рыса беларускага соцыюму. Тая ж вайна ды пакуты бацькоў мала цікавілі маё пакаленьне. Я ў маладосьці наагул не любіў слухаць рэтраспэктыўных аповедаў, і з усяго сказанага маці запомніў толькі, што «немец доўга стаяў пад Віцебскам», і што па вайне таўклі на мязгу ды елі бярозавую кару. І толькі захапіўшыся беларушчынай, стаў цікавіцца сваімі продкамі і тым - чым займаліся мае крэўныя за далёкім часам.

Продкі мае па матчынай лініі паходзілі з Гарадоцкага павету, жылі ў мястэчку Бычыха і займаліся ганчарствам. Прадзед, нібыта, трымаў цэлую арцель і вазіў прадаваць глякі, збаны ды макітры ў сталіцу імпэрыі. Ганчарныя кругі шпарка круціліся, справе, здавалася, ня будзе зводу, але напярэдадні японскай вайны прадзед захварэў на сухоты - гэта была прафэсійная хвароба ганчароў - арцель пазбылася спраўнага кіраўніка і неўзабаве разьбеглася. Прадзеду пасьля таго давялося заняцца земляробствам: ён набыў кавалак зямлі ў вёсцы Шакурова, паставіў крытую гонтам хату-пяцісьценку, у якой і зьявілася на сьвет мая маці.

...Тым летам у Шакурове, як і ў іншых беларускіх

вёсках, гарлалі пеўні, рыкалі дагледжаныя каровы, вяскоўцы касілі на загуменьні канюшыну, і ўражаны вясковай ідыліяй камуна-кадук напісаў на скрыжалях жыцьця крывавае слова «калектывізацыя».

Падчас калектывізацыі палова шакуроўцаў паехала ў Сыбір, на раку Зею, а другую палову камуноіды аблупілі да жывога і сагналі ў калгасы.

«Гаспадарка ў нас была ладная, аднак парабкаў ня бралі, таму і ўратаваліся», - паведаміла падчас задушэўнай размовы цётка Вольга, і калі я, малады і гарачы, запытаўся - чаму ж не было супраціву, чаму мужыкі ня ўкінулі якога басяка ў калодзеж, цётка адно толькі ўздыхнула і на твары ейным адбілася ўсё тая ж пакутніцкая ўсьмешка.

Менавіта тады мяне ўпершыню наведала думка аб калектыўным мазахізме беларусаў. Калі ж, крыху пазьней, я прачытаў творы нашых пісьменьнікаў, у якіх з хваравітай асалодаю апісваліся пасьляваенная нястача і пакутніцкі лёс вясковых бабуль, дык канчаткова пераканаўся ў мазахісцкім пачатку беларускай душы.

«Божухна... як жа мы, Віця, страшна жылі... Колькі мы з тваёй мамай зьведалі пакутаў... Бацька наш, твой дзед, памёр ад тыфусу, хату немцы спалілі. Прыехалі ўзімку, акурат перад Новым годам, сагналі баб ды дзяцей у кучу, і шуганулі вагню пад стрэхі... А ўсё з-за партызанаў...»

Я слухаў цётку, ноздры мае кранаў пах зьляжалага сьнегу, уваччу мітусіліся вахлачыя постаці партызанаў, з ласкі якіх немцы спалілі матчыну хату, а разам зь ёю і палову краіны, і, па прыкладу Ў.І.Леніна, думаў пра Беларусь і пра свой народ. Пра народ, які стагодзьдзямі гібеў, патанаў у п'янстве, у брудзе, у вялікай і дробнай хлусьні; голасна пяяў хваласьпевы розным хамулам і выблядкам, што сядзелі на ягоным карку; калі надта прыпякала - стагнаў, расьціраў па твары крывавыя смаркачы, і аніразу не падняўся грамадой на абарону сваёй годнасьці, не засьведчыў свайго памкненьня да

людзкага жыцьця.

Кажуць, што немаўляты ў першыя дні па нараджэньні бачаць сьвет дагары нагамі. Відаць, такім, дарэшты перакуленым, і ўбачыў я свой Полацак з вокнаў тамтэйшай Краснай больніцы. Надарылася гэта ў верасьні 1953-га.

Пабачыць сьвет у падобным ракурсе было ня толькі цікава, але й павучальна. Немаўляці яшчэ не ўсьведамляла сябе жывой істотай, а ўжо мусіла зразумець: у гэтай краіне ўсё дагары нагамі. І сапраўды, калі ў іншых краінах на гары, пры ўладзе, былі самыя разумныя, сумленныя і адукаваныя, дык у Краіне Саветаў да таго часу ўсё разумнае, сумленнае і адукаванае ляжала ў магіле, а наверсе завіхалася ўсё тупое, подлае і неадукаванае. Дарэчы сказаць, акурат у верасьні пяцьдзесят трэцяга ўсе гэтыя хрушчовы, молатавы ды іншыя сталінскія кілеры ладзілі свой пленум і дзялілі ўладу.

Нарадзіцца ў Полацку, можна сказаць, на цьвінтары Сьвятой Сафіі, пабачыць з вакна радзільні перакуленую апсыду старажытнага храму і ня стаць, кажучы словамі пісьменьніка Л. Прокшы, бебурнацам, я проста ня мог. Энэргетыка сьвятога места працяла маю недалугую істоту, у мазгох індуцыраваліся токі, і, паблукаўшы па зьвілінах, заклалі ў іх жыцьцёвую праграму: аднаўленьне Вялікай Крывіі. Спробы рэалізацыі такой праграмы былі небясьпечныя дзеля здароўя, а між тым у справе гадаваньня здаровага цела ўзьніклі складанасьці: у маці пасьля галадухі не было малака і давялося смактаць разбаўленае казінае малако.

Таго ж дня, як я нарадзіўся, бацька, малодшы лейтэнант Савецкай Арміі, прыйшоў на службу з трыма пляшкамі гарэлкі, ахвіцэры павіншавалі яго з нараджэньнем першынца, узялі па чарцы і па старой армейскай завядзёнцы сталі падбіраць імя. Дзеля гэтага напісалі на паперках уласныя імёны, кінулі паперкі ў фуражку і бацька з наструненай усьмешкай на твары выцягнуў Віктара. Пасьля таго майму «хроснаму», пад ухвальныя воклічы прысутных, давялося шыбаваць у

краму яшчэ па тры пляшкі.

Такім чынам, мяне назвалі Віктарам, але імя гэтае мне зь дзяцінства не падабалася і ў год свайго паўналецьця я мусіў паглыбіцца ў нетры анамастыкі, шукаючы яму беларускі адпаведнік. Калі б на той час пад рукой быў слоўнік Ластоўскага я б, відаць, ахрысьціў сябе Віктусём, але пра той слоўнік у 71-м годзе не было й почуту, таму давялося доўга перабіраць магчымыя варыянты, аж пакуль на вочы не патрапіла назва аповесьці Барыса Мікуліча «Жыцьцяпіс Вінцэся Шастака». Імя Вінцэсь лагодзіла слых сваім мяккім канчаткам, які этнічныя расейцы ня ў стане прамовіць (жонка аднаго майго сябра, кубанская казачка, і дагэтуль кажа «Вінцэс»; уральцы, зь якімі я працаваў на Поўначы, называлі мяне Вінцэстам; а татарын у цывільным, што прыехаў у наш таёжна пасёлак з двума міліцыянтамі, ад парога пагрозьліва запытаў: «Грамадзянін Пінцэт?»), да таго ж захоўвала пачатак першароднага імя і, такім чынам, улетку AD MCMLXXI у Беларусі на аднаго Вінцэся стала болей.

Беларусізацыя імёнаў наагул занятак ня зь лёгкіх. Памятаю, свойчас шмат пакутаў на гэтай ніве зьведаў Сяржук Сокалаў-Воюш - тады яшчэ проста Сяргей Сокалаў. Сябруку таксама муліла ягонае імя і ён дзень да ночы спрабаваў надаць яму крыўскае гучаньне. «Серы, Сергусь, Сяржант...» - працяглы час мармытаў малады паэта, нарэшце, паехаў у Менск, на кансультацыю да Вінцука вячоркі,але й той ня даў рады зьбеларусіць ягонае імя.

Аднойчы пад Новы год ахвяра самабеларусізацыі ўвалілася да мяне ў кампаніі Анатоля Сідарэвіча, які прыехаў зь менску ды захварэў і ляжаў у мяне на канапе. Мы ўчацьвярох сталі абмяркоўваць сокалаўскую праблему, нечакана за левым вухам у мяне штосьці шчоўкнула, мазгі ўраз прасьвятлелі і я гучна прамовіў: «Сяржук!» Запанавала няёмкая цішыня, якую праз пару хвілінаў парушыў спадар Сідарэвіч: «Ды што вы, бляха, сяр... ды яшчэ і жук...» Пасьля такіх словаў дзядзька Анатоль хваравіта кашлянуў і кульнуўся на

левы бок.

Праз пару тыдняў паэта, уздыхнуўшы, перапытаў: «Дык, кажаш, Сяржук?»

«Сяржу-ук», - перакаванаўча прагугнеў я ў адказ.

«Прозьвішча вось толькі расейскае», - працягваў свае нараканьні сябар. «Трэба нейкі прыдомак... Як на твой слых - Сокалаў-Воюш - гучыць?»

«Гучыць, - кажу, - а Воюш, гэта адкуль?»

«Матчына прозьвішча», - суцішна прамовіў Сяржук і, памаўчаўшы, дадаў: «Продкі мае, няйначай, былі воямі».

А неўзабаве мы зь Сержуком Сокалавым-Воюшам паехалі ў Менск, на сэмінар маладых пісьменьнікаў. У першы ж сэмінарны дзень, пабачыўшы ў Сержуковых руках сшытак, у які сябрук запісваў розныя бзікі і хохмы, я вялікімі літарамі на пісаў на вокладцы «Сшытак Сержука Сокалава-Воюша». Удзельнікі сэмінару разза разам перачытвалі надпіс і ўрэшце рэшт прызналі такую мянушку геніяльнай. На трэці дзень у Каралішчавічы, дзе адбывалася імпрэза, завітаў спадар Сідарэвіч, пачуў, што ягонага наваполацкага прыяцеля ўсе скрозь называюць «Сяр ды яшчэ і жуком», і скрушна махнуў рукою. А дзесьці праз пару гадоў Сержукі пайшлі касякамі і ймя гэтае сталася адным з самых папулярных у асяродку беларускай моладзі.

Вернемся, аднак, у Полацак - у пракаветнае і разам з тым глухое і правінцыйнае места. Места, дзе нарадзілася шмат славутых асобаў, і адкуль усе яны, увабраўшыся ў сілу, зьяжджалі - ці то ў Палестыну (Эўфрасіньня), ці то ў Вечны Горад (Параскева), ці то ў Прагу (Францішак), ці то ў Масковію, куды свойчас падаўся Сымон. Традыцыя такая захавалася і ўсе мае сябры цягам апошняга дзесяцігодзьдзя падаліся ў шырокі сьвет. Уладзімір, Лявон ды Навум зьехалі ў Менск, Сяржук - у Прагу, Якуб - у Фіншчыну. Полацкае нацыянальнае котлішча расьцярусілася па сьвеце і

вецер часу - надта пераменлівы на нашых шыротах - раскідаў за адным махам і саламяны будан, які мы сьпехам зьляпілі і які неразважліва назвалі Беларускім домам.

Мне і самому даводзілася шмат разоў зьяжджаць з родных мясьцінаў. Ну а першым разам я паехаў «у віры на юры» ў матчыных абдоймах, надзейна спавіты двума пуховымі хусткамі. Вайсковую частку перакідвалі ў Ідрыцу (былая Вялікалуцкая вобласьць, на паўночнай мяжы Вялікай Крывіі) і афіцэрскія сем'і мусілі ехаць у таварным вагоне разам з фікусамі, патэфонамі, камодамі, катамі (іх пры пярэбарах запіхвалі ў мяхі) ды іншым хломаздам. Мазгі тады яшчэ ня мелі блёку памяці і ўсё ж у іх адбілася туманная рака і размытая белая пляма на даляглядзе. Я часьцяком бачыў іх у сьне, доўга ня мог даўмецца - адкуль яны ўсплываюць, і толькі нядаўна - гадоў, можа, пяць таму - выйшаў, блукаючы па Задзьвіньні, на дзьвінскі бераг і ўгледзеў тое, што сотні разоў бачыў у сьне: туманную раку і размыты, крануты лёгкай ружавізною, відарыс Сафійскага сабору.

У Ідрыцы мы пражылі каля двух гадоў - блёк памяці ўжо працаваў, - і мне яскрава запомнілася, ізноў-такі, тамтэйшая рака. Дакладней, не сама рака, а вышка, зь якой жаўнеры сігалі ў ваду. Мы з маці гадзінамі сядзелі на беразе і я пішчэў ад захапленьня, калі чарговы жаўнер, узьбіўшыся на вышку, выстаўляў наперад рукі і з галавакружнай - так мне тады здавалася - вышыні ляцеў у ваду. Ну і, вядома, у гарэзнай галаве высьпеў амбіцыйны плян: залезьці на скочню і таксама, па загаду даўгалыгага старшыны, даць нырца наперад галавою. І вось аднойчы я высьлізнуў са двара, пабег да ракі і - дзеля пачатку - бухнуўся ў ваду з драўляных масткоў. На шчасьце, поруч перылі бялізну афіцэрскія жанкі - яны й выцягнулі мяне, ужо непрытомнага, на бераг. А яшчэ праз пару хвілінаў, пачуўшы жаночы лямант, да ракі прыбегла зьбялелая маці. З таго часу я стаў пабойвацца вялікай вады і назаўсёды пазбыўся амбіцыяў.

Узімку 1956 году, напярэдадні «гістарычнага» 20-га зьезду КПСС, вайсковай частцы ізноў давялося мяняць месца дыслякацыі і сям'я наша апынулася ў Люцыне (па-латыску - Лудзе). Тут таксама было процьма вады: два вялізных возера, рака, якая іх лучыла і на якой стаяла невялічкая, пабудаваная за часамі Ульманіса, гідраэлектроўня. На запрудзе дзень да ночы шумела вада і шум гэты не даваў спакою маёй маці. Яна нават упрошвала бацьку пераехаць на новую кватэру - хай горшую, але далей ад ракі, а калі ўладкавалася на працу, знайшла мне няньку - сямідзесяцігадовую немку Зэльму Адольфаўну.

Зэльма Адольфаўна была адметнай асобай: у маладосьці скончыла Інстытут шляхетных дзяўчат, ведала некалькі моваў, бачыла і нават размаўляла з імпэратарам Міколам II, якога называла «самым прыстойным чалавекам у Расеі» і - пра гэта я даведаўся з пазьнейшых матчыных аповедаў - ненавідзела камуністаў. Падставы дзеля нянавісьці былі важкія: муж гадаванкі Смольнага інстытуту да вайны працаваў у Латыскім банку, меў два дамы ў цэнтры Рыгі, і калі ў саракавым годзе Прыбалтыку апанавала Чырвоная Армія (па-казаску Кзыл-Арда), мусіў падацца ў Казахстан і назад не вярнуўся.

Няньцы, паўтаруся, было семдзесят гадоў, але яна прыгожа апраналася (перашывала старыя строі), фарбавала вусны, купляла на апошнія капейкі букеты канвалій і фіялак, цярпець не магла слова «баба» і прымушала мяне, а таксама навакольную дзятву называць яе поўным імем. Прамовіць у чатыры гады такое імя было цяжка, таму я яго дарэшты сымпліфікаваў, называючы няньку Зэльмадофанай.

Маразянымі ранкамі мы зь нянькай блукалі па месту і абавязкова заходзілі на старыя могілкі. Прымружыўшыся і паправіўшы капялюшык, Зэльмадофана кожны раз перачытвала эпітафіі на магілах остзэйцаў - кзыл-арда яшчэ не пасьпела іх зьнішчыць - і цяжка ўздыхала. Гэтыя ўздыхі я добра запомніў. А яшчэ запомніў як мы, заружавелыя ад

марозу, ішлі зь нянькаю па вуліцы і Зэльмадофана, у адказ на пытаньні стрэчных: ці ваш гэта ўнук? - задаволена ківала галавой.

І вось мінула зіма, потым вясна і мая magistria, атрымаўшы дазвол уладаў, зьехала ў Капэнгаген, да сваёй роднай сястры. Перад ад'ездам упрошвала бацьку адпусьціць мяне з маці ў Данію: «Мы там уладкуемся, а потым, Леванід Васілевіч, і вы пад'едзеце...» Няньчына сястра мела ў Капэнгагене мылаварню - вось Зэльмадофана і надумала вывезьці «ўнучка» на Захад ды зрабіць «каралём мыдляных бурбалак» (балазе, нашчадкаў у сясьцёр не засталося - усіх пазабівала ў вайну). Прапановы такія тхнулі здрадаю Савецкай Радзіме, таму ў бацькі падымалася фуражка на галаве і зь лёгкім поканьнем адклейваліся пагоны. Потым, ужо з Капэнгагену, нянька надаслала пасылку, затым пару лістоў, але адказу не дачакалася: радзіне савецкага афіцэра ліставацца з уладальнікамі капэнгагенскіх мылаварняў аніяк не выпадала.

Шмат што забылася ў жыцьці, згінула ў мроіве часу, а сівагаловая немка ў чорным капелюшы і дасёньня зьяўляецца мне ў снах. Дый дзіва што: дзіцячыя ўражаньні - самыя трывалыя. Яны, выбачайце за труізм, фармуюць характар. І я дзячу выхаванцы Смольнага інстытуту за тое, што з маладых гадоў узьненавідзеў хамаў і камуністаў. Зрэшты, прыхаваныя недзе ў мазгох, дзіцячыя ўражаньні часьцяком урываюцца ў нашую сьвядомасьць. Менавіта гэтыя «інвазіі» і спарадзілі папулярную ўва ўсе часы тэорыю перасяленьня душаў: людзі, адчуўшы зьнянацку «паўтор сытуацыі», паланёныя дзіўным пачуцьцём, што «так ужо некалі было», схільныя лічыць такую зьяву ня рэхам далёкага маленства, а праявай «папярэдняга жыцьця». Ну а бывае і так: пачутае ў маленстве слова можа, праз шмат гадоў, дарэшты апанаваць сьвядомасьць і ўчыніць сапраўдныя зрухі ў душы.

5 лістапада 1967 году - тым часам, калі ўсё прагрэсіўнае чалавецтва рыхтавалася сустрэць 50-я ўгодкі савецкай улады, я ляжаў у больніцы (хварэў на жаўтуху) і,

змагаючыся з хваравітай млосьцю, ад ранку да ночы круціў ручку настройкі маленькага двухдыяпазонавага радыёпрыймача. На сярэдніх хвалях гучалі рэвалюцыйныя маршы, грымелі працуоўныя рапарты на казаскай мове, сьпяваў хор матросаў з опэры Вано Мурадэлі «Кастрычнік», а на самым краі сярэдніх хваляў надрыўна гула глушылка, пакрыаючы нечыя варожыя галасы. Колькі разоў я настройваўся на «варожую» хвалю, спрабуючы высьветліць - каго глушаць, і пасьля таго, як радыёцыркулярка на хвілю перапыніла пілаваньне, да вушэй маіх даляцелі наступныя словы: «альбанцы з кітайцамі тройчы, па-братэрску, абняліся і скіравалі позіркі на партрэт вялікага стырнавога...»

Жанчына-дыктарка пачала апавядаць пра вялікага стырнавога Мао Цзэ-дуна, а сэрца маё парывіста груккнула і, не раўнуючы, як у булгакаўскага Бэрлтёза, некуды праваліласся. Я пачуў голас Альбаніі - далёкай, дагэтуль нязнанай краіны, і душу маю працяла нейкае чарадзейнае сьвятло. Я заплюшчыў вочы і ўбачыў галавакружнай вышыні перавалы, убачыў горныя ланцугі, што, як бурлівае мора, перакочваліся, насоўваліся адно на другое і адчуў водар прывялых восеньскіх ружаў, які неўзабаве выпетрыўся, саступіўшы месца агіднаму паху хлёркі, што панаваў у нашай інфэкцыйнай палаце.

Праз шмат гадоў адзін мой знаёмы паэт, пачуўшы аповед пра Альбанію, колькі часу зацята маўчаў, затым пацёр удумлівы лоб і патлумачыў маё захапленьне з дапамогаю ўсё той жа тэорыі перасяленьня душаў. Маўляў, мой далёкі продак жыў на Балканах, бачыў высозныя горы, дыхаў водарам прывялых ружаў, а потым усё гэта, праз генэтычную памяць, перадалося мне, Вінцэсю мудрову. Я, прызнацца, такім тлумачэньнем застаўся задаволены, і мы з паэтам кульнулі чарку, памянуўшы майго альбанскага продка.

Генэза і сама прырода чалавечых захапленьняў - загадка прыроды. Але ў дадзеным выпадку ўсё тлумачыцца вельмі проста: у дзяцінстве я, відаць,

штосьці чуў пра Альбанію, магчыма, тая ж Зэльма Адольфаўна чытала мне альбанскія казкі і празь дзесяцігодзьдзе назва далёкай краіны загадкавай Атлянтыдай узьнялася зь цемрыва сьвядомасьці.

У працяг тэмы мусім заўважыць: выяўляць цікаўнасьць да чужых краёў наагул ня шкодна, а часам бывае нават карысна. Адзін мой знаёмы зацікавіўся Фіншчынай, пачаў вывучаць фінскую мову, а праз колькі гадоў перабраўся ў Гэльсынкі, дзе атрымаў пасаду ў мясцовым унівэрсытэце. Ну, зь фіншчынай усё зразумела: эўрапейская краіна, адметная культура, высокі жыцьцёвы ўзровень насельніцтва. Іншая рэч - Альбанія: краіна глухая, малавядомая, кіраўніцтва якой, да таго ж, варагавала з Масквой і сябравала з Пэкінам. Ці трэба казаць, што ў 1967 годзе, калі я ёю захапіўся, захапленьне такое выглядала як палітычна небясьпечнае дзівацтва.

Ачуняўшы ад жаўтухі, я адразу ж выправіўся ў бібліятэку, зашыўся ў кут і стаў перапісваць у агульны сшытак артыкулы з энцыкляпэдыяў і даведнікаў, якія тычыліся Краіны горных арлоў.

Карціна вымалёўвалася амаль сюррэалістычная: на дварэ 1967 год, народ шчыльна згуртаваны вакол роднай Камуністычнай партыі, а ў наваполацкай гарадзкой бібліятэцы сядзіць піянэр Віця і перапісвае з энцыкляпэдыяў сталінскай пары жыцьцяпіс Энвэра Ходжы - раскольніка камуністычнага руху, які разам з кітайскімі лідэрамі плявузгаў на партыю Леніна, яе ЦК і асабіста на таварыша Брэжнева. Ну і, вядома, на язык міжволі просіцца калямбур: піянэрскае захапленьне Віці Мудрова не магло не зацікавіць асабіста. Цяжка сказаць, калі я патрапіў у андропаўскія праскрыпцыі, але ўвосень 74-га, падчас чарговага выкліку ў славуты Камітэт, баец нябачнага фронту цікавіўся маім альбанафільствам. А яшчэ раней, у 1969-м, мною, на глебе пахвалёнай альбаншчыны, зацікавіўся яшчэ адзін чалавек - Уладзя Арлоў - сёньняшні знакаміты пісьменьнік, зь якім мы вучэліся ў аднэй школе. Аднойчы на школьным калідоры хтосьці з

аднаклясьнікаў тыцнуў яму пад скабы, змоўніцкім голасам паведаміў: «Вунь той, валасаты, Альбаніяй цікавіцца», - і кіўнуў у мой бок. Неўзабаве мы пазнаёміліся, потым пасябравалі і сяброўства нашае доўжыцца да гэтай пары.

Нешматлікія чытачы маіх аповедаў раз за разам упікаюць аўтара за несучаснасьць, часавую закамплексаванасьць і прасторавую абмежаванасьць. І сапраўды, Ёкнапатофа мая займае невялічкі лапік зямлі дзесьці на паўночным усходзе Беларусі, а яе насельнікі й дагэтуль жывуць (сапуць, керхаюць, рагочуць, плачуць, п'юць, ядуць, задавальняюць філіялягічныя патрэбы) дзесьці прыканцы 60-х гадоў. Аўтар, шчыра кажучы, і сам захрас у тым часе - часе, калі чаўны-спадарожнікі баразьнілі бяскрайнія прасторы космасу, калі ў літаратурных клясыках хадзіў Пятрусь Броўка, а ў школах ішло змаганьне з кароткімі спадніцамі ў дзяўчын і з даўгімі валасамі ў дзецюкоў, калі сьпявалі вадзім мелерман і Валеры Абадзінскі, а беларусы канчаткова здэградавалі як нацыя. Гэта былі крыху наіўныя, у меру п'яныя, крыху вусьцішныя, але дарэшты хуткаплынныя гады. І калі ў XVI-XVII стагодзьдзях, як сьведчыць гісторыя, надарыліся вялікія геаграфічныя адкрыцьці, дык на канец 60-х гадоў XX стагодзьдзя прыпалі адкрыцьці іншага кшталту. У прыватнасьці, аўтар гэтых нататак адкрыў для сябе такія фундамэнтальныя рэчы, як францускае кіно, ангельская pop-music і апавяданьні Эрнэста Гэмінгуэя.

...Студзеньскім вечарам 1968-га я сядзеў у халоднай залі наваполацкага кінатэатру «Космас» і пачуваў сябе ніякавата: народу на сэанс прыйшло зусім мала, хаця на аблепленай сьнегам афішы чырвонілася спакусьлівае слова «Францыя».

Тою парою францускія фільмы круцілі зрэдку, народу на іх набівалася як завязаць, а на «Трох мушкетораў» нават прадавалі «стаячыя» білеты. Тут жа ў залі тырчэлі рэдкія галовы і ў мяне, смаркатага юнака, быў той настрой, які навачасныыя псыхолягі назвалі б высокім узроўнем трывогі. Але вось загучала музыка, на

пакрэсьленым рухавымі пісягамі экране мільганулі тытры, і нешматлоікмя гледачы, зразумеўшы, што патрапілі «на опэру», пасунуліся да выхаду. Студзеньскім вечарам 1968-га ў «Космасе» круцілі «Шэрбурскія парасонікі».

Малады хлопец любіўся зь дзяўчынай, пайшоў у войска, патрапіў у Альжыр, дзе ішла вайна; дзяўчына тым часам нарадзіла дзіцёнка і пабралася з прадпрымальнікам... Францускі варыянт бамбейскіх кінасмаркачоў, які, па ідэі, мусіў выклікаць нэрвовы сьверб у пахвіне, спачатку захапіў, потым уразіў, а ў сваіх апошніх кадрах да таго ўзрушыў юную душу, што і цяпер, праз трыццаць чатыры гады, ужо дарэшты зьняверанапя і бяскрылая, душа кожнага разу замірае, пры першых гуках легранаўскай мэлёдыі. Я й сёньня не магу ўцяміць - чым уразіў банальнасюжэтны м'юзыкл сяміклясьніка В.Мудрова, а разам зь ім і ўсю цывілізаваную Эўропу? Шыкоўнымі валасамі маладой К.Дэнёў? Ня менш шыкоўнай музыкай М.Леграна? Творчымі знаходкамі рэжысэра Ж.Дэмі? З дапамогаю чыстай лёгікі на гэтае пытаньне не адкажаш, а між тым «Шэрбурскія парасонікі» сталіся вяхой ня толькі ў развоі эўрапейскага мастацтва, але і ў жыцьці згаданага сяміклясьніка. Жыцьцё напоўнілася новым зьместам і новай эстэтыкай. Сяміклясьнік перастаў усур'ёз успрымаць савецкую літаратурную клясыку, гідзіўся, пазіраючы на савецкіхз сьпевакоў і ў кожнай дзяўчыны, зь якой знаёміўся, абавязкова пытаўся: ці бачыла яна «Шэрбурскія парасонікі»?

А яшчэ праз пару месяцаў душа зазнала чарговае ўзрушэньне. Сябрук, зь якім мы вучыліся ў паралельных клясах, прапанаваў завітаць да свайго стрыечнага брата: брат вучыўся ў Маскве і прывёз адтуль кружэлку з запісамі ансамблю «Бітлз».

Прыйшлі да брата сярод белага дня, але той, адчыніўшы дзьверы, паўстаў перад гасьцямі дарэшты заспаным і страшэнна незадаволеным. «Ізноў...» - прастагнаў студэнт і стогн гэты выдаваў на тое, што я быў далёка ня першы, хто прыцёгчся паслухаць кружэлку. Сябрук

матлянуў галавой, маўляў, не зьвяртай увагі, і мы на цырлах прайшліся ў пакой. На прайгравальніку аграмаднай радыёлы ўжо стаяла супрафонаўская «саракапятка».

- Усе іх лаяць, а між іншым прыемная музыка, - заўважыў сябрук, уключыўшы радыёлу.

Пра «Бітлз» на той момант я ўжо чуў шмат розных плётак, чытаў разгромны артыкул у «Камсамольскай праўдзе» і нават бачыў «бітлух» на экране. Летась на дваровай агітпляцоўцы круцілі кіначасопіс «У краінах капіталу» і тамака мільгануў сюжэт: нечыя голыя ногі калацілі па клявіятуры піяніна, гучай забойны музон (здаецца, гэта быў «Rock'n roll music» Чака Бэры), і суворы голас за кадрам тлумачыў: «А гэта - куміры заходняй эстрады, сумна вядомы «Бітлз». Паглядзеўшы кінаролік, я тады ўсур'ёз падумаў, што «куміры заходняй эстрады» злоўжываюць кока-колай, а ўпіўшыся да божае моцы, вычвараюцца на сцэне.

...Сябрук сьцярожка апусьціў гуказдымальнік, шапятнуў францускае імя Мішэл і ў нетрах радыёльных брынкнула гітарная струна. Я слухаў шчымлівую мэлёдыю з глыбокім перакананьнем, што сябар нешта пераблытаў, паставіў ня тую кружэлку: зьвыерападобныя істоты, якіх паказвалі ў кіначасопісе, папросту не маглі сьпяваць такія песьні. «Мі-і-шэл, ма бэл», - гучала з дынаміку, і нейкая цёплая хваля падымалася ў грудзіне, і мне карцела некуды бегчы, і здавалася, што песьня гэтая заўсёды жыла ўва мне і толькі цяпер набыла голас.

У траўні 1968-га прысьпеў студэнцкі бунт у Сарбоне. Я з такой нагоды не прапускаў аніводнага выпуску тэлевізійных навінаў, кожны дзень набываў у шапіку тузін газэтаў і, зразумела, сымпатыі мае былі на баку парыскіх студэнтаў. Пры гэтым душу кроіла шчымоівая крыўда: француская моладзь дзень да ночы слухала Beatles, насіла даўгія валасы і джынсы, чытала немаведама што і ўсё адно бунтавала, а ў нашым Наваполацку дзень да ночы слухалі песьні Анатоля Каралёва, у цырульнях замаўлялі «кароткую стрыжку з

праборам», насілі «клёшы» з трыма гузікамі на поясе, чыталі кніжонкі сэрыі «Подзьвіг» (літаратурны дадатак да часопіса «Сельская молодёжь») і пры гэтым не выяўлялі нават самага кволага памкненьня далучыцца да цывілізацыі.

Тым часам у мяне зьявіліся два надзейных сябра: Валер шлыкаў ды Анатоль рыбікаў. Вучыліся мы ў адной школе (з Валерам нават у адной клясе), разам рыхтавалі ўрокі, разам цягаліся па горадзе і, урэшце рэшт, тройца нашая разгарнула ў сьценах агульнаадукацыйнай СШ №2 змаганьне за высокія ідэалы біт-музыкі. Пачалося яно ўвосень 1969-га акцыямі, якія мы называлі «сядзячымі забастоўкамі». Пісалі крэйдай на седале разламанага крэсла лёзунг «Hand off from Beatles!»: сядалі пад час вялікай пярэрвы на лесьвічным маршы і гучна білі ў ладкі. Ляпнем дзевяць разоў у пэўным рытме: /-- -- ... -- -- -- --/, а потым гарлаем: «Эгэй!» Спынялі акцыю ў трох выпадках: калі на лесьвіцы зьяўляліся 1) дырэктар школы Абрам Залманавіч Герцыковіч, 2) настаўнік фізыкі і астраноміі Яўген Міхайлавіч Крылоў, 3) настаўніца матэматыкі Марыя Трыфанаўна Любамудрава. Дырэктары мы падпарадкоўваліся па рангу, а згаданых настаўнікаў проста паважалі.

Пачыналі акцыю ўтрох, а неўзабаве на прыступкі пачалі прысаджвацца нават сяміклясьнікі. Адзін зь іх, па прозьвішчы Полазаў, наагул хадзхіў за намі як на павадку і мы даручалі яму трымаць «лёзунг». На лесьвіцы кожнага разу ўтвараўся затор: дзяўчыны-дзесяціклясьніцы з пагардаю праз нас пераступалі, кранаючыся спадніцамі нашых вушэй, пераступалі й маладыя настаўніцы, а адна зь іх, «англічанка» па прозьвішчы Талкушкіна, пры гэтым узрушана мармытала: «Ужас, это просто ужас!»Невядома, колькі б доўжылася нашая акцыя, але пэўнага дня мяне адклікала ўбок клясная кіраўнічка і паведаміла: «Вы сядзіце на прыступках дзеля таго, каб зазіраць дзяўчынкам пад спадніцы». Я, вядома ж, сумеўся, стаў апраўдвацца - маўляў, пад спадніцамі, апроч трусоў, няма нічога цікавага, аднак «сядзячыя страйкі» пад

лёзунгам «Hand off from Beatles» былі спыненыя і мы перайшлі да іншых формаў маладзёвага пратэсту.

Згадваючы нашыя выбрыкі, кожнага разу хітаю галавою і бязгучна прамаўляю: колькі мы вам крыві папсавалі! Аднак у канфрантацыі па лініі настаўнікі - вучні шмат пакутаў зазналі і апошнія. З-за тых жа валасоў. Прыйдзем з Валерам у школу, зачэшам патлы за вушы, канцы піхнем за каўнер; шыбуем па калідоры, увабраўшы галовы ў плечы, і раптам дырэктаравы голас: «Шлыкаў з Мудровым» Я вас да заняткаў не дапускаю!» Ну, вядома, скрывелімся, пасунемся да выхаду, дэманструючы, што рушым у цырульню, а самі лезем па супрацьпажарнай лесьвіцы на школьны дах, перакінемся там у «дурня» і на другі ўрок ідзем у сваю клясу. У рэшты рэшт на ўваходзе сталі выстаўляць настаўніцкі пікет, каб не пускаць нас у школу. На шчасьце, паддашкавы люк быў адчынены і мы лазілі ў школу па супрацьпажарнай лесьвіцы. Лазілі цягам месяцу, а можа і болей, аж пакуль у школу не прыехала нейкая праверка. Лесьвіца ішла акурат пад вокнамі настаўніцкай - правяральцы нас угледзелі і кінуліся пераймаць. Чсталі ціхенька ля драбінаў, што вялі на паддашкавы люк, а Рыбікаў, які спускаўся першым, ня ўгледзеў - і скочыў гнекаму на галаву. На долке лямант, гармідар. Мы з Шлыкавым нічога не зразумелі, перапудзіліся, спусьціліся хуценька па супрацьпажарнай лесьвіцы долу, злавілі нейкага пяціклясьніка і загадалі выведаць: што там надарылася і наагул -якая апэратыўная абстаноўка ў роднай школе. Апэратыўная абстаноўка была складанаю і мы вымушаныя былі выкінуць белы сьцяг і разьвітацца з даўгімі кудламі.

Абкарналіся «пад нуль», і ня толькі мы, але й яшчэ некалькі чалавек, а адзін хлопец з паралельнай клясы нават пагаліўгалаву і змазаў (дзеля бляску) палітурай. Наступнага дня ў клясу завітаў дырэктар школы і, перш чым мовіць слова, пакутліва ўздыхнуў. «Мне толькі што тэлефанавалі з гарадзкога камітэту партыі... - у гэтым месцы дырэктар зрабіў паўзу, чакаючы, што твары нашыя прасякнуцца законнай трывогаю і, не

дачакаўшыся, працягваў - пыталіся, ці ня з нашай гэта школы выйшла хеўра брытагаловых?» Запанавала ціша, якую парушыў валера Шлыкаў: «Дык вам не дагадзіць... Даўгія валасы насілі - дрэнна, пастрыгліся на лысага - ізноў дрэнна...» Дырэктар у адказ адно ўздыхнуў і моўчкі махнуў рукою.

Празь месяц у школу ізноў патэлефанавалі з гарадзкога камітэту партыі. Гэтым разам пытаньне было наступным: чаму вашыя вучні ходзяць ля гаркаму ў капелюшах? Рэч у тым, штог мы сапраўды хадзілі ў капелюшах, прычым, узору 50-х гадоў - з высокім верхам і выдзертым нутром. Замест школьных тэчак (тады іх насілі замест партфэляў), у нашай тройцы былі аднолькавыя гаспадарчыя сумкі з процьмаю адмыслова прарэзаных дзірак і надпісам чырвонаю фарбаю BEAT (фарба, праўда, неўзабаве аблезла). Насілі таксама вэльвэтавыя пінжакі і індыйскія джынсы «Miltons» (сапраўдныя фірмовыя джынсы на тую пару былі толькі ў Пецькі Прахаронка - іх яму прыслаў родны дзядзька зь Нью-Ёрку). Апроч джынсаў цягалі таксама вэльвэтавыя штаны. У мяне, памятаю, былі штаны былі кракадзілавага колеру - зялёныя, з чорным разводзьдзем. Рыбікаў, убачыўшы ў польскім часопісе здымак сьпевака ў чырвоных штанах, пашыў сабе такія ж, прыйшоў у іх на школьную вечарыну і быў літаральна выкінуты за дзьверы дзяжурнымі настаўнікамі. Кашулі таксама былі адмысловыя. Мы іх самі фарбавалі: завязвалі вузламі белыя сарочкі, укідвалі ў анілінавы фарбавальнік, пасьля разьвязвалі і атрымлівалася штосьці неверагоднае. Было тое-сёе і з дэмісэзону: Рыбікаў цягаў даўжэзную (часінаў фінскае кампаніі) танкісцкую скуранку, а я такі ж даўжэзны «малянкоўскі» пыльнік з патаемнымі гузікамі, які падпярэзваў пяньковай вяроўчынай. Блукаючы ў такіх строях па горадзе, мы часьцяком фатаграфаваліся на гаркамаўскіз прыступках (у Рыбікава быў фатаапарат «Зэніт») і партыйныя круцялі, відавочна, успрынялі гэта як непавагу да «сьвятога» места. А, магчыма, убачылі ў нашых асобах пародыю на саміх сябе, бо ж яны таксама хадзілі ў капелюшах ды шэрых «малянкоўскіх» пальніках.

Ува ўсіх гэтых выбрыках, як атрамант скрозь бібулу, стала прабівацца палітычная падкладка і нашу тройцу - тут няма сумневу - паставілі на адмысловы ўлік. Прынамсі, павінны былі паставіць пасьля таго, як я вывесіў на дошцы школьных аб'яваў расклад трансьляцый канцэртаў папулярнай музыкі шэрагу заходніх радыёстанцый. Сярод іх былі «Radio Warszawa», «Voice of America», «Radio Sweden» і румынская праграма «Europe Liberty». Усё гэта адбывалася, адцемім, у 1970 годзе.

Школа і ленінскі камсамол спрабавалі далучыць нас да нейкіх патрыятычных справаў, але марна. Аднаго разу, прыкладам, прывялі ў Музэй баявой славы, што месьціўся ў школе і апавядаў пра дзейнасьць партызанскай брыгады НКГБ СССР «Няўлоўныя». Мы з маім аднаклясьнікам Грышам Песіным селі на крэслы - сьпінкаю наперад, пасунулі на галовы нямецкія каскі, якія там ляжалі ў якасьці экспанатаў, пасьля чаго з дырэктаркаю музэю траха ня здарылася гістэрыка.

Спрабавалі таксама далучыць нас да фізкультуры і ссспорту, загадаўшы прыйсьці на школьны стадыён дзеля ўдзелу ў агульнарэспубліканскім маладзёвым кросе, прысьвечаным Дню савецкай касманаўтыкі. Мы і прыйшлі: у капелюшах (усе трое), у ватоўцы (Шлыкаў), у танкісцкай скуранцы (Рыбікаў), у пыльніку (Мудроў), у гумовых ботах (усе трое) і з падзертымі парасонамі ў руках. На старт нас ня выставілі, але мы ўсё адно прабеглі сваіх пяцьсот мэтраў, і пры гэтым, калі хтосьці вырываўся наперад, мусіў гамаваць хуткасьць з дапамогаю раскрытага парасону.

Любое мерапрыемства, што ладзілася з нашым удзелам, ператваралася ў фарс. Увосень 1970 году - у ўжо вучыўся ў дзсятай клясе - па ўсёй неабсяжнай Краіне саветаў пракаціліся мітынгі пратэсту, на якіх рабочыя, калгасьнікі і прадстаўнікі працоўнай інтэлігенцыіпатрабавалі неадкладнага вызваленьня палымянай камуністкі, актыўнай барацьбіткі за правы нэграў Анжэлы дэвіс, якую амэрыканскія імпэрыялісты пасадзілі за краты. Прайшоў такіт мітынг і ў нашай

школе. Ад імя адміністрацыі з палкай выкрывальніцкай прамовай выступіў арганізатар выхаваўчай працы, якога, з-за доўгай шыі, мы называлі Гусаком. Гусак чытаў па-пісаным, штохвілі зьбіваўся і называў ахвяру расавай сэгрэгацыі ня Дэвіс, а Дэвас. Мяне з той прычыны разьбіраў нястрымны сьмех, да таго ж сябар, што стаяў за сьпінаю, стаў тыцкаць пальцамі пад рэбры, і калі прамоўца голасна выгукнуў: «Свабоду Анжэле дэвас!» і пляснуў у далоні - я, ратуючыся ад козыту, падскочыў і нема зарагатаў. Зь мітынгу мяне выгналі, выгналі таксама «казытуна» Сашку мікуліча, а Валеры Шлыкаў і Генка Трушын сышлі за кампанію. Неўзабаве сталі разыходзіцца і астатнія - падумалі, што мітынг скончыўся, але іх спыніў гусаковы вокліч: «Стойце! Куды вы?!»

Пасьля заканчэньня мітынгу мяне паклікаў да сябе дырэктар школы і, надаўшы голасу даверлівыя адценьні, запытаўся: «Скажы шчыра, Мудроў... Ты сапраўды падтрымліваеш амэрыканскіх цемрашалаў і таму сарваў важнае палітычнае мерапрыемства, ці ўсё ж у тваёй душы кволіцца хоць нейкая спагада да гэтай мужнай жанчыны?» - мелася на ўвазе Анжэла Дэвіс. І, не дачакаўшыся адказу, дадаў: «Цяжка табе будзе ў жыцьці».

Дырэктар школы Абрам Залманавіч Герцыковіч быў добрым, адкрытым і ня помсьлівым чалавекам. Дзесьці ў недасяжных глыбінях душы я яго паважаў і праз шмат гадоў прысьвяціў яму апавяданьне «Яша». І калі б сёньня ён быў жывыв, дык відавочна б зразумеў, што змагаліся мы ў далёкім 1970-м ня зь ім асабіста і не з настаўнікамі, а з заідэалягізаванаю сыстэмаю адукацыі, якая душыла ў вучнях усё жывое. Зразумеў, што палымяная мурынка Анжэла Дэвіс была ўсяго толькі каляровай бурбалкай агітпропу, а ўсе гэтыя гэсы холы, роднэі арысмэндзі, луіся карваланы ды іншыя «кіраўнікі камуністычных ды рабочых партыяў» - звычайныя халяўшчыкі, якія сядзелі на карку савецкай рабочай клясы й калгаснага сялянства.

Зрэшты, не аднымі мітынгамі ды бязглуздымі

«ленінскімі ўрокамі» запомніўся 1970-ты. У той год я ўпершынжю наведаў горад сваіх летуйценьняў - пракаветную Вільню. Цяпер ужо і не магу прыгадаць - чым мяне захапіў гэты горад і зь якой такой прычыны стаў маім духоўным Ерусалімам, але ў 1970-м я прагнуў аднаго: прайсьціся па віленскім бруку, убачыць старыя бажніцы, напоўніць плюцы густым, настоеным на паху царкоўнага воску й прывялага язьміну паветрам (менавіта язьмінам і воскам мусілі, на маю думку, пахнуць паветра ў Вільні). І вось, на летнія вакацыі, аўтар гэтых нататак выправіўся ў пілігрымку да свайго Ерусаліму, і не адзін, а зь сябрамі, і не цягніком, а як і належыць сапраўдным пілігрымам, пехатою. Дакладней, да Нарачы мы ўсё ж такі даехалі, але астатнюю дарогу - болей за сто кілямэтраў - вырашылі прайсьці пешкі.

Нам было па сямнаццаць гадоў, мы сьпявалі пад гітару песьні Beatles і Rolling Stones, зь цікавасьцю паглядалі на дзяўчынаў, давалі нырца ў празрыстую Нарач і нам здавалася, што ўсё жыцьцё будзе такім жа бясконцым і бясхмарным, як неба ў той блаславёны год. А між тым над галовамі нашымі ўжо вісела калматая хмара: праз чатыры гады прыстаўлены да нас з Шлыкавым асьведамляльнік паведаміў па п'янцы, што «ворганы» цікавіліся ў свой час - на якую халеру мы цягаліся ў Вільню і ці мелі там сустрэчы зь летувіскімі нацыяналістамі.

Цягаліся мы туды ўпяцёх, зь летувіскімі нацыяналістамі не сустракаліся - сустрэчы такія наагул не ўваходзілі ў нашыя пляны, - а вось з «братамі па розуму» сустрэцца давялося. Адзін з нас, Сашка Мікуліч, даволі спрытна брынькаў на гітары і вечарамі, седзячы на нарачанскім беразе, - акурат на гэтым месцы цяпер збудавалі водныя атракцыёны - мы хорам сьпявалі «свой рэпэртуар» Была ў тым рэпэртуары і знакамітая Venus групы Shoking Blue. У першы ж вечар грымнулі тую Venus, да нас падбеглі трое хлопцаў - іхны намёт стаяў непадалёку - і задыхана прамовілі: «Перапішыце словы!» Словаў, прызнацца, мы й самі добра ня ведалі, а таму, спаслаўшыся на адсутнасьць паперы і асадкі,

прасьпявалі Yesterday.

Нашыя новыя знаёмцы былі зь Вялейкі, таксама захапляліся заходняй музыкай і крыху брынькалі на гітары. Праз колькі месяцаў, увосень, слухаючы чарговую музычную перадачу Radio Sweden, пачуў мэлядычны голас дыктаркі Тамары Юхансан: «А для вас, Саша зь беларускага гораду Вялейка, а таксама для нашай сталай слухачкі Лінды з эстонскага гораду Кохтла-Ярве перадаём песьню Venus», - і я адразу згадаў чарнявага хлопца, зь якім пазнаёміўся на Нарачы.

Дарэчы, гэты Саша «падбіў» мяне на эпісталярны подзьвіг. Я таксама паслаў некалькі лістоў на Radio Sweden, пры гэтым музычныя замаўленьні выконваліся, але імя майго ні Тамара Юхансан, ні ейны калега Ульф Цэдэніюс не называлі. А дзесьці пасьля Новага году Віцька Бушуеў - ён вучыўся ў паралельнай клясе - паведаміў па страшным сакрэце, што двух ягоных сяброў «цягалі ў кантору» й пыталіся: хто зь іх пісаў лісты на заходняе радыё? Мяне, праўда, гэтым разам нікуды не цягалі. Лісты я не падпісваў, укідваў іх, дзеля канспірацыі, у суседнім Полацку і эпісталярны подзьвіг (ужываю такі эпітэт безь іроніі) на сэрцы рубцоў не пакінуў.

Ну а да Вільні мы ўсёж такі датупалі - на сёмыя содні вандроўкі. І літоўская сталіца паўстала перад вачыма менавіта ітакой, якой мроілася, і паветра ля Гострай Брамы пахла растопленым воскам і язьмінам.

У дзясятай клясе капнчаткова закінуў вучобу: было проста не цікава, а да таго ж, з-за дрэннага зроку, нічога ня бачыў з дошкі. Дзень да дня бегаў па горадзе з магнітафонам, слухаў BBC і расейскую «Свабоду», чытаў тыднёвік «За рубяжом» і часопіс «Журналіст», пісаў нататкі ў мясцовую газэту і чытаў Гэмінгуэя.

Ужо і ня памятаю - хто мне даў тую кніжку. Танклявую дзетгізаўскую кніжку з пушком на вокладцы і шыхтом няроўных літараў: «Старик и море»...

Чытаючы гісторыю аб кубінскім рыбаку, аб ягоным змаганьні зь велізарнай меч-рыбай, я, наваполацкі шкаляр, упершыню адчуў - які мізэрны чалавек у параўнаньні зь бяздоннай глыбінёй акіяну і як самотна яму пад высокімі зоркамі.

Гэта потым я прачытаў «Сьмерць героя» Олдынгтана, «Трыюмфальную арку» Рэмарка, «Чужаніцу» Камю, «Майстра і Маргарыту» Булгакава, «За шклом» Мёрля і зразумеў, што Мэксыканская затока - не адзіная прыгожая мясьціна ў сьвеце, а Гэм - далёка не апошняя старонка сусьветнай літаратуры. Але тады, прыканцы шасьцідзесятых, маім кумірам быў Гэмінгуэй і я ўрачыста ўмацаваў над пісьмовым сталом партрэт - той самы, дзе Э.Г. у швэдры грубага вязаньня - першага і, як здавалася, апошняга песьняра імклівага Гальфстрыму.

Узімку 71-га, падчас вакацыяў, я гасьцяваў у піцерскай цёткі і за пяць дзён, не выходзячы з кватэры, прачытаў тры тамы гэмінгуэеўскага чатырохтомніка (цётка працавала бугальтаркай ў кнігарні і ў яе было шмат цікавых і рэдкіх на той час кніг). Адну таміну прачытаць не пасьпеў і ўзяў з сабой у дарогу. У цягніку, як толькі разьвіднела, панурыўся ў чытаньне. За вокнамі плылі зьнявечаныя зімовай адлігай краявіды, над галавой зацята хроп жаўнер тэрміновай службы, насупраць, ля ног свайго дзіцёнка, сядзела раскудлачаная цётка, якая ад самага ранку ела крутыя яйкі, поўнячы прастору невыносным яешным смуродам, двое дзядзькоў з суседняга купэ раз за разам прасілі ў цёткі конаўку, а тая не давала, прамаўляючы адну і тую ж фразу: «Эта для рыбёнка», прыспаная правадніца грымела пустымі пляшкамі, незадаволена бубнела на дзядзькоў: «П'яніцы няшчасныя», а я, водзячы носам па старонках, чытаў шчымлівы раман пра каханьне лейтэнанта Фрэдэрыка й мэдсястры Кетрын. Цягнік прамінуў станцыю Бычыха - мясьціну, дзе нарадзілася мая маці - і ў тую ж хвіліну, упершыню ў жыцьці, у душы нарадзілася пякучая крыўда за матчын край, у якім, як у вапнавай яме, дагаралі мова, вера і памяць, дзе сінім вагнём згарэлі цэрквы і касьцёлы, магнацкія замкі і

сялянскія хаты, сьвятыя абразы і старадрукі, дзедаўскія гаршчкі і бабчыны вышыванкі, пайшлі дымам гонар і сумленьне, сьмеласьць і мужнасьць, дзе згарэлі лепшыя людзі, а тыя, што засталіся, кешкаліся на дне ямы, пілі «Санцадар», грымелі пустымі пляшкамі, хадзілі на дэманстрацыі, выракаліся ўсяго сьвятога, пісалі заявы аб прыёме ў КПСС, ставілі помнікі людажэрам, стаялі ў бясконцых чэргах, сьмярдзелі крутымі яйкамі і закарэлымі шкарпэткамі, сцалі на старажытныя муры, завіхаліся на прысядзібных дзялянках, паціху раскрадалі савецкую дзяржаву, ненавідзелі чэхаў, амэрыканцаў і гэбраяў і, прыхоўваючы кемлівую сялянскую ўсьмешку, білі ў ладкі крамлёўскім валадарам.

...Мэдсястра Кетрын памерла падчас родаў і я з уздыхам паклаў кніжку ў торбу; жаўнер пакінуў храпсьці і з воклічам «Ой, бля-а» зьвесіў долу сьмярдзючыя ногі; правадніца прабегла па вагоне, шматкроць прагарлаўшы «Здавайце пасьцелі!»і ў гэты зорны міг цягнік тузануўся, матлянуўся на стрэлках і запаволіў хаду. Цягнік набліжаўся да станцыі Віцебск, а душа мая, тузануўшыся пад дыхніцай, пачала ад той хвілі няўмольна набліжацца да сваёй галоўнай станцыі, на якой даўно ўжо не затрымліваліся душы тутэйшых людзей і якая насіла груваасткую назву Беларушчына.

Доўгіх чатыры месяцы я жыў пад уражаньнем гэмінгуэеўскай прозы. Мне праглася пабачыць далёкія краіны, мне карцела, па прыкладу старога Сант'яга, лавіць тунцоў і марлінаў, сядзець у парыскай кавярні «Сэлект» і піць кактэйль «Джэк роз», ляжаць у цені раскідзістага баабаба і неадрыўна глядзець на белую шапку Кіліманджара. І вось у траўні мой сябар Толік Рыбікаў папрасіў дапамагчы вынесьці з падвала ягонага дому markmsрознае ламачча ды непатрэбны хломазд. Хломазд мы вынесьлі, звалілі ў кучу і сталі чакаць сьмецьцявозу. Каб заняць нечым рукі, а разам зь імі і вочы, я ўзяў з кучы прапахлую падвальнай цьвільлю хрэстаматыю па беларускай літаратуры. Разгарнуў яе зь зьмяшаным пачуцьцём агіды і зьдзіўленьня: у школе, нібыта, беларускую літаратуру вывучаў, а вось хрэстаматыю

бачыў упершыню. Прыкрыўшы даланёю позех, прачытаў вершык Адама Гурыновіча, пазяхнуў яшчэ раз і тут вока зачапілася за эпіграф: «De la musique avant toute chose». Верш быў бяз назвы і нагадваў Тараса Шаўчэнку. «Па-над белым пухам вішняў, быццам сіні аганёк...» Вочы прабегліся па davershavanyh радках і прымружыліся: я прачытаў верш паўшэптам і адразу ж запомніў на памяць. Тут жа ў хрэстаматыі былі «Вечар на захадзе ў попеле тушыць...», «Добрай ночы, зара-зараніца!», «Прывет табе, жыцьцё на волі!» і, нарэшце, «Зорка Вэнэра ўзышла...» Максімавы вершы папросту ашаламілі. Я іх чытаў, потым перачытваў; яны гучалі ўва мне, заглушаючы ўсе навакольныя зыкі: сыгналы сьмецьцявозкі, гаману цётак ля пад'езду, бразгат вёдраў і сяброковы вокліч: «Ну што ты там, цягні сьмецьце!» Мяне апанавала Беларусь. Не, не тая Беларусь, дзе я нарадзіўся і жыў, а дзіўны край русалак і лесуноў, зьмяіных цароў і вадзянікоў, залатых агнёў і сініх валошак. Мяне апанаваў той край, дзе жылі Максім і Вэраніка, дзе тнулі ў неба вежы касьцёла сьвятой Ганны і зіхцелі лятарні, дзе лёталі важкія хрушчы й зялёныя мушкі, дзе кувала зязюля і зьвінелі бомы, лёгкімі хмаркамі наплываў вечар і над зямлёю, працінаючы сэрцы закаханых гойстрымі дзідамі промняў, узыходзіла зорка Вэнэра. Кругагляд маёй душы, у якой не хапала аднаго сэгмэнту, набыў завершаную форму.

Што гэта было? Выпадковы ідэал маладосьці? Форма пратэсту супроць ідыятызму жыцьця? Спроба прарыву з замкнёнай прасторы ў бязьмежжа віртуальнага сьвету, умоўна названага Беларусяй? Цяжка сказаць, але вось ужо амаль трыццаць гадоў я цялёпкаюся на нябачнай мяжы паміж рэалам да віртуалам, захраснуўшы там намёртва, не прыдбаўшы нічога, апроч хваробаў, адчуваючы розумам, што ніякай Беларусі няма, што гэта прыдумка паэтаў і летуценьнікаў - няшчасных людзей, што скончылі жыцьцё на чужыне, на сьляпучым калымскім сьнезе, у цямноцьці варкуцінскіх капальняў і ў Курапатах. І ўсё адно, у хвіліны горкіх жаляў, пачуўшы назолую фразу: «На што ты паклаў сваё жыцьцё?» альбо пастаяўшы ў чарзе зь вечна п'янымі мужыкамі і падпітымі бабамі, якіх ці то жартам,

ці то па злой гіроніі называюць беларускім народам, я дастаю з кніжнай паліцы куплены ў траўні 1971 года двухтомнік і сьцярожка разгортваю першы том. Ён заўсёды разгортваецца на трыццатай старонцы і ўваччу мільгцяць да болю знаёмыя радкі: «Сонца ціха скацілася з горкі, месяц белы, заплаканы сьвеціць...» І сэрца кожнага разу поўніцца ці то сумам, ці то ціхай радасьцю. І кожны раз з душэўнай палёгкай уяўляеш, што ты не самотны, што ёсьць сотні, а мо' й тысячы такіх жа летуценьнікаў, якіх таксама грэе сонца Максімавай паэзіі.

У 1971 годзе мы зь сябрамі разьвіталіся са школай і разьвітаньне прайшло пад грукат жалезнай бочкі. Увечары 22 чэрвеня расьпісалі «на памяць» цокаль школьнага будынку лёзунгамі кшталту «Long live Beatles!», а раніцою наступнага дня ўсіх выпускнікоў сабралі ў актавай залі і дырэктар школы падупалым голасам паведаміў, што ўчора ўвесь савецкі народ з болем у сэрцы адзначыў трыццатую гадавіну нападу гітлераўскай Нямеччыны на Савецкі саюз, а тым часам Мудроў, Шлыкаў і рыбікаў па-свойму адзначылі гэтую дату, размаляваўшы школу нэафашыстоўскімі заклікамі. Дырэктар паведаміў таксама, што калі мы сёньня ж не пабелім цокаль, дык атэстатаў не атрымаем. Вось і давялося ісьці на будоўлю, браць там бочку, вапну, яшчэ нейкую халеру і майстраваць з пакульля дыхтоўныя квачы. Цокаль мы пабялілі якмае быць і Абрам Залманавіч - ці не ўпершыню за апошнія два гады - застаўся задаволены з нашай працы.

Два летнія месяцы адседзеў за падручнікамі - трэба ж было некуды паступаць, - пасьля чаго, праўдамі і няпраўдамі, паступіў у мясцовую філію Беларускага тэхналягічнага інстытуту, які сталічна-акадэмічныя снобы не без падставаў называлі сьвінагадоўчым комплексам. Комплекс быў на 1000 галоў і мае душэўныя парываньні былі скіраваныя на пошук тых галоў, у якіх віравалі ідэі свабоды і нацыянальнага адраджэньня.

На нашым патоку палова студэнтаў была зь вёскі - вось

да іх я і пачаў «пад'яжджаць», маракуючы, што яны генэтычна зьвязаныя зь беларускай мовай, а таму, пасьля пэўнай апрацоўкі, гамузам стануць у шыхты змагароў за Бацькаўшчыну. Гэта цяпер я разумею, што вёска даўно ўжо згубіла ўсялякія духоўныя пачаткі і зьяўляецца па сутнасьці рассаднікам паталягічнага халуйства і нацыянальнай дэградацыі (ці не таму сярод навачасных адраджэнцаў спрэс адны месьцічы ды «мяшанцы»), а тады, у верасьні 71-га, пачуўшы вясковы пранонс, я лез да яго носьбіта ў знаёмцы, гаманіў пры гэтым па-беларуску і бачыў на тварах былых вяскоўцаў ці то спалох, ці то недавер, ці то ніякаватасьць.

З той пары запомнілася адна размова. Мы, чатыры студэнты, яшчэ добра не пераснаёміўшыся адно з адным, ехалі ў кодабу грузавіка «на бульбу», і я, вядома ж, усчаў гаману ў пэўнай парадыгме. Маўляў, французскія студэнты на бульбу ня езьдзяць - для тамтэйшай эканомікі падобныя непрадукцыйныя падыходы непрымальныя. Пасьля такога зачыну я вытрымаў паўзу і працягваў: вось калі б у нас, беларусаў, была свая дзяржава, такая ж магутная, як Францыя, і калі б усё навокал было беларускім - якое б гэта было жыцьцё! Пачуўшы мой сьпіч, адзін з хлопцаў, сын вайскоўца, ураз спахмурнеў - у ім прачнулася гадаванае бацькамі непрыняцьце ўсяго беларускага, другі - выпускнік адной зь вясковых школ Дрысенскага раёну, які дагэтуль голасна апавядаў вясёлыя показкі, аціх і потым цэлы год трымаў дыстанцыю, і толькі Валодзя з Полацку, такі ж «мяшанец», як і я, пацешыўся з маіх словаў. «Ну ты і параўнаў... сраку з пальцам, - выдыхнуў зямеля, - што такое Францыя, і што - мы...» «А што - мы?» - з крыўдаю ў голасе перапытаў я. «Куча гаўна», - патлумачыў Валодзя і гэтая немудрагелістая фраза запомнілася на ўсё астатняе жыцьцё.

І ўсё ж там, «на бульбе», давялося сустрэцца з адным, скажам так, несьвядомым адраджэнцам. Звалі яго Лёнем, жылі мы зь ім у адной хаце, спалі поруч на саломе і па вечарох Лёня чытаў мне беларускія вершы з школьнай праграмы. Асабліва мяне ўражваў «Пахне

чабор». Кульнуўшы чарку, я віснуў на сябруковай шыі, п'янавата глядзеў у вочы і здушаным голасам прасіў: «Лявонка, прачытай...» Лявонка чытаў, я ўражана шморгаў носам і дзівіўся таму - як мог няздара-Броўка напісаць такі мілагучны, па-беларуску шчымлівы верш.

Аднойчы ўвечары ў хату ўбіўся мой школьны сябрук Валера Шлыкаў - ён гасьцяваў недзе пад Дзісной і вырашыў прыйсьці ў адведкі. Пратупаў 8 кэмэ, цягнучы ў руках кайстру зь пяцьцю пляшкамі «чарніла» і патэфон з кружэлкамі. «Набыў у аднае цётухны», - патлумачыў сябрук, калі мы навыперадкі крутнулі корбу «музону». І так, пад салодкія сьпевы Бунчыкава й Нячаева, мы выжлукцілі пяць пляшак «чарніла», я стаў заклікаць сяброў зараз жа стаць на абарону прыгнечанай Бацькаўшчыны; грамада выкулілася на падворак і неўзабаве паснула на сьвежым паветры, у сьціртах саломы.

Наагул, інстытуцкая пара калі чым і запомнілася, дык гэта апраметнымі п'янкамі. П'янкі мелі пэрманэнтны характар, доўжыліся ўсе пяць гадоў вучэньня і ў практычным пляне гэта былі выкінутыя з жыцьця гады, але, зь іншага боку, калі б я нават і паступіў у якую сталічную гуманітарную вучэльню, дык доўга б там не правучыўся. З маімі пераканьнямі самы раз было падавацца не ў сталічны вну, а ў сталічную «амэрыканку». На шчасьце, Бог ўратаваў ад падобных унівэрсытэтаў.

У сьнежні 1971 года Максіму Багдановічу спаўнялася 80 гадоў. Думалася: адбудуцца мастацкія імпрэзы, паэту адчыняць помнік, адаб'юць памятны мэдаль... Замест усяго гэтага ў Менску правялі шкадобы варты сход, на якім беларускія пісьменьнікі страшэнна неінтэлігентнымі галасамі наўзахваткі апавядалі пра дабратворны ўплыў вялікай расейскай літаратуры на творчасьць Максіма Багдановіча. Тымі днямі прачытаў амаль усе цэнтральныя беларускія газэты, шукаючы згадкі пра юбілей, але адны газэты пра Максіма нават не згадалі, а другія зьмясьцілі, відавочна дзеля адчэпкі, караценькія, па-савецку прымітыўныя артыкульчыкі зь

невыразнымі фотаздымкамі, на якіх паэт выглядаў пяцьдзесятгадовым століначальнікам. Мая наіўная душа абуралася. У іншых народаў творца такога сумеру стаўся б апосталам нацыі, мейсца ягонага нараджэньня сталася б мейсцам паломніцтва ўдзячных нашчадкаў, а тут... Маё абурэньне сублімавалася спачатку ў мацюгі, потым у роздум над тым - як ушанаваць паэтавы ўгодкі і, нарэшце, галаву наведала канструктыўная ідэя: арганізаваць нацыянальную суполку і назваць яе імем свайго куміра. Так у Наваполацку, у сьнежні 1971 году, утварылася суполка пад даволі велягурыстым назовам: Творчае літаратурна-мастацкае аб'яднаньне імя Максіма Багдановіча.

У аб'яднаньне, апрача аўтара праекту, увайшлі Валера Шлыкаў, Толік Рыбікаў, Лявон Пятроў, а таксама Толікава сяброўка Тоня, якая пісала вершы па-расейску і якую мы залічылі ў сваю суполку з палітычных меркаваньняў - каб разбавіць шыхты расейцамі і, такім чынам, пазьбегнуць абвінавачаньняў у нацыяналізьме. На першым сходзе - а адбыўся ён, калі не памыляюся, у Валеравай кватэры - кожны чалец атрымаў адмысловае пасьведчаньне й наказ: пашыраць суполку за кошт прыцягненьня ў яе нацыянальна-сьведамых і творчых асобаў. Літаратурна-мастацкая суполка мусіла мець свой «друкаваны ворган», таму я таго ж дня ўзяў кавалак ватману, склаў у столку і на тытульным баку напісаў тушшу і чырвоным алоўкам слова АЛЬМАНАХ. Ніжэй, дробнымі літарамі, пазначыў: «Творчае літаратурна-мастацкае аб'яднаньне імя Максіма Багдановіча. 1971 год».

Цяпер ужо й ня памятаю - што я пісаў у тым першым нумары. Штосьці пра родную мову, пра ўгодкі Максіма Багдановіча і пра задачы суполкі. Была ў альманаху і рубрыка «Наша творчасьць». Тут у рэдактара-выдаўца і ўзьніклі праблемы. У рэдакцыйнай кайстры былі толькі кволы вершык самога рэдактара, ды мілосны, па-расейску пісаны мадрыгал Толікавай сяброўкі. Ня ведаючы - чым запоўніць рубрыку, я адклаў альманах і пачаў агітаваць чальцоў аб'яднаньня, у прыватнасьці, Валерыя Шлыкава, які штосьці там пісаў па-расейску,

заняцца літаратурнай творчасьцю на ніве Беларушчыны. Неўзабаве пачалася экзамэнацыйная сэсія, потым прысьпелі доўгачаканыя вакацыі, пад час якіх я езьдзіў у Піцер і апантана чытаў Гэмінгуэя, потым... - у гэтым месцы стаўлю тры кропкі і цяжка ўздыхаю - я закахаўся, і выданьне альманаха было адкладзена на няпэўны час.

Успаміны з палітычнай падкладкай - жанр спэцыфічны. Рознага кшталту амурныя рэмінісцэнцыі выглядаюць тут залішнімі, і ўсё ж пра сваё першае (і, бадай, апошняе) каханьне варта сказаць колькі словаў.

Мінула амаль трыццаць гадоў, а я і зараз, што той Пэтрарка, памятаю ня толькі дзень, мейсца, але й дакладны час сустрэчы з «дзяўчынай сваёй мары». У маёй Ляўры было дзіўнае, як мне тады здавалася, імя - Вера; была яна старэйшай ад мяне на год і насіла акуляры... Псыхолягі ўважаюць такі стан за лёгкую форму вар'яцтва і, вядома, маюць рацыю. І ўсё ж, казелячы вокам на партрэт доктара Фройда, заўважым: у прыродзе каханьня ёсьць нейкая неспазнаная тайна, а зірнуўшы на партрэт доктара Юма, ці якога іншага агностыка, дадамо: і мы яе ніколі не разгадаем.

Мая Ляўра даўно жыве ў Альжыры, мае мужа-араба, двух дарослых сыноў, размаўляе зь імі па-француску і па-арабску, і з настальгіяй глядзіць на тэлеэкран, калі па TV, прыкладна раз на год, паказваюць бойкі на менскіх вуліцах. Ну а я, адгарнуўшы чародным разам лісток календару, і ўбачыўшы, што сёньня 20 сакавіка - менавіта ў гэты дзень я сустрэў сваю Ляўру, - чухаю сівую бараду і з элегічным сумам дзіўлюся хуткаплыннасьці часу.

Лета 1972 года выдарылася сухім і гарачым. Наш студэнцкі будаўнічы атрад «Імпульс» два летніх месяцы залівае бэтонны пляц на будаўніцтве Лепельскага экскаватарамонтнага завода. Удзень раскачвалі бэтон жалезнай трубой, а ўвечары біліся «зь мяйсцовымі», прычым бойкі былі зацятымі і крывавымі.

Адпрацаваўшы месяц у будатрадзе, прыехалі з

Рыбікавым «на пабыўку» і, нават не пераапрануўшыся, рушылі да Шлыкава. Выпілі ўтрох пляшку сьпірытусу, ладна захмялелі, загаманілі на адраджэнскія тэмы, і Валера ўручыў мне стос дробна сьпісаных тэлеграфных блянкаў. Я зірнуў на першы блянк і прачытаў:

*Дзесьці музыка ціха гучэла,*
*На падворку вятрыска шамрэў,*
*Я пяшчотна і неяк нясьмела*
*Да цябе прытуліцца пасьмеў...*

Вершы, якімі былі сьпісаныя паперкі, адпавядалі майму душэўнаму стану і таму падаліся геніяльнымі. Увечары, ачуняўшы ад хмелю, я выцягнуў са стальніцы недапісаны альманах і на адной з старонак вывеў: «Валеры Шлыкаў. Вершы». Дзесьці ў верасьні паказаў альманах сябрам і тут жа намаляваў вокладку для другога нумару. Гэтым разам альманах атрымаў сваю назву: «Блакітны ліхтар».

Маракуючы - як назваць «рукапісны ворган Творчага літаратурна-мастацкага аб'яднаньня», я меў на ўвэце годны прыклад - літаратурную суполку «Зялёная лямпа», што арганізавалі ў 1819 годзе расейскія сьнежаньцы. Такім чынам, на вокладцы зьявіўся малюнак ліхтара, а паколькі ў мяне быў флямастар блакітнага колеру, ліхтар той жа хвіляй «засьвяціўся» і аб'яднаньне наша стала называцца Творчай літаратурна-мастацкай суполкай «Блакітны ліхтар» імя Максіма Багдановіча. Назва, як на сёньняшні эстэтычны густ, даволі рызыкоўная, але ня варта крывіць усьмешак, пагатоў у Наваполацку ў 1972 годзе не было ня толькі відзікаў, але й пэдзікаў.

Другі нумар альманаха падрыхтаваў Валеры Шлыкаў. Быў ён амаль цалкам прысьвечаны Якубу Коласу - якраз тады блізіліся 90-я ўгодкі зь дня нараджэньня песьняра, - ну а трэці нумар выйшаў з-пад пяра Анатоля Рыбікава. Дагэтуль Анатоль ніколі не пісаў беларускіх вершаў, а тут увесь альманах быў запоўнены ягонай вершаванай прадукцыяй і гэта нас, астатніх чальцоў аб'яднаньня, зьдзівіла і парадавала. Прадукцыя, што праўда, была далёкай ад дасканаласьці, і ў адным з

наступных нумароў я нават зьмясьціў пародыю, напісаную паводле рыбікаўскіх вершаў. Пры гэтым той, каму яна была прысьвечана, ня толькі не пакрыўдзіўся, а наадварот - акрыяў душой і натхніўся на стварэньне новых «пародыянебясьпечных» твораў.

Напачатку ў альманаху практычна не было палітыкі. Старонкі крэйдавай паперы - а пісалі мы менавіта на ёй - поўніліся вершамі пра п'янку і каханьне, фотаздымкамі аўтараў, рознымі замалёўкамі, нататкамі пра беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў. Увогуле, гэта была гульня, своеасаблівы пэрформанс, аднак мой інстытуцкі сябар Лявон, якому прысьпела пара выдаваць чарговы нумар, своечасова зразумеў небясьпеку такіх гульняў і за выданьне №4 давялося брацца аўтару гэтых успамінаў. Забягаючы наперад, мушу сказаць, што яшчэ адзін «гулец» праз колькі гадоў шчыра пашкадаваў, што зьвязаў свой лёс з «Блакітным ліхтаром»... Па сканчэньні інстытуту, Толік Рыбікаў зьехаў па разьмеркаваньні ў далёкі Казахстан і ў алімпійскім 1980 годзе паўстаў перад намі - мной і Валерам - зусім не такім, якім мы яго ведалі. Быў ён ружовашчокім, па-партыйнаму стрыманым, па-камсамольску залізаным, і з дэпутацкім значком на штрыфелі крымпленавага пінжака. Як высьветлілася, сябрук наш разьмеркаваўся ў закрыты казаскі горад Сьцепнагорск, якога няма на мапах, і за чатыры гады выбіўся там у першыя сакратары гаркаму камсамола. Толік, не бяз гонару, прадэманстраваў каляровыя здымкі, на якіх ён быў зьняты на тле службовай «Волгі», і калі мы ўзялі па поўнай чарцы, стоена паведаміў, што далейшага прасоўваньня па службовай лесьвіцы не прадбачыцца. «Усё з-за «Блакітнага ліхтара», - пакутліва ўздыхнуў сябрук і з гэтым уздыхам скончылася нашае сяброўства.

1973 год стаўся годам страшэнных п'янак і кепска адбіўся ў памяці. Таго году я вырашыў, па прыкладу нарадавольцаў, «пайсьці ў народ». Паколькі ў студэнцкім асяродку знайсьці адэптаў незалежнай Беларусі не ўдалося, заставаўся шанец адшукаць іх сярод простага люду. Просты люд, як вядома, любіць

сядзець у кавярнях ды піўніцах - туды я і рынуў. Падсаджваўся з кухлем піва да якіх-небудзь дзецюкоў, перакідваўся зь імі некалькімі словамі і пачынаў гаворку на беларускія тэмы. Ну а падпіўшы, пачынаў уголас чытаць вершы Багдановіча, прамаўляў тосты за Вольную Беларусь і аднойчы, пасьля аднаго такога тосту, ледзь ня быў пабіты. І вось, калі я ўжо страціў быў надзею знайсьці «братоў па розуму», надарылася сустрэча, якая ў пэўнай ступені прадвызначыла мой далейшы лёс...

З Уладзімірам Арловым мы былі знаёмыя, казаў той, са школьнай лавы. Жыў ён у доме №4 па вул. Кірава, у тым жа доме жылі мае сябры-аднаклясьнікі, мы часьцяком сустракаліся, але вялікага сяброўства між намі не было. Арлоў вучыўся на адныя пяцёркі, настаўнікі ставілі яго ў прыклад, і такому ветрагону як я сябраваць з выдатнікамі не пасавала. Але аднойчы клясная кіраўнічка запрасіла Арлова - на той час студэнта першага курса БДУ - распавесьці нам, шалахвостам, пра ўнівэрсытэт, пра ўступныя іспыты і наагул пра студэнцкае жыцьцё.

Арлоўскі расповед нам спадабаўся: госьць апавядаў пра ўсё з дасьціпным гумарам, ну а прыканцы, паведаміўшы, што рэгулярна чытае ў мясцовай газэце мае зацемкі, выдаў фразу прыкладна наступнага зьместу: «Мудрову варта падавацца на журфак, у яго ёсьць задаткі журналіста». Такая фраза, зразумела, лягла на сэрца, і пасьля ўрока мы з Арловым яшчэ ладна пагаманілі. Праўда, паступаць на журфак ён мяне не спакусіў: пнуцца ў галоўнае вну рэспублікі з тройкаю па паводзінах - такога нахабства я сабе ня мог дазволіць.

Працяглы час мы з Арловым былі добрымі знаёмцамі, а неўзабаве адбылося наша «спатканьне на Вераб'ёвых гарах». Я тады, памятаю, спытаў: ці ёсьць у Менску інтэлігенты, якія размаўляюць па-беларуску? Такое пытаньне суразмоўніка не зьдзівіла, ён з натхненьнем адказаў: «Ёсьць!» - і паведаміў, што на мінулым тыдні на ўласныя вушы чуў, як па-беларуску гаманілі

прафэсар Алег Лойка ды бацька Генадзя Кулажанкі - арлоўскага аднакурсьніка з гістфаку. Вестка такая не магла не натхняць. Ёсьць, значыцца, яшчэ беларусы на сьвеце! І, зразумела, я адразу ж працяўся павагай да бацькі невядомага мне Генадзя Кулажанкі і яшчэ большай павагай - да прафэсара Алега Лойкі. Наша размова, аднак, на гэтым ня скончылася: я стоеным голасам паведаміў сябру, што ёсьць пара надзейных, апанаваных Беларушчынай, хлопцаў, зь якімі разам выдаем падпольны рукапісны альманах.

На наступны дзень я перадаў альманахі Арлову - колькі нумароў тады выдалі - ужо ня памятаю, - і ён павез іх у Менск, каб паказаць аднакурсьнікам. Прайшоў месяц, а мо й болей, і вось, нарэшце, сябар завітаў у родныя Палестыны. Зь ягоных словаў можна было зразумець, што «рукапісны ворган творчай літаратурна-мастацкай суполкі» быў прыхільна сустрэты менскім чытачом. Менчукам спадабалася ня столькі «зьмесьціва», колькі сама ідэя выданьня непадцэнзурнага беларускамоўнага альманаха. Тады ж Уладзя - так па ягонай просьбе я стаў менаваць сябра - даў мне свае вершы і фотаздымак, на якім ён, дзесяцігадовы хлапчына, стаяў пад яблыняй і кусаў яблык. Вершы разам з фотаздымкам былі «надрукаваныя» ў наступным нумары альманаха і ў суполцы нашай на аднаго чальца стала болей.

Тым часам заварушыліся і менскія мальцы. Уладзя паведаміў, што ў іхным інтэрнацкім пакоі сталі зьбірацца нераўнадушныя да лёсу Бацькаўшчыны студэнты: Генадзь Кулажанка, Юрась Бандаровіч, Ігар Чарняўскі, Алесь Міткавец ды іншыя. Дзесьці ўвосень 73-га Генадзь Кулажанка прыехаў у Наваполацак і мы пазнаёміліся. Госьць уразіў сваёй інтэлігентнасьцю - быў падобны з твару на папулярнага актора Ўладзіслава Дваржэцкага, - размаўляў, як і Дваржэцкі, сьцішаным голасам, але па ўсім было відаць, што гэта ён зьяўляецца лідэрам менскай суполкі. Мы ўтрох - Генадзь, Уладзя і я - доўга блукалі па наваполацкіх вуліцах, складалі пляны нацыянальнага адраджэньня, чыталі вершы, а напярэдадні ад'езду госьць даў для альманаху напаўжартам напісаны артыкул пад назовам

«Паэт-летуценьнік Валеры Шлыкаў». «З гэтага хлопца атрымаецца паэт,» - паведаміў Генадзь, маючы на ўвазе Валерыя Шлыкава, а я ў сваю чаргу падумаў: «А зь цябе мусіць атрымацца ачольнік адраджэнскага руху». На вялікі жаль прагнозы нашыя ня спраўдзіліся: пасьля разгрому альманаха Валеры кінуў пісаць вершы і пачаў піць, Генадзь быў пасланы на пачатку 80-х у Аўганістан і загінуў там пры нявысьветленых абставінах, а вышэйпамянёны рух, які пачаў набіраць моцы прыканцы 80-х і які ачолілі іншыя людзі, быў зьведзены на пусты канец.

Згадаю і яшчэ адну прасьветлую і чыстую душу, што спрычынілася да выхаду «Блакітнага ліхтара». Звалі таго хлопца Андрэй Грабаў, і ў час, калі мы прынялі яго ў свае шыхты, Андрэй вучыўся ў дзесятай клясе наваполацкай СШ №2. Гэта, паўтаруся, быў чысты і сумленны хлопец з бунтарскім характарам, заўзятар біт-музыкі і Гэмінгуэя, і я, пазіраючы на Андрэя з «вышыні» сваіх тадышніх гадоў, бачыў у ім сябе самога. Андрусь часьцяком завітваў на нашыя сходкі, слухаў нашыя бясконцыя размовы, чытаў і перачытваў нумары альманаха і ўрэшце рэшт прынёс свае ўласныя вершы. Грабаўскія вершы - ужывем гульню словаў - былі напісаны даволі зграбна і наагул вершаваныя радкі былі пазначаны паэтыцкім талентам. Гэта што да твораў лірычнага ладу. Аднак, апроч іх, прынёс Андрэй і вершы, так бы мовіць, грамадзянскага гучаньня. Уладзімір Арлоў у адным з сваіх эсэ ўзгадаў па памяці колькі радкоў аднаго Андрэевага верша:

*Рушу па Беларусі... У небе маланка палае.*
*Пад прыгонам усходнім стогне наша зямля.*
*Песьні-жальбы лунаюць ад краю да краю...*

Сканчваўся вершаваны твор аптымістычным сьцьверджаньнем, што неўзабаве ў беларускіх лясох «паўстане моладзі атрад». Верш гэты зьявіўся на старонках «Блакітнага ліхтара» ў пачатку 74-га, а праз колькі гадоў ягонага аўтара паклікалі ў шыхты СА і назад ён не вярнуўся: быў забіты, па афіцыйнай вэрсіі, таварышам па службе.

Сёньня, калі з часу разгрому альманаха мінула больш як чвэрць стагодзьдзя, дакараю сябе, што не зрабіў копіі зьмешчаных у ім матэрыялаў. Па памяці ўжо немагчыма аднавіць тыя ж Андрэевы вершы, а яны б і цяпер гучалі як выклік славутай беларускай «памяркоўнасьці» - халуйству й паталягічнай абачлівасьці, якімі здавёнчасу апаражаны наш народ і яго інтэлектуальны авангард - пісьменьніцкая братчына.

Зьмесьціва «Блакітнага ліхтара» - а ўсяго выйшла пятнаццаць сшыткаў - было далёкае ад літаратуры ў клясычным разуменьні гэтага слова. Пісалі мы розную лухту і таму жартам менавалі свой альманах «Блакітным лухтаром». У паэзіі пераважала так званая «чарнільная лірыка», якая шчыльна спалучалася з эратычнымі відзежамі ды мілоснымі пэражываньнямі лірычнага героя. Рэй тут вёў Валеры Шлыкаў, якому належалі наступныя радкі:

*Штосьці кепска стала жыць -*
*Няма каго спакусваць...*
*Што рабіць?*
*Ды трэба піць!*
*Піць і не закусываць.*

Яшчэ адна папулярная паэтычная форма - гэтак званыя «агітвершы» (у апошніх нумарах мы іх сталі менаваць «агідвершамі»).

*Там, на лузе, за ракою, дзе шуміць чарот*
*Адшукаў я выпадкова брудны, рваны бот.*
*Я пяшчотна ўзяў абутак, кінуў дагары,*
*Закрычаў я ўсяму сьвету (рэха ў бары),*

Скалануў я лугавіну ў жальбе і дакоры:

*«Здавайце, людзі, сыравіну у нарыхтканторы!»*

А вось яшчэ адзін падобны твор:

*Ночкай купальскай ў сярэдзіне летку*
*Шукаюць, дурныя, папараць-кветку.*

*Ходзяць яны з патаемнымі марамі,*
*Кветку шукаюць з пужлівымі тварамі.*
*Гэй вы, дурныя, ідзіце лепш спаць,*
*Годзе вам гэтую кветку шукаць.*
*Калі жадаеце шчасьце здабыць -*
*Трэба білет лятарэйны купіць!*

Сканчваўся «агідверш» заклікам: «Грамадзяне! Набывайце білеты Дзяржаўнай трохпрацэнтнай грашова-рэчавай лятарэі!»

Мелася ў альманаху і паэтычная рубрыка «Мама, пачытай». Дзеля гэтай рубрыкі Валеры Шлыкаў напісаў тузін вершаў і нават невялікую паэму пра тое, «як згубіў вушасты слон звонкія падковы». Апроч таго ў кожным нумары зьмяшчаліся матэрыялы пра беларускіх паэтаў ды пісьменьнікаў і рознага кшталту разважаньні пра гаротны стан нацыянальнай культуры.

У адным з сваіх артыкулаў Валеры Шлыкаў напісаў пра тое, што сябрам Творчай літаратурна-мастацкай суполкі імя Максіма Багдановіча трэба пільнавацца, бо кожны крок незалежніцкіх сілаў кантралюецца ворганамі Камітэту дзяржбясьпекі. Напісаў нібыта жартам, але пры гэтым як у ваду глядзеў. Кожны наш крок насамрэч кантраляваўся «ворганамі» і ў хуткім часе мы ў тым напоўніцу пераканаліся.

Аднойчы ўвечары - на календары быў 1974 год - я ішоў па вуліцы Маладзёвай у Наваполацку і, абмінаючы двух падпітых дзядзькоў, пачуў фразу, якая прымусіла сьцішыць крок. «Вунь, твой беларус пайшоў», - прамовілі мне ў сьпіну, я азірнуўся і падпітыя дзядзькі з прафэсійным імпэтам адвялі позіркі. Я адразу зразумеў - хто гэтыя людзі, як зразумеў і тое, што нашыя рукапісныя жарцікі скончыліся і КГБ ужо распачаў «паляваньне на апошняга беларуса». Душу маю апанаваў... не, ня страх, а нейкі цягутка-напружаны помрак. Я адчуў раптам, што мне да апошніх дзён наканавана блукаць у гэтым помраку, і яшчэ адчуў страшэнную самоту і прагу прыхіліцца да каго-небудзь. Адзіным чалавекам, якому я вырашыў распавесьці пра сустрэчу з падпітымі дзядзькамі, быў Уладзя Арлоў.

Але, калі ён зьявіўся ў Наваполацку, і калі я пабачыў ягоны пабляклы твар, дык зразумеў, што сябар меў сустрэчы куды больш сур'ёзнага парадку.

«Дрэнь справы», - яшчэ з парога паведаміў сябрук. «Учора выклікалі ў дом з бэльвэдэрам - КГБ усур'ёз намі зацікавіўся і раскручвае справу». Паводле Ўладзевых словаў, нехта з менскіх студэнтаў, якому на вочы патрапіў нумар альманаха, перапісаў зьмесьціва і пераслаў паперу ў «кантору». «Рыхтуйцеся, хутка і вас пацягнуць», - папярэдзіў сябар і мы з Валерам пачалі падрыхтоўку: выдалілі з альманахаў старонкі зь небясьпечнымі вершамі, з артыкуламі, у якіх згадваліся КПСС і ейны баявы атрад, і замянілі іх старонкамі з палітычна ляяльнымі тэкстамі. Пасьля таго склалі ўсе пятнаццаць нумароў у стос і сталі чакаць гасьцей: былі перакананыя, што гэбісты будуць нас браць на кватэрах і абавязкова ноччу. Але прайшоў месяц, другі, трэці, а гасьцей усё не было. Цяжка сказаць - чаму яны валаводзілі. Хацелі, відаць, узяць нас на нейкай гарачай справе. Мы, аднак, былі папярэджаныя і, казаў той, сядзелі, падкурчыўшы хвасты. Прычым, папярэдзіў нас ня толькі Ўладзя Арлоў, але й адзін з былых аднаклясьнікаў. Аднойчы, па-п'янцы, ён паведаміў, што зьяўляецца асьведамляльнікам КГБ і рэгулярна інфармуе сваіх «працадаўцаў» наконт нашых дзеяньняў і нашых настрояў. Той хлопец быў ня проста аднаклясьнікам, але й блізкім сябрам, а таму нам з Валерам ад такой навіны нават мову заняло. Зрэшты, мы на сябра не крыўдавалі - ён сам прызнаўся ў сваім віжоўстве, а мог жа і не прызнавацца.

Дзесьці ў кастрычніку 1974-га ўвесь наш курс сагналі ў актавую залю і таварыш у скураным пінжаку прачытаў студэнтам рэфэрат на тэму: «Як супрацьдзеяць ідэалягічным дывэрсіям Захаду». Згадаўшы добрым словам «незабвенного Иосифа Виссарионовича Сталина», таварыш у скуры даў дыхту амэрыканскім імпэрыялістам, бонскім рэваншыстам ды іншай закардоннай мярзоце, потым пераключыўся на выкрывальніцтва так званых дысыдэнтаў, а прыканцы рэфэрату заклікаў студэнтаў не губляць пільнасьці, бо ў

нашай, у цэлым, палітычна здаровай рэспубліцы, ёсьць людзі, незадаволеныя палітыкай Камуністычнай партыі, а ў некаторых акадэмічных асяродках падымаюць голаў беларускія буржуазныя нацыяналісты. Выкрывальнік нацыяналізму паведаміў таксама, што апошнім часам і сярод студэнцкай моладзі сталі ўзьнікаць гурткі, сябры якіх займаюцца палітычна шкоднай дзейнасьцю і, у прыватнасьці, выдаюць і распаўсюджваюць нацыяналістычную літаратуру. «Калі хто з прысутных ведае пра існаваньне такіх гурткоў, той мусіць, як грамадзянін і патрыёт, паведаміць пра гэта ў гарадзкі аддзел Камітэту дзяржаўнай бясьпекі», - выдаў прамоўца і пакінуў моўніцу.

Калі я выходзіў з залі, хтосьці з аднакурсьнікаў у жартаўлівым запале крыкнуў: «Мудроў, закладзем...» Галава мая ўехала ў плечы і я прысьпешыў хаду, з глыбокім перакананьнем, што словы гэтыя спраўдзяцца. Гэбісты відавочна і арганізавалі чытаньне «рэфэрату», каб высьветліць - насколькі «патрыятычныя» студэнты Наваполацкага політэхнічнага інстытуту. Ну а праз пару тыдняў, пад час лекцыі, аўдыторныя дзьверы расчыніліся і ў дзьвярной пройме нарадзіўся ўсхваляваны голас: «Мудроў, Песін, Марчанка, Мышалоў... Вас чакае рэктар». «Нарэшце!» - мільганула ў галаве і ад тае думкі балюча сьціснула скроні. Мы выйшлі ўчацьвярох на калідор, дзе нас чакаў нейкі мітусьлівы таварыш. Таварыш зладзеявата азірнуўся, тузануў голеным падбародзьдзем: «Хадзем за мной!»

Ля інстытуцкага ганку стаяла бліскучая чорная «Волга». Мы ўбіліся ў прапахлае бэнзінам нутро, легкавушка адразу ж пайшла на разварот, уціснуўшы нашыя сьпіны ў прыслон мяккага сядзеньня. Я насьцярожана зірнуў на карак гаспадара легкавушкі, і гаспадар, крутнуўшы галавой, выцягнуў з кішэні пасьведчаньне: «Я з Камітэту дзяржаўнай бясьпекі. Маю да вас размову».

Як на добры лад, дык у камітэт мусілі цягнуць мяне ды Валеру - выдаўцоў альманаха. Тут жа везьлі цэлую кампанію, прычым легкавушка ехала ў дзіўным

накірунку - у бок прамысловай зоны. Усё гэта непакоіла, думкі блыталіся ў галаве і я прагнуў толькі аднаго: зьнікнуць, ператварыцца ў нішто, ці, на благі канец, у восеньскую муху, што білася ў шыбу перад маім носам. «Волга» між тым пад'ехала да ганку паліклінікі нафтаперапрацоўчага заводу, віскнула гамульцамі і спынілася. Гэбіст спружна ўзьбег па ўсходах, мы гужам, на ватных нагах, пабеглі сьледам, узьняліся на трэці паверх, прабегліся па калідоры і неўзабаве апынуліся ў разьлеглым «працэдурным» пакоі. «Чакайце!» - гукнуў баец нябачнага фронту і зьнік за дзьвярыма. Чакаць давялося доўга. Мы, вядома ж, пачалі абмяркоўваць сытуацыю, сталі выпрацоўваць лінію паводзінаў, але, убачыўшы на століку аднаканальны «Сож» бяз ручкі настройкі, разам аціхлі, дзьверы, за якімі схаваўся чэкіст, стоена рыпнулі, і нас - па адным - сталі выклікаць «на размову».

Сябры вярталіся праз лічаныя хвіліны, з прасьвятлелымі тварамі, была спадзеўка, што я таксама хутка «адстраляюся», але, калі зайшоў у габінэт, зразумеў: сябрукі ў гэтай п'есе толькі статысты, а галоўная роля належыць мне.

«Прозьвішча, імя, імя па-бацьку... Дзе нарадзіўся? хто бацькі? якую школу скончыў? хто падбіў да арганізацыі суполкі? хто, апроч Шлыкава, браў удзел у выданьні альманаха? колькі нумароў выйшла? чаму назвалі сваё выданьне «Блакітны ліхтар»? каго ведаеце зь беларускіх пісьменьнікаў? ці часта бываеце ў Менску? ці даводзілася чытаць падрыўную літаратуру? каму давалі альманах? зь якой нагоды цікавіцеся Альбаніяй?..» Я блытана адказваў на гэтыя ды іншыя пытаньні, адчуваючы, што баец нябачнага фронту задае іх дзеля праформы. На стале ў байца ляжала тэчка і ў яе нутры, відавочна, былі пазначаныя і маё прозьвішча, і імя, і шмат чаго іншага.

Адказваў на пытаньні больш гадзіны і, урэшце рэшт, чэкіст запытаўся: «Паэтку Ларысу Геніюш ведаеце?» «Ведаю, але асабіста зь ёю не сустракаўся». «А ведаеце, што яна сядзела за нацыяналізм?» Давялося баднуць

галавой, уздыхнуць і ўтаропіцца на аркуш паперы, які ўзьнік перад вачыма. «Напішыце пра ўсё, аб чым мы тут з вамі гаманілі», - загадаў суразмоўнік і выйшаў з габінэту.

Пісаў я доўга, потым перапісваў - гэбісту штосьці там не спадабалася - нарэшце мая пісаніна была пакладзена ў тэчку, гаспадар габінэту падняўся з-за стала і задаў апошняе пытаньне: «Дзе альманахі?»

Хвілін празь дзесяць службовая «Волга» везла мяне ў адваротным накірунку. Тулячыся на заднім сядзеньні, я ліхаманкава згадваў: каму аддаў апошні нумар? Восем нумароў ляжалі ў маім пісьмовым стале, чатыры ўзяў Рыбікаў, два хадзілі па руках у студэнцкім інтэрнаце, а дзе хадзіў яшчэ адзін нумар, я ня мог узяць да галавы. На пачатку заехалі да мяне, на Маладзёвую, 95. Пакуль поркаўся ў стальніцы, баец нябачнага фронту ўважліва сачыў за мной - баяўся, відаць, што я зьнішчу «кампрамат». Потым паехалі на кватэру да Рыбікава. Сустрэла нас Толікава маці. «Вось, - кажу, - таварыш з рэдакцыі. Хоча пачытаць нашыя творы». «А іх жа нельга чытаць чужым людзям», - з імпэтам выдала жанчына. «Гэта свой», - няшчыра прамармытаў я, адчуўшы на сваёй шыі гарачы подых чэкіста.

У студэнцкім інтэрнаце баец нябачнага фронту тыцнуў камэнданшы пасьведчаньне, тая, спатыкаючыся, пабегла па лесьвіцы, паадчыняла патрэбныя дзьверы і яшчэ два нумары «Блакітнага ліхтару» зьніклі ў чорнай тэчцы.

«Апошні нумар сёньня аддаць не змагу», - паведаміў я, калі мы выйшлі з інтэрнату. «Хлопец, які яго чытае, зьехаў і вернецца праз пару дзён». Такая навіна засмуціла спадарожніка. «Што ж вы... кажаце, што нікому альманахі не давалі, а тут гойсаем па горадзе і ня можам знайсьці», - дакорліва выдыхнуў спадарожнік і дадаў: «Як толькі знойдзеце альманах - адразу ж прывозьце ў паліклініку». І яшчэ папярэдзіў, каб я нікому пра выклік у «органы» не балбатаў.

На наступны дзень выкладчык мэталазнаўства жартам

заўважыў: «Што, Мудроў, учора зноў прагуляў... Сядзеў, відаць, на піве?» «Ды не, яго ў КГБ цягалі», - гукнуў у адказ адзін з маіх аднакурсьнікаў і выкладчык, пасуравеўшы з твару, перапытаў: «Сапраўды?» Пасьля таго з мэталазнаўствам у мяне не было праблемаў.

Душы тых, каму ў далёкія сямідзесятыя гады давялося хадзіць на «прафіляктычныя гутаркі», зьведалі цэлы комплекс перажываньняў. КГБ баяліся як агню і боязь тая мела генэтычны характар. Савецкая ахранка фізычна зьнішчыла мільёны людзей, мільёнам скалечыла лёсы, зрабіла рашучы ўнёсак у справу зьнішчэньня беларусаў як нацыі і жывёльны страх перад яжоўска-берыеўскай «канторай» літаральна ўеўся ў сьвядомасьць наступных пакаленьняў. Я не магу сказаць, што быў апанаваны жывёльным страхам, але душа - рэч зразумелая - млела ў грудзіне. Патрапіўшы ў дваццацігадовым узросьце «на гачак» КГБ, я пастаянна адчуваў увагу да сваёй асобы, і блізкія сябры, а то і проста знаёмцы раз-пораз казалі, сьцішыўшы голас, адну і тую ж фразу: «Прыкусі язык, табою цікавяцца...» Калі-нікалі цікавасьць тая была проста дэманстратыўнай: варта было зьявіцца на Скарынінскім сьвяце ў Полацку, якое штогоду праводзілася ў апошнія жніveньскія дні, як да сьпіны «прыліпалі» камсамольскага выгляду маладзёны. Яны хадзілі сьледам цягам усяго сьвята, а аднойчы нават суправаджалі нас з жонкай да самай хаты: ехалі паволі ў «Жыгулях», наставіўшы ў вокны свае ўкормленыя, страшэнна задаволеныя пысы.

Такім чынам, альманахі былі рэквізаваныя, адпаведныя тлумачэньні напісаныя, і я спадзяваўся, што на мяне забудуцца. Аднак не... Праз колькі дзён патэлефанаваў «таварыш з паліклінікі» і нагадаў пра даўжок. Давялося перагарнуць раз астатні «Блакітны ліхтар» №15 і выпраўляцца ў паліклініку, дзе мяне чакала чарговая прафіляктычная гутарка.

Гэтым разам гэбіст пачаў «прафіляктыку» з аналізу нашай творчасьці.

«Гэта вы напісалі: «Я цягнуся у кастрычніцкае раньне/

Дзе ты, мой вясёлы, цёплы май?/ А навокал толькі ветру скавытаньне/ І дарогі бруднай шчэ ня бачны край»?

Я моўчкі кіўнуў галавой.

«Ёсьць тэкст і падтэкст, і параўноўваць вялікі Кастрычнік з бруднай дарогай мы вам не дазволім».

Я паспрабаваў быў апраўдвацца, але суразмоўца перагарнуў старонкі альманаха і працытаваў рыбікаўскі верш: «Нехта нечым ноты грае/ Ўсё крычыць бясконца./ Як раней мужык наш мае/ Ўсё у плямах сонца». Прачытаўшы гэта, баец нябачнага фронту наставіў на мяне дапытлівыя вочы і з робленай пакутаю ўздыхнуў. Потым ён доўга цытаваў «чарнільную лірыку» Валерыя Шлыкава і гэтак жа доўга разважаў аб шкодзе, якую чыніць падобная лірыка справе выхаваньня маладога пакаленьня. Нарэшце, быў працытаваны ўрывак з артыкула пра Ўладзіміра Караткевіча - гэты пісьменьнік быў, поруч з Альбэрам Камю, маім тадышнім кумірам - і голас суразмоўцы набыў лагодны тэмбар. Гэбіст адкінуўся ў крэсьле і паведаміў, што асабіста ведае Ўладзіміра Сымонавіча і, як бывае ў Менску, часьцяком завітвае да яго ў госьці. Я напачатку ня даў таму веры, а потым падумаў, што й сапраўды - такіх «сяброў у пагонах» вакол Караткевіча мусіла круціцца цэлая рота. «Сябар Караткевіча» стаў распавядаць пра свае сустрэчы зь пісьменьнікам, але тут у габінэт увайшоў мурлаты тыпус у шэрым пінжаку - відаць, начальнік, - і суразмоўнік адарваў сьпіну ад крэсла. Мурло задало мне толькі адно пытаньне: «Бацькі ведаюць, што табою займаюцца ворганы?» Я страсянуў чупрынаю, а праз колькі дзён, вярнуўшыся з заняткаў, натыкнуўся ў калідоры на заплаканую маці. Маці плакала беспатольна, надрыўна і скрозь усхліпы прарываліся здушаныя словы: «Думала - вывучыцца... чалавекам стане... а ён... палез у палітыку...» Плакаць было з чаго: надоечы маці паведамілі, што ейны сын арганізаваў антысавецкую групу, якая была выкрыта ворганамі дзяржбясьпекі. Я адразу зразумеў - хто ініцыяваў такое «паведамленьне» і ў душы пракляў мурлатага «варганіста». Матаньне нэрваў здароўя маці не дадало.

Яна была жанчынай уражлівай, а таму страшэнна перажывала з прычыны маёй «палітыкі», і ў 1980 годзе памерла ў пяцьдзесят два гады ад ішэмічнай хваробы сэрца.

Напачатку 90-х расейская ФСБ вярнула былым уладальнікам шмат з таго, што было рэквізавана органамі ГБ, у тым ліку і твораў самвыдату. Пры гэтым фээсбоўцы прынесьлі афіцыйныя прабачэньні за колішнія закалоты. У нас жа нічога такога не назіралася. Больш таго: мне давялося пачуць па «мацюгальніку» інтэрвію з адным кампэтэнтным таварышам, які заявіў, што ў Беларусі практычна не існавала самвыдату і спэцслужбы, адпаведна, за гэтую справу нікога не перасьледвалі.

Дзесьці ў 1993 годзе я папрасіў свайго сябра, дэпутата ВС Лявона Баршчэўскага даведацца ў другога дэпутата - кіраўніка тадышняга КГБ сп. Лавіцкага - ці ёсьць шанец атрымаць назад канфіскаваныя альманахі (у 74-м сп. Лавіцкі ўзначальваў абласную гэбісцкую ўправу і «Блакітны ліхтар» грамілі не безь яго ведама). Як засьведчыў Лявон, галоўны чэкіст краіны параіў не марнаваць часу на пошукі канфіскаваных матэрыялаў, бо яны пасьля славутага путчу былі ператвораныя ў попел.

Фээрычным атрымаўся эпілёг.

Шэрыя тэчкі асабістых справаў, сьпісы агентаў і стукачоў, пажоўклыя старонкі даносаў - усё гэта гарыць і курчыцца ў пякельным агні, і толькі важкі, перахоплены аборкай пачак, аніяк не жадае гарэць. Нарэшце, ён паволі чарнее з аднаго кута, полымя дабіраецца да літары «А», потым да маленькага, сіняй фарбай намаляванага ліхтарыка, і нечакана ўспыхвае зыркім слупом, асьвятліўшы мітусьлівыя рукі й зварухнуўшы цені на пашарпанай сьцяне.

## Гарачае лета 00-га

**I**

- Запрашай! - махнуў рукой палкоўнік, і русявы маладзён, што стаяў ля дзьвярэй, высьлізнуў з габінэту.

Празь імгненьне ў тамбуры затупалі і з прыцемку выплыў нізкарослы тыпус, квадратны твар якога быў пазбаўлены якой-кольвечы думкі, а натапыраныя вушы з кожным крокам дзіўным чынам варушыліся. Сьледам за ім у габінэт увайшоў цыбаты мурын у бэйсболцы, які нёс пад пахаю вялізны скураны тубус.

- Радыя вас бачыць, містэр Вік, - зганяючы з твару гідлівую ўсьмешку, палкоўнік запрасіў госьця прысесьці, і Вік плюхнуўся ў мяккі фатэль.

У фатэлі лядашчае Вікава цела выглядала яшчэ больш мізэрным. Госьць адчуў гэта, бо адразу ж раскрыліў пінжак і ўсьпёр на стол свае падагрычныя ногі.

Палкоўнік з прадстаўніком Камітэту пераглянуліся.

«Пасадзі сьвіньню за стол...» - моўчкі прамовіў палкоўнік.

«Вытрымка... жалезная вытрымка!» - моўчкі адказаў прадстаўнік Камітэту, і ліловы пісяг на палкоўніцкай шчацэ наліўся нэрвовай чырваньню.

За сваю доўгую гісторыю дубовы стол - калісь ён стаяў у габінэце 2-га сакратара Цэка - шмат чаго пабачыў і шмат чые локці соўгаліся па ягоным дзяржаўна-зялёным сукне. Але каб на сукне тым соўгаліся заднікі зьбітых чаравікаў - такога ў гісторыі яшчэ не было.

- Як вам нашае надвор'е? - запытаўся палкоўнік і закашляўся, спрабуючы ўтаймаваць нэрвовы клёкат у горле.

Мурын - ён выконваў функцыі сакратара і целаахоўніка - пачаў перакладаць, але шэф незадаволена пстрыкнуў пальцамі і сіпла прамовіў:

- Let's pass from words to deeds. Time presses.*

* Давайце аб справе. Час прысьпешвае (анг.).

У пацьверджаньне плыні часу ў куце габінэту бомкнуў стары гадзіньнік, і палкоўнік, цяпер ужо бяз клёкату ў горле, запытаўся:

- Тавар у вас?

Мурын падышоў да стала, паклаў на яго скураны тубус.

- For five number, as we treated?* - госьць удругарадзь пстрыкнуў пальцамі, і цемнаскуры сакратар працягнуў шэфу прадаўгаваты, бліскучы на выгляд пачак.

* На пяць нумароў, як і дамаўляліся (анг.).

«Жавальная табака... «Чырвоны індзеец», - адцеміў пра сябе палкоўнік.

- As soon as you transfer your money on our count the first consignment will come.* - госьць прамовіў гэтую фразу, жуючы табаку, і мурын, слухаючы няўцямна-шапялявую гаворку, заклапочана пацёр лабешнік.

* Як толькі перавядзеце грошы на наш рахунак, адразу ж атрымаеце першую партыю (анг.).

Згадка пра валютны рахунак усхвалявала палкоўніка.

- Раней вы казалі: варта толькі прачытаць тэкст. Цяпер загаварылі пра непасрэдны кантакт з галавою. А гэта ж зусім іншы каленкор, - палкоўнік стрымана кашлянуў і, пасьля паўзы, дадаў: - І зусім іншыя грошы.

Цемнаскуры цівун скрывіўся, падбіраючы адпаведнік слову «каленкор», і містэр Вік, пстрыкнуўшы пальцамі абедзьвюх рук, загаварыў па-расейску, расьцягваючы, па прыкладу латышоў і чэхаў, галосныя зыкі.

- Над праектам працавалі тры інстытуты, у справу ўбіта тры мільярды даляраў, да таго ж я сур'ёзна рызыкую. Калі там... - госьць узьняў да столі пукатыя вочы, - даведаюцца пра нашу зьдзелку, я мушу сесьці ў крэсла. Самі ведаеце, якое...

- Ве-едаем, - выдыхнуў палкоўнік, таксама расьцягваючы зыкі, - тры тысячы вольт, дым з вушэй і ўсё такое...

- What does it have to do with my ears?* - абурыўся госьць, ускочыў з фатэля, і разам зь ім ускочыў з крэсла і прадстаўнік Камітэту.

* Пры чым тут мае вушы? (анг.).

- Панове... ня будзем пікіравацца, - прымірэнчым голасам прамовіў камітэтчык, - заўтра правядзём экспэрымэнт і калі ўсё будзе добра, тады і абмяркуем нашыя праблемы.

Калі за гасьцямі зачыніліся дзьверы, прадстаўнік Камітэту з дакорлівай усьмешкаю ў вачах зірнуў на палкоўніка.

- У нашай працы трэба быць не ганчакамі, а лісамі... Калі гэтая рэч і сапраўды... - камітэтчык з гучным поканьнем раскрыў тубус, - ... выпроствае зьвіліны, тут ніякіх грошай не пашкадуеш. За пару месяцаў зьліквідуем усялякую апазыцыю. Уяўляеш... Скразьняк нясе праблемны артыкул у «Лубянскі набат», Лабуцька вядзе рэй у Антынатаўскім камітэце... Гэты... як яго?.. Кудыка... зьбірае мітынгі з патрабаваньнем надаць Акадэміі навук імя любімага Прэзыдэнта.

Слухаючы калегу, палкоўнік пачухаў сьвярблівы шнар на шчацэ, памацаў скрутак паперы, што тырчаў з тубуса, і, падняўшы трубку нутранога тэлефона, каротка загадаў:

- Трэцюю тэчку на стол!

Важкая тэчка з мэталёвай лічбай «3» на вокладцы зьмяшчала дасье на галоўных апазыцыянэраў.

Хаця лейтэнант Надгайны - так звалі русявага маладзёна - чытаў дасье бадзёрым голасам, палкоўнік слухаў ня надта ўважліва і толькі калі лейтэнант дайшоў да Вячаслава Забелы - інжынэра-праграміста з завода імя Манілава, рыпнуў крэслам і зяхліва запытаў:

- А на якія сродкі ён жыве, гэты Забела?

- У вольны ад працы час прадае кантрабандныя запалкі, - гукнуў лейтэнант, выпетрыўшы з палкоўніцкай галавы рэшткі дрымоты.

- Інжынэр Забела прадае запалкі... Сорамна, бацюхна! - зь ленінскай картавінкай прамовіў палкоўнік, пасьля чаго ўжо сур'ёзным голасам прабурчаў: - Далей.

Ганчарык Аляксей Пятровіч. Сябар ПЭН-цэнтру. Аўтар пятнаццаці празаічных кніжак, напісаных з варожых славянскаму сьвету пазыцый.

- Гэта ня той Ганчарык, што гандлюе трусамі на Камароўцы? - ускінуў брыво палкоўнік.

- Той самы, - працадзіў прадстаўнік Камітэту.

- Вось зь яго і пачнем, - сказаўшы так, палкоўнік пайшоў да тэлефону, хвілін пяць даваў розныя распараджэньні, потым дастаў з сэйфу пачатую пляшку каньяку, наліў сабе і камітэтчыку, сьпехам кульнуў чарку і, падхапіўшы тубус, адрыгнуў каньячным духам: - Едзем у друкарню!

**II**

- Іван! Чуеш? Грошай няма ні капейкі, - рыпучы жончын голас прабіўся пад коўдру, нэрвовым сьвербам прайшоўся па скуры. - Ганчарык на Камароўцы сядзіць. Шабуня кашы пляце, а гэты лежні правіць. Думае, я яго карміць буду! - гукнула жонка, бразнула ўваходнымі дзьвярыма, і Іван вытыркнуў галаву з-пад коўдры.

Зыркая яснасьць адбірала зрок; вочы міжволі заплюшчыліся, і так, з закрытымі вачыма, Іван апусьціў нагу на падлогу. Ён вылазіў з-пад коўдры паволі - як самнамбул, як немаўля з матчынага ўлоньня, як чарвяк з надкусанай папяроўкі. Ну, а даўшы волю мастацкай вобразнасьці, можна сказаць і так: Іван вылазіў з-пад коўдры, як адубелы ад холаду небарака-чмель. (Зрэшты, ранак выдаўся цёплым, нават гарачым, і згадка пра

адубелага чмяля не зусім дарэчная.)

Іван насунуў на ногі тэпці, пайшоў на кухню, доўга піў нагбом цеплаватую ваду з чайніка, потым убіўся ў прыбіральню, гэтак жа доўга выдаляў з нутра вільгаць, а тузануўшы фаянсавую гіру, пабрыў туды, куды і мусіць брысьці пісьменьнік часінай ранішняга одуму - у сваю творчую лябараторыю.

Цяжка (магчыма, нават з вохканьнем) сеў Іван за пісьмовы стол, абхапіў рукамі скроні і з панылай зацятасьцю агледзеў папяровы сьметнік, што ляжаў на стале. Тут, у поўным бязладзьдзі, ляжалі расейска-беларускія і беларуска-расейскія слоўнікі, старыя газэты, зашмальцаваныя блякноты, бухгальтарскія кнігі, змацаваныя залацістай сашчэпкай старонкі лірычнай навэлы «У Заказельлі днее», лісткі фэналягічнага дзёньніка ды іншы хломазд.

Колькі сябе помніў Іван, на стале ягоным заўсёды панаваў вэрхал. Кожнага ранку, пагаліўшыся і надзеўшы белую кашулю, ён сядаў за стол, ссоўваў убок папяровы сьметнік і, падрыхтаваўшы такім чынам пляцдарм дзеля творчага парыву, натхнёна рыпаў старым «паркерам».

Вэрхал, які панаваў у лябараторыі, ня толькі не раздражняў, але і ствараў своеасаблівую працоўную атмасфэру. Сёньня ж уся гэтая папяровая брыда цьвяліла нэрвы й нараджала палкае жаданьне ўзяць яе ў ахапак і выкінуць у сьмецьцеправод. Падуладны такому жаданьню, Іван крэкнуў (магчыма, нават пукнуў), раскрыліў рукі, каб прыбраць з вачэй хломазд, ды нечакана абмяк і зноўку абхапіў далонямі скроні.

За апошнія пяць, ці нават болей, гадоў у Івана нічога не выдавалася. Пісаць не было сэнсу, і ўсё ж такі нейкая неадольная сіла цягнула яго да стала, і ён пэцкаў неразборлівымі радкамі старонкі бухгальтарскіх кніг, сям-там прарываючы ў творчым запале лядашчую паперу. Іван пісаў аўтабіяграфічны раман. Сьпісана было восем гросбухаў (іх прыносіла з працы жонка-бухгальтарка), а жыцьцяпіс толькі-толькі наблізіўся да

таго моманту, калі малады герой, памацаўшы мокры ад матчынай сьлязы штрыфель пільчака, выправіўся з роднага хутара ў шырокі сьвет.

Звычайна Іван пісаў да абеду, а па абедзе ішоў у адведкі да сяброў, такіх жа безграшовых і зьняверaных у жыцьці літаратараў. Нейкім дзіўным чынам яны знаходзілі грошы, куплялі таннага віна і ўчынялі сяброўскія бясeды - ці то ў парку (калі дазваляла надвор'е), ці то ў рэдакцыі часопісу «Славянская румка».

Была ў Івана і норма спажываньня «мармытухі»: чатыры паўлітровых пляшкі. Выпіўшы болей, ён шалеў: чапляўся да жанок, лаяў кіраўніцтва СП, а то, дастаўшы з нутраной кішэні пакамечаныя лісткі, уголас чытаў урыўкі з аўтабіяграфічнага рамана. Пасьля такіх гулянак у Івана балела галава, уваччу мільгацелі чорныя мятлікі, і ачмурэлая ад перагару Муза кожнага разу вылятала з творчай лябараторыі праз адчыненую фортку. У такія хвіліны Іван мераў дробным крокам лябараторыю, здушана аддзімаўся, а прайшоўшы разоў дваццаць ад пісьмовага стала да дзьвярэй і наадварот, паціраў рукі і нясьмела, па-кашэчы насьцярожліва, падыходзіў да кніжнай шафы. Там, на сярэдняй паліцы, стаялі радком усе пяць Ягоных кніжак. Дрогкая рука выцягвала самую тоўстую, з залатымі літарамі «Выбранае» на карэньчыку, пальцы мітусьліва гарталі старонкі, і масьляністыя вочы сьлізгалі па знаёмых радках.

- Магу... магу... - шаптаў Іван, чытаючы ўласныя, немаведама калі напісаныя тэксты, і свавольніца Муза, паблукаўшы па навакольлі, лёгкім ветрыкам залятала ў пакой.

Гэтым разам хадзіць па лябараторыі не было сіл: ён проста сядзеў, абхапіўшы рукамі галаў і невідушча глядзеў на падрапаны край стала.

Стол, дарэчы сказаць, займаў добрую траціну пакою, быў куплены гадоў пятнаццаць назад ва ўдавы аднаго клясыка і, падобна, захоўваў у сваім нутры думкі былога

гаспадара. Нездарма ж першы напісаны за ім твор - аповед «Маня з Заказельля» - сюжэтна нагадваў апошні раман памерлага клясыка. Вось і цяпер, пазіраючы на завілыя драпіны, Іван згадаў героя таго рамана - калгаснага мэханізатара Сьцёпку, які, пакахаўшы бібліятэкарку Клаву, кінуўся зь сякерай на цяжарную жонку. Уваччу - дарэшты выяўна - паўстаў Сьцёпка-мэханізатар зь сякерай у руках, увушшу - таксама выяўна - прагучаў жончын голас: - Думае, я яго карміць буду! - і Іван, каб разагнаць чмуру, ускудлаціў валасы на скронях.

Словы, сказаныя жонкаю паўгадзіны таму, пазбавілі ня толькі творчага натхненьня, але й душэўнай раўнавагі. Душа Іванава ўжо даўно абмірала ў прадчуваньні такіх слоў, і вось яны былі сказаны...

Трэба было штосьці рабіць, шукаць нейкую працу. Пагатоў, многія літаратары ўжо даўно недзе ўладкаваліся, зарабляючы на хлеб з тонкім слоем «Рамы». Паэт Мінковіч падаўся ў начныя вартаўнікі, эсэіст Анкуда зьехаў у родную вёску і гадаваў там трусоў, драматург Шабуня плёў кашы, а празаік Ганчарык - заўзяты весялун і залётнік - гандляваў на Камароўскім рынку ці то шкарпэткамі, ці то бюстгальтарамі, ці то яшчэ нейкай халерай.

Апошняе прозьвішча захрасла ў мазгах, і Іван прыгадаў, як летась весялун і залётнік прапанаваў яму ўключыцца ў базарны бізнэс. Тады ён толькі рагатнуў у адказ, а цяпер, успомніўшы тую размову, падняўся на ногі і засяроджана пачухаў патыліцу.

**III**

На выцьвілым небе не было ні аблачынкі, і сонца паліла як не ў сабе. Пакуль Іван датупаў да Камароўкі, мазгі амаль што расталі, і кропля ядранага поту сьвярбліва каціліся па драбах.

Адразу ж ля брамаў яго падхапіў людзкі натоўп, сьціснуў з усіх чатырох бакоў, пацягнуў за сабой у

напрамку павільёна «Насеньне». Абышоўшы два разы вакол павільёна, даверху завешанага скуранымі курткамі, і зразумеўшы, што базарны бізнэс - гэта не для яго, Іван памкнуўся да выхаду і пачуў, як недзе непадалёку пакрыўджана загарлала кабета:

- А чыво эта вы са мной па-беларускі разгаварваеце?

Давялося стаць на дыбкі, выцягнуць шыю.

- Купіла трусы мужыку... палез у ваду і краска ў с... уелася. Нічым не адмыць, - галёкала кабета, махаючы ў паветры чырвона-зялёнымі трусамі.

Ганчарык - а лаяліся, вядома ж, на яго - хваравіта крывіўся, змучана аддзімаўся і, мяркуючы па ўсім, ня ведаў, што адказаць кабеце, якая патрабавала вярнуць ёй сорак мільёнаў. Магчыма, Ганчарык і вярнуў бы грошы, ды тут яго падтрымала маладая гандлярка, што вытыркнулася з-за калашыньня разьвешаных штаноў.

- Пемзай пашаруй! - жартам выдала гандлярка, і кабета, забыўшыся на Ганчарыка, накінулася на тую зь лютымі праклёнамі.

Базарная лаянка Івана ня толькі ўразіла, але й занепакоіла. Ён утуліў галаў у плечы, прыгнуўся, каб не патрапіць Ганчарыку на вочы, але калега крутнуў галавой, і яны сутыкнуліся позіркамі.

Ганчарыка сустрэчы ня надта ўзрадавала: калега ўздыхнуў, скасіў вока на сварлівую кабету і, спахапіўшыся, стаў зрываць зь вяроўчыны разьвешаныя мэтлахі ды запіхваць у вялізную цыратавую сумку.

- Усё, зь мяне хопіць! - выгукнуў весялун і залётнік, усьпёр напакаваную сумку на галаў, як гэта робяць афрыканскія тубыльцы, і кіўком галавы загадаў Івану ісьці сьледам.

Не згаворваючыся, яны рушылі ў напрамку прадуктовай крамы. Ганчарык за ўсю дарогу не прамовіў ні слова; нават купляючы газэту ў шапіку, моўчкі паказаў пальцам на тыднёвік «Наша Ніва», і толькі ля крамных

дзьвярэй, дастаўшы з кішэні пачак грошай, коратка запытаў:

- Пішаш?

У адказ Іван неакрэсьлена страсянуў галавой, потым гэтак жа неакрэсьлена кіўнуў і хуценька падаўся ў краму.

Лёшку Ганчарыка ў пісьменьніцкім асяродку ня надта любілі. Быў ён творцам таленавітым, амбітным і, да таго ж, церабіў, а то й рэзаў праўду-матку. Калі Ганчарыка пыталіся, што ён думае пра новы раман ці аповед якога-небудзь жывога клясыка, Лёшка заўсёды хмурнеў і прамаўляў ня надта мілагучнае слова (каб чытачы здагадаліся - што гэта за слова, паведамім: яно сугучнае драсёну, Дрысе і Дрысьвятам).

Праўда, была ў Лёшкі й дадатная рыса: калі хто з знаёмцаў прасіў грошай на пахмелку, ён нікому не адмаўляў, а, атрымаўшы буйны ганарар, частаваў братоў-пісакаў на поўную губу.

Частаваў Ганчарык і Йвана. Наліваў гранёную шклянку, абдымаў за плечы і, згадаўшы «Маню з Заказельля» - той самы аповед, у якім трактарыст Трыфан кінуўся з сякерай на абрыдлую цешчу, - прамаўляў сваё ўлюбёнае слоўца. Іван пры гэтым ня мог уцяміць - жартаваў Ганчарык ці казаў усур'ёз; прытоеная крыўда штораз падступала да горла, і даводзілася заганяць яе ў страўнік глытком пякучай гарэлкі.

... Стоячы ў чарзе, Іван пералічыў грошы, і старая крыўда зварухнулася на дне страўніка. «Я ў падзёртых штанах хаджу, а ў гэтага прайдзісьвета па мільярду ў кожнай кішэні», - бязгучна прабубнеў Іван і, кіўнуўшы прадаўшчыцы, цяпер ужо ўголас прамармытаў:

- Тры віна і слоік салянкі.

**IV**

Жлукціць такою парою віно можна было толькі ў адным

месцы: ля рэчкі. Туды яны і скіравалі.

Людзей на рэчцы было аж занадта. Сам бераг апанавала дзятва - віскат стаяў неверагодны, крыху зводдаль усё было застаўлена машынамі, на вузкай лугавіне ўпокат ляжалі тлустыя цёткі, падставіўшы сонцу свае неабдымныя жываты, і пісьменьнікі, паблукаўшы, знайшлі сабе месца пад гонкай бярэзінай, якая, аднак, амаль не давала ценю.

Пакуль Іван адкрываў салянку і адкаркоўваў пляшку, напарнік, сьпехам распрануўшыся, пабег да вады. Ганчарык любіў купацца - мог адседзець у вадзе цэлую гадзіну, Іван гэта ведаў, а таму, нюхнуўшы счарнелую салянку, устурбавана зірнуў з-пад рукі на тлумны бераг.

Калега вярнуўся хвілін праз пяць - задыханы і задаволены.

- Давай і ты... адразу палягчэе, - бадзёра гукнуў Ганчарык, казелячы вочы на кабету, што загарала непадалёку.

Іван адмахнуўся ад такой прапановы, напоўніў шклянку - у бяздоннай ганчарыкаўскай сумцы знайшліся і сьцізорык, і відэлец, і шклянка - і натхнёна пацёр далоні:

- Паехалі!

Першую пляшку адолелі моўчкі, Іван адкаркаваў другую і, упіхнуўшы ў рот жмутак асьлізлай салянкі, у сваю чаргу запытаў:

- А ты... пішаш што-небудзь?

Калега зірнуў на кабету, і тая, адчуўшы мужчынскі пагляд, зьняла з носа лісьцік трыпутніку і падабрала пукаты жывот. Ганчарык нічога не адказаў, выцягнуў з сумкі «Наша Піва», а разам зь ёю яшчэ адну газэту - «Лубянскі набат».

- Во ё... кіяскёрка не дагледзела - упёрла, - уражана мацюкнуўся весялун і залётнік, узяў «Лубянскі набат»

двума пальцамі - нібыта гэта была здохлая вужака - і кінуў Івану: - Зрабі сабе капялюш, а то галава ўгрэецца.

Іван садраў корак з трэцяй пляшкі, наваліўся плечукамі на сумку, разгарнуў газэту. Без асаблівай увагі прачытаў развагі прафэсара Кракадзілава пра натаўскіх людажэраў, потым пераключыўся на артыкул літаратуразнаўцы Лява Бердашкевіча аб крывавых оргіях, што ўчыняюцца ва ўправе ПЭН-цэнтра, потым пазяхнуў і памацаў угрэтую макаўку. «І сапраўды - трэба зрабіць які каптур», - з гэткаю думкаю Іван склаў газэту ў дзьве столкі і паскроб няголенае падбародзьдзе. Апошні раз ён займаўся такой справай гадоў трыццаць таму і адразу ня мог уцяміць - куды якія канцы загінаць. Як бы там ні было, а нейкую падабізну каптура ён усё ж такі зьляпіў і нацубіў на самыя вочы.

Не пасьпеў Іван зьмежыць павекі, як слых напоўніўся набатным звонам. Званы гулі недзе далёка, ці не за рэчкай. Неўзабаве набат стаў мацнець і ўраз рабіцца ўсё больш адрывістым і бразгатлівым. Стваралася ўражаньне, што нехта зацята біў чымсьці жалезным у падвешаную рэйку. Іван разьмежыў павекі, страсянуў галавою. Сон, здавалася, доўжыўся кароткую хвілю, а Ганчарык між тым ужо сядзеў ля кабеты, і цёплы ветрык даносіў да вушэй абрыўкі фраз:

- Што ж вы... такая элегантная... і адна?

Рука міжволі пацягнулася да пляшкі, Іван зрабіў ладны глык - ажнуль закашляўся - і зноў наваліўся на сумку. Нейкая хваравітая стома авалодала целам і Івану падалося, што ён плыве ў пругкім паветры, не даючы рады паварушыць ні рукой, ні нагой. Дзесьці зноў ударылі ў рэйку; удары сталі сыпацца ўсё часьцей і часьцей, аж пакуль не ператварыліся ў ляскат танкавых гусеніц. І вось, на тле злавеснага ляскату, прагучаў суворы і крыху надтрэснуты голас:

- Натаўскія бранятанкавыя армады ўжо гатовыя былі рынуцца на ўсход, каб расьціснуць сваімі тракамі славянскіх дзяцей і жанок, ды на іхнай дарозе грознай скалой паўстаў Абаронца Ўсіх Славянаў...

Гэта быў ня сон, а нейкае трызьненьне. Надтрэснуты голас слова ў слова паўтараў надрукаваны ў газэце артыкул, і ў Івана ад такой праявы - ён адчуў гэта - варушыліся і выпросталіся мазгавыя зьвіліны, халодным сьвербам працінаючы ўгрэты голаў. Ён паспрабаваў растуліць павекі і раптам убачыў Абаронцу Ўсіх Славянаў. Убачыў не ўсяго яго, а толькі перапэцканыя ў гліну гумовікі ды калашыньне картовых штаноў. Абаронца быў такім магутным і велічным, што, пачынаючы ад крысься балоньневай курткі, хаваўся ў шэрых аблоках. Надтрэснуты голас яшчэ сьвідраваў левае вуха, але Іван ужо нічога ня чуў. Ён зачаравана глядзеў угору, і духі яму займала ад велічы Славянскага Волата.

- Вось хто верне нам нашыя ганарары! - маліцьвенна прашаптаў Іван, і ў той жа міг цела ягонае набыло важкасьць і апусьцілася на зямлю.

- ... А гэта так званыя пэнцэнтраўцы - агенты ЦРУ і Масаду, - прагучала цяпер ужо ля правага вуха, і міма Івана з капытлівым грукатам прабегла гурба нейкіх мярзотнікаў.

Першы зь іх бег, махаючы, па прыкладу трактарыста Трыфана, крывавай сякерай, другі цягнуў на карку вялізны мех - праўдападобна, з далярамі, трэці валок на плячы шыбеніцу, а чацьверты - маленькі і лысаваты - пёр супрацьтанкавую базуку амэрыканскай вытворчасьці. Твараў Іван не разгледзеў, але першы - той, што махаў сякераю - нагадваў Ганчарыка, а апошні - маленькі і лысаваты - быў выліты Шабуня.

- Агенты ЦРУ і Масаду пусьцілі атрутным карані на нашай літаратурнай ніве. Агенты носяць славянскія імёны, але мы ведаем: у ПЭН-цэнтры, як і ў іншых антыславянскіх цэнтрах, угнязьдзіліся выключна адны жы...

- Ды-ы... - выгукнуў Іван і ачуўся.

Сонца сьляпіла вочы, у галаве шумела, і Іван напачатку ніяк ня мог даўмецца: дзе ён і што зь ім. І толькі

намацаўшы бутэльку, канчаткова пазбыўся чмуры.

Ля берага вішчэла дзятва, непадалёку покаў мячык - нейкія хлопцы гулялі ў валейбол, а Ганчарык, седзячы на кукішках, штосьці казаў кабеце, і па ягонай натхнёнай паставе можна было зразумець: калега чытаў вершы.

Дзіўнае насланьнё ўбілася ў сьвядомасьць. Івану падалося, што нехта неадрыўна глядзіць яму ў сьпіну, хтосьці сочыць за ім, і ад таго позірку душа сьцялася і балюча заныла, нібыта па ёй прайшліся наждачкай. І яшчэ адна непрыемнасьць напаткала Івана: у нетрах успушанага жывата штосьці абарвалася, пералілося з аднае кішкі ў другую і азвалася раскоцістым бурчэньнем. У жываце ўзбунтавалася салянка.

Да бліжэйшых кустоў ён бег на паўсагнутых, ірвучы на хаду газэтны каптур, і ўсьлед яму - а можа гэта толькі здавалася - пагрозьліва бухалі чыесьці цяжкія боты.

З кустоў небарака вылез праз паўгадзіны. Расьпешчаны, разьняволены, ён новымі вачыма зірнуў на сьвет, і сьвет адкрыў яму патаемную ісьціну: ва ўсім вінаватыя жыды і нацыяналісты.

Лагодная, дагэтуль нечуваная цеплыня разьлілася ніжэй сьпіны. Іван памацаў азадак і толькі тады зразумеў, што гэтае цяпло спарадзіла бацькоўская турбота аб ім Абаронцы Ўсіх Славянаў.

Цяпло рабілася ўсё больш адчувальным. Яшчэ хвіліна - і кезаўку прыпякло так, нібыта ў яе ўпіхнулі распалены літавальнік. Іван брыкліва падскочыў і, ратуючыся ад гарачай турботы, пабег да вады. Па дарозе ён зьбіў з ног дзіцёнка, наступіў на голаў той самай кабеце, якой Ганчарык прагнай пяцярнёй рабіў масаж сьцёгнаў і, зьняўшы штаны разам з трусамі, з усяго маху плюхнуўся ў раку.

Тым часам у цёмна-зялёным «мэрсе», што стаяў непадалёку, апусьцілі бакавое шкло, і ў прыцемнай пройме бліснулі шкельцы бінокля.

- Што гэта зь ім? - незадаволена выдыхнуў вастраносы тыпус, мацаючы ліловы шнар на левай шчацэ.

Другі тыпус, які сядзеў ззаду, таксама зірнуў у бінокаль, сплюнуў на пясок агідную жуйку і яшчэ больш незадаволена працадзіў:

- The paper contains under forty per cent cayenne.*

** Папера ўтрымлівае да сарака адсоткаў чырвонага каенскага перцу (анг.).*

**Эпілёг**

Праз два дні Іван прынёс у рэдакцыю «Лубянскага набату» вялікі артыкул аб жыда-масонах, што атабарыліся ў Саюзе пісьменьнікаў. Рэдактар - сівагаловы мужчына са значком Дзяржынскага на штрыфлі пакамечанага пінжака - прабег вачыма дробна сьпісаныя старонкі, ухвальна кіўнуў і параіў напоўніць зьмест канкрэтнымі фактамі. Рэдактар выцягнуў з сэйфа тэчку з апэратыўнымі матэрыяламі на сябра СП Ганчарыка, паклаў перад Іванам і, натхняючы на плённую працу, ляпнуў па сьпіне.

Наступны артыкул Іван прысьвяціў драматургу Шабуню, які, як высьветлілася, плёў ня толькі кашы, але й інтрыгі супроць Абаронцы Ўсіх Славянаў. Потым былі артыкулы пра паэта Мінковіча і эсэіста Анкуду, потым, па рэдакцыйнай замове, Іван напісаў выкрывальніцкі аповед пра вядомую варагіню славянства Валерыю Старадворскую, за які атрымаў прэмію Ўсясьветнага Славянскага Камітэту «Чыгунны Віцязь».

Вяртаючыся з чыгунным віцязем дахаты, Іван увесь час азіраўся. Яму здавалася, што варагіня славянства ідзе за ім сьледам, а калі ўбіўся ў творчую лябараторыю, дык убачыў у вакне тую самую Старадворскую. Агентка ЦРУ і Масаду сядзела на бальконных парэнчах і з нахабным выглядам паліла папяросу. Іван здрыгануўся, шпурнуў у вакно чыгуннага балвана і зь лямантам,

дарэшты заглушаным звонам разьбітага шкла, выбег на вуліцу...

Увечары таго дня небараку бачылі на ганку Галоўнай Адміністрацыі: ён біўся з ахоўнікамі, спрабуючы прайсьці ў будынак. Па сьведчаньні відавочцаў, неўзабаве Іван быў дастаўлены спачатку ў спэцразьмеркавальнік на Ахрысьціна, потым у прыймовы пакой Старынкаўскай бальніцы, нарэшце, ва ўтульны габінэт лейтэнанта Надгайнага. Там яму былі зроблены ін'екцыя трыяксазыну і цікавая прапанова: ачоліць Аргкамітэт па стварэньні Саюза Патрыятычных Славянскіх пісьменьнікаў, які павінен згуртаваць у сваіх шыхтах усе здаровыя пісьменьніцкія сілы. Падумаўшы хвіліну, Іван змахнуў са шчакі няпрошаную сьлязіну, пацалаваў камсамольскі значок на лейтэнантавым мундуры і моўчкі кіўнуў галавой на знак згоды.

## Дарога ў дваццаць крокаў

### I

- Месца - дакладна тое? - крыкнуў Мікола, выціраючы чупрыну калашыньнем спартовых штаноў.

- Тое, - адгукнуўся дзед Трахім, - якраз насупраць камня. Тады ён на паверхні быў, а цяпер во... у зямлю ўехаў, - дзед прысеў на камень, выцягнуў пачак «беламору».

- Можа далей адплывем? - падаў голас Гасюта, зірнуў на дзеда і той, чыркнуўшы запалкай, страсянуў галавой: - Самазвал на паўкола ў ваду ўехаў, як скідваў. Так што - шукайце. Дзесьці там і ляжыць.

Мікола памыляў сьсінелымі ад холаду вуснамі, зморана ўздыхнуў і, пастаяўшы, як той скакун на вышцы, на носе лодкі, сігануў у ваду. Гэтым разам ён прабыў пад вадой як ніколі доўга: Гасюта нават сьцягнуў з галавы кашулю, зьбіраючыся ратаваць сябра, ды тут Мікола

вылецеў, па самы пояс, з вады і з панікай у голасе выдыхнуў:

- Ёсьць!

Пару хвілінаў Мікола аддзімаўся, трымаючыся за вясло, потым насунуў на плячук зашмаргу, нырцануў пад лодку і з такой рашучасцю адштурхнуўся нагамі ад днішча, што Гасюта, які стаяў у поўны рост і разблытваў вяроўку, ледзь не кульнуўся за борт.

Першыя, а таму самыя гострыя сонечныя промні працялі небасхіл і рака з серабрыстай ператварылася ў ружовую.

- Глеем зацягнула... ледзь адшукаў, - прамармытаў Мікола, выбраўшыся на бераг: небараку даймалі дрыжыкі, ён увесь сьсінеў, зуб паганяў зуба і Гасюта, перш, чым пачапіць да трактара канец вяроўкі, палез у кабінку, выцягнуў адтуль пачатую пляшку.

Мальцы глынулі на поўную губу, працягнулі пляшку дзеду Трахіму, але дзед піць адмовіўся.

Праз пару хвілін гасютавы «беларус» залескатаў на высокіх абаротах, вяроўка напялася і струной засьпявала ў паветры. Дагэтуль дзед Трахім паглядаў на сьвет зь лёгкай ўсьмешкаю, а ўгледзеўшы напятую вяроўку, ураз пасур'ёзьнеў, прыхапіўся на ногі і застыў, з прыгаслай папяроскай у зубах.

Трактар натужліва завуркатаў, зямля здрыганулася і з вады ўзьнялося штосьці зялёнае і круглявае. Напачатку цяжка было ўгледзець у бясформеннай камлызе чалавечыя відарысы і толькі калі камлыга прапаўзла па пясочку, а затым успарола берагавы дзірван, пакінуўшы на ім пасму зялёнай твані, сталі праглядацца няўклюдная галава і шырокая грудзіна.

- Няквола бюсьцік... чатыры тоны пацягне! - выдыхнуў Мікола, з натхненьнем выкручваючы свае шырозныя, у «сэканд-хэндзе» куплёныя трусы.

Сябрук у адказ задаволена крэкнуў, перакінуў з рукі на

руку пакарабачаную манціроўку і міжволі прыпыніў крок, рахуючы - колькі «зялёных» ім адваляць за бронзавага балвана.

Манціроўка ляснула тупым канцом па балвану і гук ад удару атрымаўся глухім і няўцямным.

- Цэмэнт, - прамовіў дзед Трахім, а ўнук, пасьпеўшы нацягнуць трусы толькі на левую кумпячыну, перахапіў манціроўку і з амонаўскім натхненьнем стукнуў балвана па няўклюднай галаве.

- Цэмэнт, - уголас прашапталі хлопцы і разам паглядзелі на дзеда.

- Ну што, дзядуля... дзе твая бронза? - голас Міколавы дрыжэў, як авечы хвост, - папёрліся... зь цёмнага рана... по-омнік... бро-онзавы... - унук мацюкнуўся, падцягнуў трусы і рушыў да «беларуса» - дапіваць рэшткі гарэлкі.

Добрых поўгадзіны хлопцы моўчкі ляжалі на траве, смалілі цыгарэты, нарэшце, Гасюта падняўся на ногі і, кіўнуўшы ў бок камлыгі, запытаў:

- Дык што, адвязваем?

- Ды не-е... - прыспана прамовіў Мікола, - цягні да дзедавай хаты. Будзе ведаць, як народу мазгі дурыць.

- Ты што, ашалеў? Навошта мне гэтая халера! - крыкнуў дзед Трахім, але Гасюта тым часам ужо залез у кабінку, паддаў газу і цэмэнтавая гаргара, пакідаючы па сабе глыбокую баразну, папаўзла па беразе.

Унук Мікола ўжо трэці тыдзень гасьцяваў у дзедавай хаце. Адранку глушыў рыбу на рачных затоках, удзень непрабудна спаў, а ўвечары хадзіў у мясцовы клюб, альбо піў гарэлку на пару зь дзедавым суседам - трыццацігадовым мэханізатарам Гасютам. Вось і пазаўчора, узяўшы пляшку, унук выправіўся да суседа, але неўзабаве вярнуўся, цягнучы на плячы двухвядзёрны, зьзелянелы ад часу самавар.

- У Гасюты, на гарышчы знайшлі, - патлумачыў унук, а

калі дзед з усьмешкай спытаў - навошта ён прыпёр гэтае ламачча? - безнадзейна махнуў рукой і падаўся з хаты.

Наступным ранкам Мікола спаў даўжэй звычайнага, а прачнуўшыся, працягнуў няскончаную размову.

- Гэта, дзеду, не ламачча, а каляровы мэтал. Мне за яго пяць тваіх пэнсіяў дадуць, - унук спружна пацягнуўся, вохнуў і пачухаў абедзьвума рукамі свае пакусаныя камарамі і парэпаныя аб рачныя карчажыны ногі.

Словы такія пакрыўдзілі дзеда.

- Мне маёй пэнсіі хапае. І табе даю... на пляшку, - буркнуў стары, пайшоў да дзьвярэй, і ўжо з парогу дадаў: - Тут, непадалёку, гэтага мэталу цэлая тона ляжыць.

Сказаў гэта дзед не падумаўшы, а калі падумаў, унук ужо стаяў на ганку і дапытліва чухаў голае чэрава.

- Ты што, сапраўды ведаеш, дзе медзь прыхавана?

Стары дастаў «беламорыну», скамечыў яе ў гармонік, потым выцягнуў запалкі і ўнук, перарахапіўшы карабок, паднёс запаленую сярнічку да дзедавага носу.

- У рацэ ляжыць, - выдыхнуў, разам з папяросным дымам, дзед Трахім, прысеў на край ганку і, пасьля глыбокай зацяжкі, ад якой нават пацямнела ўваччу, распавёў унуку гісторыю саракагадовай даўніны.

... Аднойчы, золкай восеньскай ноччу, Трахім пайшоў на раку ставіць донкі, і нечакана з прырэчных кустоў насустрач яму выйшаў міліцыянт у плашч-накідцы. Зыркнуўшы з-пад насунутага на вочы капюшону, міліцыянт загадаў тэрмінова пакінуць бераг, бо тут мусяць адбыцца вайсковыя вучэньні.

«Ці не пантонны мост наводзяць?»- падумаў Трахім, адышоў мэтраў на дзьвесьце і залёг за купінай - вырашыў паглядзець, як там усё будзе. Ляжаў доўга, скалеў увесь, хацеў быў ужо да хаты падацца, ды тут на

бераг - з натужлівым выцьцём - выехаў самазвал і, даўшы задам, заехаў у ваду. Месца, куды заехаў самазвал, было адметным: там, непадалёку ад берага, круціў хлапякі белай пены глыбокі вір - у віры, адразу па вайне, знайшлі тапельца, а таму тутэйшыя рыбакі ніколі не закідвалі там вуды.

У цемры пачуліся галасы, мільгнулі жарынкі цыгарак, самазвал загуў - цяпер ужо із страшнай натугай - і ў вір, узьняўшы нябачныя пырскі, бухнулася штосьці цёмнае і важкае.

Раніцою, як толькі разьвіднела, Трахім пабег на раку і нагнаў па дарозе Сяргейчыка - аднаногага інваліда, які таксама быў зацятым рыбаком і хата якога стаяла на другім баку вуліцы.

- Чуў? - стоена вымавіў Сяргейчык, калі яны парукаліся.

Трахім таргануў галавой і сусед, секануўшы паветра бамбукавым вудзільнам, прамармытаў:

- Сталіна скінулі.

- Як скінулі? Куды? - гукнуў было Трахім, прыцішыў крок, а пачуўшы пра бюст, што стаяў у парку, шпарка пайшоў, прыладжваючы крок да мернага рыпеньня салавейчыкавага пратэзу...

- І што... сапраўды з бронзы? - запытаўся ўнук, не даслухаўшы дзедавага аповеду.

- Ну так... жоўты такі стаяў, - дзед павёў рукамі, малюючы ў паветры відарыс сталінскага бюсту і Мікола чародным разам пачухаў ніз жывата.

- Гіпс, відаць... Пафарбавалі пад бронзу.

- Ды не-э... Гіпс бы ў вадзе разваліўся, а ён цалюткі, - Трахім вытрымаў паўзу і з разважнасьцю патлумачыў: - У семдзесят другім годзе, як рака абмялела, макаўка паказалася. Мальцы яшчэ там нырца давалі...

Стары ўздыхнуў, пацёр даланямі санлівыя вочы, а калі

зноў зірнуў на сьвет, унук ужо бег са двара і на пытаньне: - Куды ты паляцеў? - коротка азваўся: - Да Гасюты!

**II**

Зялёная ад твані, спрэс залепленая куклянкамі камлыга не пасьпела як сьлед прасохнуць, як на яе ўзьбіўся гурт мясцовых падшыванцаў. Падшыванцы пры гэтым бязладна гарлалі, сьпіхвалі адно другога з бэтоннай камлыжыны, а неўзабаве й пачалі стукаць па ёй нечым жалезным.

- Во йоп... - вылаяўся Мікола, пачуўшы скрозь ранішні сон мэталёвае бразганьне. Сёрбнуўшы на хаду збружэлага квасу, ён выйшаў да весьніц.

- А ну, салагі, прэч адсюль! - пагрозьліва гукнуў Мікола, але голас пасьля купаньня дарэшты асіп і падшыванцы працягвалі валтузіцца на помніку.

- Каму сказаў... - Мікола выдзер з паркану збуцьвелую штыкеціну і гэта дапамагло: дзятва сыпанула ўбокі, але далёка не адбегла.

- А гэта што - помнік? - запытаўся адзін з падшыванцаў - малец грыз нясьпелы яблык і пры гэтым гучна чвякаў.

- Помнік... помнік, йоп вашу... - буркнуў Мікола, перакрывіўся і сплюнуў пракіслую сьліну.

Пасьля недасыпу і выпітай гарэлкі галава Міколава балела, настрой быў паганы, а таму зь языка зьляталі мацюгі і глытку вярэдзілі глухія ўздыхі. Аднак, абышоўшы помнік, Мікола пажвавеў і, маракуючы пра штосьці сваё, павадзіў рукамі ў паветры, нібыта ён - у думках - укараноўваў сьнежную бабу важкай галавою.

- Ну і што ты будзеш рабіць з гэтай халерай? - гукнуў, перабіваючы думкі, дзед Трахім: дзед стаяў ля весьніц і пыхкаў беламорынай.

- Як што? Адрэстаўруем. Выставім на продаж, - унук

выцяў бэтоннага балвана мыском чаравіка. - Думаю, пару тысячаў баксаў возьмем.

- Эгэ-э, Міколка... Каму ён трэба? - стары папярхнуўся дымам, здушана закашляў. - Вунь і нос адбіты... і ў дзірах увесь...

- Кавэрны замажам, нос прылепім... пафарбуем. Карацей, будзе правадыр як навюткі... Ты вось што, дзеду... - унук азірнуўся, увабраў голаў у плечы, - трэба хлопцам... з пільні... пару пляшак паставіць... Пазыч да вечару... Гасюта прыедзе - аддасьць.

Стары нічога не сказаў і толькі зварухнуў пальцамі, рахуючы - колькі яшчэ дзён унук прабудзе на пагасьцінах.

Па абедзе Трахім прылёг на тапчан, адразу ж заснуў і неўзабаве быў абуджаны лескатаньнем гасютавага трактару. Трактар ехаў па вуліцы і ззаду за ім, уздымаючы пылюку, валачылася на тросе таўшчэзная калода.

- Божухна, і калі гэта ўсё скончыцца? - прашаптаў стары і з вохканьнем выйшаў на ганак.

Ля Трахімавай хаты тым часам ужо зьбіраўся народ.

- Чаго вылупіліся? - гыркаў Гасюта на цётак, што йшлі ў краму, ды спыніліся паглядзець - што мальцы будуць рабіць з цурбаном ды бэтоннай камлыгай. Цёткі паправілі хусткі на галовах, стоена зашапталіся, а Гасюта падхапіў з-пад плоту даўгую жардзіну, загнаў тонкі канец пад цурбан і яны ўдвох зь Міколам пакацілі яловы кругляк да весьніц. Усё было б ніштo, ды надарылася неспадзеўка: жардзіна з трэскам абламілася, стукнула Міколу па карку, і кампаньён, пачуўшы сьмех грамады, са злосьцю выдыхнуў:

- Г'анд-доны...

Працаваць у атачэньні натоўпу не выпадала, а таму, падкаціўшы калоду да весьніц, Гасюта ababіў перапэцканыя ў яловую жывіцу рукі і голасна, каб чула

грамада, абвясьціў:

- На сёньня ўсё!

«І тузанулі ж мяне за язык, - падумаў Трахім, правёўшы даланёй па няголеным падбародзьдзі, - ляжаў бы сабе на дне, пакуль не рассыпаўся, дык не... выцягнулі нячысьціка...» - стары ўздыхнуў, падаўся ў хату і сьледам за ім, заглушыўшы трактар і абмацюкаўшы грамаду, рушылі Мікола з Гасютам.

- Ну што за людзі! Паўгорада зьбеглася, нібыта яны калоды ня бачылі... - ад парога гукнуў зьнерваваны ўнук, а дзед, пазяхнуўшы ў далонь, лёг на тапчан і змучана аддзьмуўся.

На кухні рыпнула падлога і Гасюта - з воклічам «Обана!» - грукнуў аб стол чымсьці цьвярдым і булькатлівым.

- Вось гэта лоўка! - акрыялым голасам азваўся Мікола.

- Хопіць ім і адной... Летась пілавіньне грузіў - ніхера не паставілі... - растлумачыў Гасюта, а Мікола ўдарыў у ладкі і кінуўся ў прысенак, дзе стаяла газавая пліта.

- Зараз, бляха, яечню згламэздаем.

Пакуль Мікола завіхаўся з патэльняй, Гасюта, падобна, адкаркоўваў пляшку, потым бразнуў шклянкамі і нягучна прамовіў:

- Увечары яму выкапаеш... Сантымэтраў на семдзесят, глыбей ня трэба. Заўтра ад ранку калоду паставім, а ў абед Сівоха кран падгоніць.

У шклянцы - стоена, але разам з тым упэўнена - зацурчэла гарэлка і пад тыя чароўныя гукі Трахім заплюшчыў павекі.

На наступны дзень, ад самага ранку, ва ўтульнай Трахімавай хаце грукалі дзьверы, бразгалі шклянкі і лілася п'яная гамонка. Першымі завіталі два хлопцы з пілармы і Мікола бегаў да мясцовых цыганаў па

самагонку. Бліжэй да абеду ў хату ўваліліся Гасюта з вадзілам аўтакрану, усе разам дапілі цыганскі трунак і, трымаючы пад пахі аднаго з пільшчыкаў, пайшлі ўздымаць правадыра на «п'едэстал».

Дзед Трахім зроду не хрысьціўся, а тут, пабачыўшы, як п'яны ўнук убіўся пад бэтонную камлыгу, што завісла, як той вісельнік, у паветры, тыцнуў самлелымі пальцамі ў лоб, жывот і ў левае плячо. Схоплены за шыю сталёвай зашмаргай, правадыр крутнуўся спачатку ў адзін бок, потым у другі, нарэшце спыніўся, Мікола абхапіў правадыра цыбатымі рукамі і той паволі асунуўся на калоду.

Хвілін празь дзесяць, пабачыўшы ў дзьвярох унука - цэлага і жывога - стары яшчэ раз перахрысьціўся і, без шкадаваньня, аддаў Міколу сто тысяч адной паперкай - апошнія грошы, якія былі ў хаце.

Вечарам у хату завітаў яшчэ адзін госьць - Данік Крываблоцкі. Данік той, немалады ўжо, сівагаловы мужчына, працаваў у цэху шырспажыву. Вырабляў помнікі з мармуровай крошкі, ляпіў барэльефы памерлых адстаўнікоў і, вядома ж, убачыўшы бюст з адбітым носам, тут жа зайшоў у хату, каб прапанаваць свае паслугі.

... За вокнамі ўжо сьвятлела, а на кухні ўсё яшчэ гаманілі і здушана мацюкаліся.

- Калян... ты хоць ведаеш... з кім маеш справу? - п'яным голасам пытаўся Данік Крываблоцкі і, пасьля страшэнна працяглай паўзы, адказваў: - Ты маеш справу з прафэсійным скульптарам.

Калян доўга і неразборліва мыкаў, потым чхнуў - ды так хвацка, што абудзіў Гасюту; Гасюта ў сваю чаргу таксама мыкнуў, але тут жа суняўся й на кухні чарговым разам бразнулі шклянкі.

- У Гасюты.. і галава не трымаецца... на стол падае, - прабубнеў Крываблоцкі і ўжо ўцямным голасам працягваў: - Карабейнікаву помнік бачыў?.. За дзень

зьляпіў... Зяць карабейнікавы прыехаў, паглядзеў - даў стольнік і яшчэ пяць «зялёных» наверх... Кажа: - Кідай усё, прыяжджай да нас у Піцер - табе цаны ня будзе... - на кухні зацурчэла гарэлка і Мікола, расьцягваючы зыкі, прасіпеў: - А но-ос?

- Алебастравы прыляплю... Будзе лепей, чым твой... - выгукнуў Крываблоцкі, хлопцы чокнуліся і ў гэты момант штосьці масыўнае і важкае абрынулася на падлогу.

Дзед Трахім адсунуў фіранку. На падлозе, нязграбна раскінуўшы рукі, ляжаў упіты Гасюта.

- Каб вас парвала ад той гарэлкі, - азваўся стары і з вохканьнем кульнуўся на левую бачыну.

Пад самую раніцу хата напоўнілася нялюдзкім храпам. На кухні, падклаўшы пад галаў палена, хроп Гасюта, а ў сьвятліцы дзерлі тхара Мікола з Крываблоцкім. Данік зь Міколам спалі ніжнікам, пры гэтым унук часьцяком падбрыкваў правай нагой, біў Крываблоцкаму пяткай у лабешнік; скульптар на кароткі міг аціхаў, мыляў вуснамі і пачынаў храпці зь яшчэ большым натхненьнем. І вось, калі Данік схрапянуў ужо зусім ашалела, і дзед Трахім панурыў руку пад тапчан, шукаючы - чым запусьціць у храпуна, на падворку пачуліся крокі і нехта дробна пастукаў у шыбу.

- Ці ў вас мая п'янтосіна? - крыкнула гасютава жонка і ад таго крыку забрахаў суседзкі сабака, а Данік з унукам пакінулі храпці і зморана застагналі.

Падняла мужа Гасюціха даволі хутка: плюснула зь вядра халоднай вады, а потым, мацюкнуўшыся, агрэла небараку паленам. Удар атрымаўся глухім, але хвацкім. Дзед Трахім, лежачы за фіранкай, уражана залыпаў вачыма, а Данік зь Міколам сталі дых і з жаласьлівым гукам выпусьцілі паветра.

Гасючысіны праклёны заціхлі на другім канцы вуліцы, навакольныя сабакі збрахаліся да сіпу, залезьлі ў будкі, і змучаную дзедаву душу падхапіў і панёс па сваіх

цёмных лябірынтах доўгачаканы, а таму чуйны і замарачны сон.

Прысьніліся дзеду паховіны Сталіна. Спачатку ў сьвядомасьці нарадзіліся зыкі: гуд золкага ветру ў разьбітых вокнах дэпо, ляскаsuccеньне жалобных сьцягоў над галавою, галасісты, з засопленым прыдыханьнем, плач дырэктаравай жонкі. Трахім страсянуў ува сьне галавою і тут жа ўбачыў стрыжаныя патыліцы, чорную зеўру гучнагаварыльніка і заплаканую начальніцкую жонку.

- Міканор... як жа мы цяпер... безь яго?.. - здушана галасіла кабеціна, уткнуўшыся лобам у пагон мужавага шыняля.

- Капа, нам усім цяжка... - мармытаў начальнік дэпо, неадрыўна пазіраючы ўгору - туды, дзе завіхаліся ўвішныя вераб'і і дзе вісеў бляшаны рупар гучнагаварыльніка.

Трахім аглядзеў краем вока натоўп і зьнерухомеў ад нечаканасьці. Праваруч, у атачэньні паравозьнікаў, стаялі Мікола з Гасютам. Абое былі на ладным падпітку, абое смалілі папяросы і задаволена пасьміхаліся, падставіўшы золкаму ветру свае - Мікола малочна-белыя, а Гасюта пракурана-пажоўклыя - зубы.

«Божухна, заберуць!»- мільганула падспудная думка і ў гэты момант бляшаны рупар крактануў, вераб'і разам узьняліся ў паветра і навакольле напоўніў хрыпучы левітанаўскі голас:

- Пайшоў з жыцьця прадаўжальнік вялікай справы Леніна, друг і настаўнік працоўных усяго сьвету... - Левітан зрабіў паўзу, за сьпінай - раней часу - загуў ды асекся паравозны гудок і чыйсьці знаёмы голас пакутліва выдыхнуў: - Фу, бляць, як цяжка...

Стары разьмежыў павекі. Уваччу паплыла, а потым замёрла на месцы квяцістая фіранка.

- Ой, бляць, як цяжка! - застагнаў Данік Крываблоцкі і Трахім адхінуў фіранку.

Гадзіньнік на кухні паказваў палову дзесятай.

- Паміраю... сэрца спыняецца... - чародным разам выдыхнуў Данік і з вохканьнем скінуў на падлогу нягнуткія ногі.

Сэрца ў Крываблоцкага, відаць, і сапраўды спынялася, бо Данік быў белым як палатно, а ніжняя сківіца безупынку калацілася.

«Каб не памёр, халера на яго», - падумаў стары і, апанаваны трывожнымі думкамі, палез пад тапчан, дзе яшчэ з пазалеташніх Калядаў была прыхаваная пляшка «чарніла».

... Данік піў «Водар мяты» нагбом, з рыльца, а выпіўшы поўбутэлькі задаволена адрыгнуў і гукнуў праз плячук:
- Гасюта!

- Сышоў... яшчэ зранку, - гукнуў дзед Трахім і, сьцішыўшы голас, дадаў: - П'юць, пакуль на падлогу ня зваляцца.

## III

Дзесьці праз гадзіну, а мо й раней Данік ізноў уваліўся ў хату.

- Дай... - неакрэсьлена выдыхнуў госьць, зь нецярплівасьцю страсянуўшы рукамі.

- Чаго табе даць? - не зразумеў Трахім.

- Ну гэты, як яго?.. - Краваблоцкі скрывіў гімору, крутнуў пальцамі - гэткім рухам звычайна ўкручваюць лямпачкі - і з шумам увабраў паветра, згадваючы - як называецца тое, што яму трэба. - Ну гэты... во, - госьць тыцнуў пальцам у кут і дзед Трахім уражана крутнуў галавою.

- Табурэт табе трэба, ці што?

- А во-во... табурэт, - прасьвятлеў з твару Крываблоцкі.

Данік падхапіў табурэтку, зірнуў на Міколу, які й дагэтуль ляжаў на канапе, пакутуючы з пахмельля, і выкуліўся з хаты.

- Зусім мазгі прапіў, - уздыхнуў стары. Ня ведаючы - чым заняць рукі, Трахім спачатку схапіўся за венік, потым запіхнуў у торбу пустыя бутэлькі, нарэшце, адчыніў вакно і ўпусьціў у пракураную хату сьвежае паветра.

На двары з ашалелай зацятасьцю цвыркалі вераб'і, на суседняй вуліцы гарлалі пеўні, непадалёку ляскатаў трактар - няйначай, гасютавы, - і да ўсіх тых суладных зыкаў далучалася звонкае і разам з тым непрыемнае шаргаценьне. Гэта Данік, узьбіўшыся на табурэт, раскеўзваў кельняй па камлызе нейкую шэрую гліну.

«І што з усяго гэтага будзе?»- падумаў Трахім, вынес у сенцы торбу з бутэлькамі, а калі ізноў зірнуў у вакно, дык убачыў нейкага дарэшты апухлага мальца, які стаяў за Данікавай сьпінай і паціраў даланёю пляшывую макаўку.

- Хто гэта цябе так? - запытаўся Крываблоцкі і стары пазнаў у апухлым мальцы свайго суседа Гасюту.

- Ваўчыца... хто ж яшчэ... - Гасюта ўздыхнуў, зацкавана паглядзеў на камлыгу: - Алебастрам мажаш, ці як?

- Алебастрам, - незадаволена выгукнуў Крываблоцкі, а замазаўшы чарговую дзірку, прамармытаў: - Ідзі... пакінулі там табе... на апахмелку.

Стары адышоў ад вакна, пазяхнуў наастачу і падаўся на тапчан.

- Калян! Ты там жывы? - грымнуў праз пару хвілін сіпаты гасютавы голас, але стары не пачуў тых слоў - Трахім салодка спаў і квяцістая фіранка ледзь прыкметна варушылася ў такт ягонаму дыханьню.

У суботу дзед Трахім напаліў лазьню. Мыўся цэлых дзьве гадзіны, да змору схвастаў сябе дубовым венікам і, відаць, схвастаў бы да сьмерці, калі б у прымыльніку

не загрукацеў вёдрамі ўнук Мікола.

- Увесь дух выпусьціў, - крыкнуў унук, расчыніўшы дзьверы, шухнуў вады на камні і тут жа, сеўшы на палок, стаў шараваць кавалкам пемзы свае перапэцканыя белай хварбай далоні.

... З лазьні дзед выкуліўся на ватных нагах і, перш чым ісьці да хаты, доўга зьбіраўся зь сіламі, трымаючыся за дзьвярны вушак. Сэрца парывіста тахкала, слых поўніўся звонам, а ў нос лез нейкі незнаёмы пах, які нагадваў водар чаромхі. Ён, гэты пах, хаця й ня быў ачомна-рэзкім, але вярнуў да жыцьця. Трахім удыхнуў праз нос п'янкога паветра і ў той жа міг галава прасьвятлела, звон увушшу суціх і зьнямелыя ногі наліліся гарачай крывёю.

Пакуль ішоў гародам, увесь час маракаваў: чым гэта пахне? - і ўжо ля самай хаты, згадаўшы перапэцканыя Міколавы рукі, задыхана прашаптаў: - Хварбай засьмярдзела.

Толькі што сэрца хваравіта замірала і гатовае было спыніцца, а тут ёкнула і спужанай птушкай забілася ў грудзіне. Стары ўбачыў СТАЛІНА!

У першае імгненьне нават здалося, што правадыр жывы - стаіць, бялюсенькі, краем вока зазіраючы ў ягоны, Трахімавы, агарод. Трахім і так быў мокры пасьля лазьні, а тут нават уваччу засьвярбела ад поту. Стары падхапіў дрыжачай рукой прыпол кашулі, хацеў выцерці твар, ды пачуў раптам ломкі хлапечы голас:

- Дзядуля, а хто гэта такі?

Падшыванцы, як заўсёды, сядзелі на плоце і хрумкалі недасьпелыя яблыкі.

- Гэта, мальцы, Сталін! - крэкнуў Трахім, выціраючы мокры лоб.

- А хто ён такі? - падаў голас усё той жа сьветлавалосы малец.

Трахім уважліва паглядзеў на падшыванца: ці не пасьмейваецца пракуда над старым чалавекам. Але вочы хлапечыя сьвяціліся непадкупнай цікавасьцю і стары кашлянуў у далонь.

- Ну, гэта... - сказаўшы так, Трахім задумаўся, засяроджана пачухаў кадык: - Ну, карацей, яго ўсе баяліся. Пры ім парадак быў - о-го-го! У нас у дэпо адзін на працу спазьніўся, дык два гады далі... з правам перапіскі.

- А вы, дзядуля, таксама Сталіна баяліся?

- Анягож... і я баяўся.

- А ён кім быў? Тэрмінатарам? - русявы падшыванец з такой асалодай куснуў яблык, што нават сок пацёк па падбародзьдзі.

- Цябе як завуць? - запытаўся Трахім, неадрыўна казелячы вокам то на падшыванца, то на бацьку-Сталіна.

- Пецькам, - адказаў падшыванец і зь невядомай прычыны пакутліва ўздыхнуў.

«І чым толькі ў іх галовы забітыя?» - падумаў дзед Трахім, патупаў да хаты і, пакуль дайшоў да крыльца, тры разы азірнуўся, каб паглядзець на правадыра.

Увесь вечар ля бюсту тоўпіліся людзі.

«Як жывы, як жывы...»- наўзахваткі шапталі старыя цёткі і ўнук Мікола, слухаючы праз адчыненае вакно людзкую гаману, задаволена паціраў рукі і раз-пораз гукаў:

- Чуеш, дзеду?! Здаю бюст за пяць тысяч баксаў! І ні цэнта меней...

- Эгэ-э... Міколка... Каму ён патрэбны? - абзываўся з тапчана стары Трахім, - у людзей грошаў на хлеб не хапае, а яны табе будуць нейкія бюсты купляць.

- Гэта ў цябе не хапае, а ў «крутых» грошаў як гразі... - Мікола ўкінуў у рот цыгарэціну, пстрыкнуў запальнічкай і нападворку хтосьці зусім па-дурному загарлаў:

Сталин наша слава боевая-а...

Сталин нашей юности полё-от...

Трахім падхапіўся зь ляжанкі, на дзіва борзда падбег да вакна і незадаволена вылаяўся: на падворку, узяўшы пад руку Юстына Капітонавіча Дуба - былога ваенкома - стаяла і гарлала на ўсе застаўкі Аўгіньня Міканораўна Кароткая - актывістка раённага савету вэтэранаў вайны.

- Прынес нячысьцік, - буркнуў Трахім і, прычакаўшы, калі Аўгіньня прасьпявае апошні радок: - Наш народ за Сталиным идио-от! - зачыніў вакно адразу на дзьве просвы.

Аўгіньня Кароткая падчас вайны мыла штаны партызанскаму камандзіру, а цяпер, начапіўшы мэдальку, цягалася па горадзе і, сустрэўшы Трахіма, кожны раз апавядала - як яны адбіваліся ад карнікаў, як яе ледзь не забіла асколкам гранаты, а ўздыхнуўшы абавязкова прамаўляла: - Вам хоць добра было, вы ў тыле сядзелі.

- Пасядзела б ты, корга лупатая, у тыле... пад нямецкімі бомбамі, - суцішна казаў усьлед актывістцы Трахім і доўга потым хадзіў не ў гуморы.

... Дзьве галавы - сівая ваенкамаўская ды чарнявая Аўгіньніна - праплылі міма вокнаў і Трахім, пятым разам згадаўшы нячысьціка, патупаў да дзьвярэй.

Ён сустрэў гасьцей на ганку. Выставіў чэрава, абапёрся рукой на вушак і тым самым даў зразумець, што ў хату нікога не запрашае.

- Ну, Трафім Пятровіч, ня ведаю - як цябе і дзячыць! - прамовіў былы ваенком, ціснучы Трахімаву руку. - Гэта, скажу табе, вялікі патрыятычны ўчынак.

- Я нават прасьлязілася, як Іосіфа Вісарыёнавіча пабачыла, - уставіла слова Аўгіньня Кароткая, плаксіва шморгнула носам і палезла ў кішэнь па насоўку.

- Сёньня ж патэлефаную ў цэка партыі і пашлю ліста Генадзю Андрэевічу Зюганаву. Пра такую падзею павінен ведаць увесь сьвет, - Юстын Капітонавіч кашлянуў у жменю, крыху суцішыў голас. - Вось толькі месца для помніка няўдалае. Трэба яго ў цэнтар перанесьці - туды, дзе стаяў...

- Каб дзятва нос адбіла? - весела крыкнуў з кухні Мікола.

Юстына Капітонавіча такая заўвага прыкметна азадачыла. Ён ускудлаціў сівыя валасы на патыліцы, з разважнасьцю ў голасе прамармытаў: - У Савеце паставім. А там пабачым.

- Мы, як яго выцягвалі, дзесяць літраў саляркі спалілі, дзьве бляшанкі нітрафарбы скарысталі і скульптару за працу трыццаць даляраў заплацілі. Так што задарма не аддадзім, - крыкнуў Мікола, і госьць, выцягнуўшы шыю, запытаўся: - Дык колькі вы хочаце?

- Дзьве скрыні гарэлкі! - гракнуў Мікола.

Госьць пасьля такіх слоў нават хітнуўся - задужа высокай паказалася цана. Цётка Аўгіньня падхапіла яго пад руку, павяла да весьніц і на разьвітаньне гукнула праз плячо:

- Мы ў Савеце падумаем.

- Падумайце... добра падумайце... - прасіпеў усьлед гасьцям Трахім і з грукатам - аж парахня пасыпалася са столі - зачыніў дзьверы.

- Дык што ж ты... То пяць тысяч хацеў, то на дзьве скрыні пагадзіўся, - прамовіў Трахім, забіраючыся на тапчан.

- Ды пажартаваў я... - адказаў унук, стамлёна зяхнуўшы ў далонь, - у гэтых сталінскіх пацукоў грошаў і на

скрыню ня знойдзецца.

Мікола пстрыкнуў выключальнікам і потым доўга мармытаў у цемры, услых прыкідваючы - колькі «бабак» застанецца ў яго, колькі ў Гасюты, і колькі давядзецца «кінуць» дзеду.

**IV**

Наступнага дня, ад самай раніцы, пачаў сеяць дакучлівы дождж. Трахім, запаліўшы ў печы, салодка пазяхнуў, зь ціхай радасьцю падумаў, што гасьцей такім часам ня будзе і тут жа ўгледзеў, як у мокрым вакне мільгануў пакамечаны капялюш. Яшчэ празь імгненьне ў прысенку грымотна затупалі і на парозе паўстаў карэспандэнт раённай газэты Аркадзь Нічыпарук. Карэспандэнт зьняў капялюш, страсянуў, зьбіваючы дажджавыя кроплі і мутнаватымі, яшчэ дарэшты не працьверазелымі вачыма агледзеў хату.

Аркашка Нічыпарук даводзіўся Трахіму сваяком: быў жанаты на дзедавай пляменьніцы, і хаця пасьля таго зьмяніў яшчэ двух жонак, крэўных сувязяў не перарываў - зрэдзьчасу забягаў у хату, куляў чарку, і раз на год - звычайна, на Вялікдзень - прывозіў на рэдакцыйным «масквічы» мех крадзенага камбікорму.

Кіўнуўшы сваяку, Аркашка зазірнуў у сьвятліцу, а ўбачыўшы брудныя Міколавы пяткі, што тырчэлі з-пад коўдры, грымотна скамандаваў:

- Гвардыя, падйо-ом!

- Інтэрвію прыйшоў узяць, - патлумачыў Аркашка, выцягваючы з нутраной кішэні плашчу пляшку «чарніла» і зашмальцаваны блякнот.

Хвілін праз пяць, глынуўшы віна, Нічыпарук стаў распытваць Міколу - зь якіх віроў быў выцягнуты сталінскі бюст - а дзед Трахім, якому да млосьці абрыдлі п'янкі, ціхенька высьлізнуў з хаты. Стары сеў на ганку і стаў слухаць - як ціўкаюць з капяжу рэдкія кроплі, як квокча ў хляву, наракаючы на дождж, стары певень і як

на кухні, наракаючы на зладзюгу-рэдактара, бубніў Аркашка Нічыпарук:

- Немагчыма стала працаваць - рэжа ўсё пад корань. Пры камуністах і то лягчэй было...

Пазяхнуўшы, стары налёг сьпінаю на дзьверы, заплюшчыў вочы і калі - праз поўгадзіны - сваяк выходзіў з хаты, кульнуўся таму пад ногі. Сваяк ад начаканасьці падскочыў, выпусьціў з роту папяросіну і, дапамагаючы Трахіму падняцца, прамармытаў:

- Ну, Пятровіч, у цябе і жарцікі...

Потым карэспандэнт доўга шнарыў рукой па падлозе, шукаючы згубленую папяросіну, нарэшце знайшоў, прыпаліў ад падстаўленай Міколам запальнічкі:

- Карацей, даю два матар'ялы - адзін у сваю газэту, другі ў «Праўду». У Маскве такія рэчы любяць.

- І аб'яву... - нясьмела заўважыў Мікола.

- За аб'яву не хвалюйся. Сёньня ж патэлефаную Хаміцкаму. Надрукуюць у лепшым камэрцыйным выданьні. Як там напісаць? «Прадаецца бацька-Сталін»?

Сваяк зь Міколам яшчэ трохі гаманілі - Мікола ўсё бедаваў, што помнік надта цяжкі і гэта можа адпудзіць пакупнікоў, - дзед Трахім той парой прыбраў на стале, сасмажыў яечню і з палёгкай уздыхнуў, калі пакамечаны капялюш таргатліва паплыў міма вокнаў. Ля весьніц, аднак, капялюш крутнуўся вакол сваёй восі і Аркашка, увабраўшы голаў у плечы, пабег у адваротным накірунку.

«Ці не ў прыбіральню пабег?» - падумалася Трахіму; у гэты момант да помніка падкаціла шэрая «волга» і зь яе нутра вылез, цяжка аддзімаючыся, старшыня райвыканкаму Ганчарук і яшчэ нейкі, вайсковай выпраўкі чалавек, на носе якога віселі сонечныя акуляры. Агледзеўшы помнік, Ганчарук пачухаў патыліцу, сказаў штосьці напарніку, тыцнуўшы пры гэтым пальцам угору і сьпехам падаўся да машыны.

Наступныя два дні выдаліся спакойнымі: у хату ніхто не завітваў, да весьніц ніхто не пад'яжджаў, і ўзрадаваныя дзедавы куры ізноў пачалі поркацца ў зямлі на сваім ўлюбёным месцы - пад помнікам правадыру. Але на трэці дзень да хаты пад'ехаў даўжэзны белы фургон, зь яго выскачылі маладыя хлопцы ў рознакаляровых кепурках; хлопцы тут жа пачалі раскручваць нейкія шнуры і ўнук Мікола, зірнуўшы ў вакно, каротка патлумачыў:

- Тэлебачаньне.

І дзед і ўнук зьлёгку захваляваліся - а раптам паклічуць штосьці сказаць у камэру. Але хваляваньне было дарэмным. У хату ніхто не заходзіў, а неўзабаве да весьніц падруліў «казялок», у запыленай шыбе якога мільгануў азызлы твар Юстына Капітонавіча Дуба.

- А гэты чаго тут? - уразіўся дзед Трахім.

- Эх, дзядуля... На тэлебачаньні слова даюць толькі надзейным людзям, - з уздыхам прамовіў Мікола. Унук адсунуў непадатныя просвы, разнасьцежыў вакно. - Пазнаеш, дзед, вунь тую стрыжаную сучку? «Панараму» вядзе.

Кабеціна, пра якую казаў Мікола, падвяла былога ваянкома да помніка, махнула нейкаму хлопцу і лагодным голасам прасьпявала:

- Вы, Юстын Капітонавіч, толькі не хвалюйцеся. І глядзіце не на мяне, а ў аб'ектыў тэлекамэры.

Кабета ізноўку махнула рукой, састроіла лагодную ўсьмешку, натхнёна загаварыла ў мікрафон на чысьцюткай беларускай мове:

- Гісторыя не бывае добрай ці дрэннай. Гісторыя такая, якая яна ёсьць - зь яе ўзьлётамі і перамогамі, пякучым болем і трагедыямі. І як бы ні сіліліся сёньняшнія абвяргальнікі, гісторыя нашага народу заўсёды з намі, яна вяртаецца да нас і яскравы таму прыклад - вось гэты помнік, які стаіць за маёю сьпінаю. Імя Іосіфа

Вісарыёнавіча Сталіна і дагэтуль выклікае шмат спрэчак. Але спытаем - як ставяцца да гэтага імя тыя, хто праліваў кроў на франтах Вялікай Айчыннай вайны, хто з імем Сталіна на вуснах ішоў у сьмяротны бой...

- У які бой!? - вырвалася з Трахімавай грудзіны, - знайшлі ваяку... у сорак шостым румынаў вартаваў, а потым штаны ў ваенкамаце праседжваў, - Трахім сказаў яшчэ пару слоў на адрас Дуба, а ўнук, з адчаем зірнуўшы на сонца, чхнуў, ды так гучна, што кабеціна азірнулася і ўжо на чыстай расейшчыне гукнула хлопцу з тэлекамэрай:

- Лёша, давай сначала...

Рэшту дня - аж да самага вечару - Трахім праседзеў у Сяргейчыка - аднаногага інваліда, які жыў па суседзтву. Сяргейчык, з-за хваробы, ужо год як не выходзіў з хаты, а таму страшэнна ўзрадваўся, пабачыўшы суседа. З такой нагоды інвалід нават дастаў пляшку самаробнай наліўкі і хаця Трахім быў чалавекам непітушчым, але гэтым разам прапусьціў чарку. Балазе, і нагода была адпаведная: у гэты дзень, пяцьдзесят пяць гадоў таму, Сяргейчык застаўся без нагі.

- Ляжалі ў кукурузе, а тут ён як джвагне зь мінамёту, дык мяне нават з акопу выкінула, - слухаў Трахім нетаропкі суседавы аповед і з уздыхам прыгадваў як і яго аднойчы, пад час бамбёжкі, выкінула з паравозу. І ўваччу на кароткае імгненьне паўстаў разьвернуты бомбаю тэндэр, ахопленыя полымем цяплушкі санітарнага цягніка і перакошаная шыльда з надпісам «Вязьма» на будынку вакзалу. Трахім спахмурнеў, кульнуў чарку, закашляўся - наліўка патрапіла ў нос - і Сяргейчык задаволена паляпаў яго па сьпіне.

Калі стары вярнуўся дахаты, тэлевізійнікаў пад вокнамі ўжо не было, але затое ўпоперак вуліцы - адзнака таго, што кіроўца быў не ў гуморы - стаяў гасютавы «беларус».

Зрэшты, не ў гуморы быў і ўнук Мікола: з адчыненай форткі вырываўся на прасьцяг ягоны гарачлівы голас:

- Цэлы месяц важдаліся... і атрымалі... пендаля пад зад...

Адчыніўшы дзьверы і пабачыўшы самлелы Міколавы твар і панылага Гасюту, стары зразумеў: нешта здарылася.

- А можа дадуць якую кампэнсацыю? - нясьмела перапытаў Гасюта: трактарыст сядзеў за кухонным сталом, утаропіўшы вочы ў нейкую паперчыну.

- Як жа... дадуць! Дручком спаміж вушэй, - азваўся са сьвятліцы ўнук і брыдка вылаяўся.

Трахім моўчкі кіўнуў Гасюту і той, у сваю чаргу, кіўнуў на паперчыну, што трымаў у руках.

- Во... прыслалі заказным лістом... «Бюст І.В.Сталіна работы скульптара Леапольда Кангалевіча зьяўляецца ўласнасьцю дзяржавы і мусіць быць перададзены ў фонд Дзяржаўнага мастацкага музэю...»

- Не, ну якія казлы... Сорак гадоў у рацэ адваляўся... - выгукнуў Мікола, але фразы ня скончыў - выбег на кухню і зацкавана прамармытаў:

- Пітонавіч...

- Што - Пітонавіч? - не зразумеў Гасюта.

- Што-што... Сплавім вэтэранам за дзьве скрыні гарэлкі, а там хай разьбіраюцца - чыя гэта ўласнасьць.

Яшчэ імгненьне - і Гасюта зь Міколам, нібыта падхопленыя віхурай, кінуліся да дзьвярэй і, піхаючы адно другога, вылецелі на падворак.

**V**

І вось ён, насьпеў той хвалюючы момант, калі Мікола ўнёс у хату скрыню гарэлкі, паставіў яе на табурэт і з удумлівай разважнасьцю аддзьмуўся. Сьледам за ім, цягнучы другую скрыню, увайшоў Гасюта, а праз хвілю

- з трыма пляшкамі мінэральнай вады пад пахамі - з цёмнага прысенку выплыў Данік Крываблоцкі.

- Карацей, тры дні да яго зь Міколам хадзілі - грошаў так і ня выбілі, - прамаўляў, зьвяртаючыся да Крываблоцкага, Гасюта. - А сёньня, бляха, заходжу з кувалдай у руках. Пітонавіч тут і ўсхваляваўся. «Прыяжджай па абедзе, - кажа - атрымаеш грошы пад распіску».

- А што, бюст ужо ўцягнулі? - запытаўся Данік дрыжачым ад захапленьня голасам.

- Мальцы з пільні на круглякках укацілі. Цяпер вось будуць падымаць неяк. Трыма дамкратамі.

- Дарма пупы рвуць, - уключыўся ў размову Мікола, - у Пітонавіча грошаў больш няма ні капейкі, - Мікола задаволена крэкнуў і, нібыта той цыркач, падкінуў на далоні пляшку гарэлкі.

Дзед Трахім выйшаў з хаты, падышоў да весьніц, і, аблашчыўшы поглядам кола сьвежай зямлі - месца, дзе стаяў правадыр, зморана перавёў дых. Стары мерыўся пайсьці да Сяргейчыка - трэба ж было недзе пераседзець п'янку, ды яшчэ хацеў пазычыць грошаў, бо не было за што купіць ні хлеба, ні папяросаў - але ногі зусім ня йшлі і Трахім прысеў на лаўку.

Ён доўга сядзеў з заплюшчанымі вачыма і слухаў няўцямную гамана, якая лілася з адчыненых вокнаў хаты. Час ад часу гамонка перарывалася бразгатам шклянак, здаволенай керханінай, Данік Крываблоцкі раз за разам спрабаваў зацягнуць нейкую песьню, нарэшце зацягнуў - ды так гучна, што на двары сярдзіта заенчыў певень, але нечакана аціх і дзесьці непадалёку абудзіліся сутаргавыя ўсхліпы.

Трахім разьмежыў вочы і ўбачыў русявага Пецьку. Падшыванец ішоў па вуліцы і перарывіста плакаў.

- Гэй, пакрыўдзіў хто? - крыкнуў дзед Трахім, але падшыванец не азваўся.

на калдабане, - Тарзан Пятровіч перавёў дых, дастаў з кішэні пашарпаны блякноцік. - Хата, у якой жыве Матрона Апалонік, пабудаваная за царом Гарохам. Масьнічыны гнілыя, ганак зусім праваліўся. У хаце няма нават тэлевізара...

- Вашыя прапановы, - перабіў Куксёнка гаспадар габінэту і той, ні хвілі не раздумваючы, выпаліў: - Сустрэнем немца ў доме Сьцяпана Міканоравіча... старшыні калгаса. Дом з мансардай, паркет, санвузел... - Тарзан Пятровіч мерыўся далей разьвіваць сваю думку, але, угледзеўшы незадаволенасьць на шэфавым твары, прыкусіў ніжнюю вусну і дробна залыпаў вачамі.

Шэф стукнуў асадкай па стале, керхануў у далонь і гэта азначала, што ён зьбіраўся некага паўшчуваць.

- Таварыш Даўбешка, - шэф хітнуўся ў бок, спрабуючы сустрэцца вачыма з начальнікам участку, - дагэтуль вы нам задавалі пытаньні, настала пара і нам запытацца: «Калі будзе атрамантаваная бычкоўская дарога?» Вы што, чакаеце аргвывадаў? Мы трэці год запісваем у плян сацыяльна-эканамічнага развіцьця пункт: «Асвальтаваньне дарогі Балбекі - Бычкі» і за гэтыя тры гады там нават грэйдзер не праехаўся...

- Эдуард Альфонсавіч... вы ж ведаеце... - пралепятаў Даўбешка, але шэф як і ня чуў таго лепятаньня. - Раённы камітэт партыі дае вам два тыдні... Усе людзі, уся наяўная тэхніка мусіць быць кінутая на аб'ект. Не хапае тэхнікі - пазычайце ў суседзяў, ганіце каткі і грэйдзеры з Нэвеля, Віцебску - адкуль хочаце. І ведайце - за гэтую дарогу вы адказваеце партбілетам.

Эдуард Альфонсавіч выцер насоўкаю халодны пот з лобу, перавёў позірк на загадчыка сельгасаддзела.

- Сядайце, Тарзан Пятровіч... Вы нас сваёй прапановай, шчыра кажучы, зьдзівілі, - шэф ляснуў асадкай па стале. - Ну, сустрэнем мы госьця ў старшынёўскай хаце... А што на гэта скажуць людзі? Вы пра гэта, Тарзан Пятровіч, падумалі? Каго мы хочам ашукаць - немца, ці саміх сябе?

У паветры завісла гнятлівая цішыня, якую праз пару хвілін парушыў загадчык сельгасаддзела, плаксіва шморгнуўшы носам.

- Думаю, давесьці да ладу вясковую хату ня так і цяжка. І тэлевізар можна знайсьці... у часовае карыстаньне... - ужо лагодным голасам прамовіў гаспадар габінэту, зірнуў на старшыню райвыканкаму Кабяка і той згаджальна страсянуў чупрынай.

Раніцой наступнага дня цётка Матруна ўжо не ўставала з пасцелі і фэльчарка Ніна, зрабіўшы ўколы, узялася парадкаваць у хаце: памыла посуд, падмяла падлогу, згатавала кампот з антонавак, нарэшце, прысела на табурэт і стала чытаць уголас мясцовую газэту.

- Во, Матрона Іванаўна, паслухайце. Тут пра нашыя Бычкі пішуць.

«Новае ў жывёлагадоўлі» - так называецца стэнд тэматычнай літаратуры, устаноўлены днямі ў памяшканьні Бычкоўскага сельскага клюба. На стэндзе дэманструюцца матэрыялы Красавіцкага пленума ЦК КПСС, кніжныя навінкі выдавецтва «Ураджай», у тым ліку брашура нашага земляка, знатнага жывёлавода Э.Дымагарнага «Грамадзкаму статку - клопат і ўвагу». Кніжны стэнд карыстаецца вялікай увагай сяльчан».

- І хто ж гэта піша? - пацікавілася цётка Матруна і наструніла слых.

Пад вокнамі загула, а потым лагодна завуркатала бліскучая чорная «волга».

- Божухна, і што яны ўнадзіліся... - прастагнала цётка Матруна, а фэльчарка Ніна, убачыўшы праз вакно чарговага цётчынага госьця - падхорцістага дзядзьку ў шэрым капелюшы, падхапіла валізку і падалася на двор.

Чарговы госьць увайшоў у хату нячутна - бяз рыпу, амаль бяз груку і тым самым напужаў гаспадыню. Паўстаўшы пасярод хаты, госьць злавесна пасьміхнуўся, выцягнуў з кішэні нейкую кніжачку, а цётка Матруна,

самлеўшы, схапілася рукой за фіранку, што вісела ля ложка, і плюхнулася на пярыну.

- Дарма так хвалюецеся, Матрона Іванаўна... і занавескі дарма абрываеце, - госьць дапамог гаспадыні сьцягнуць з галавы абарваную фіранку, спрытна прысеў на край табурэту. - Тым больш, мы ня маем да вас ніякіх прэтэнзій.

Госьць кінуў на стол капялюш, дастаў з нутраной кішэні нататнік.

- Толькі два пытаньні, Матрона Іванаўна... Ці ведалі вы такога Бэртрама Бомбаха?

Цётка Матруна залыпала вачанятамі, зацкавана страсянула галавой.

- А вы, Матрона Іванаўна, не сьпяшайцеся... Згадайце вайну. Успомніце - хто зь нямецкіх салдат да вас заходзіў, як вы іх сустракалі, - чакаючы адказу, госьць паляпаў нататнікам па сьцягне...

- Дзіўна, - госьць засмучана ўздыхнуў, насупіў кусьцістыя бровы, - а нам казалі, што вы гэтага ваяку добра ведалі, што ён часьцяком завітваў у вашую хату.

Замарачны звон у вушах ператварыўся ў бязладны шум і Матруна зусім ня чула - што кажа няпрошаны госьць і зрэдзьчасу, зусім не да месца ківала альбо трэсла галавою. І ўсё-такі тузін словаў дапяў да вушэй.

-... Цалкам верагодна, што немец будзе даваць грошы. Возьміце вы іх, ці не - вашая асабістая справа, але мы б не рэкамэндавалі гэтага рабіць...

Пасьля таго цётка Матруна ціха войкнула, закаціла вочы, кульнулася на падушкі. У першае імгненьне госьць падумаў, што цётка фліртуе, але потым ачуўся: пабег на кухню, сёрбнуў вады з вядра, пырснуў у твар зьнямоглай кабеціне і калі тая расплюшчыла вочы, схапіў капялюш і палахлівым ценем высьлізнуў з хаты.

У абед, разам з каровай, што вярнулася з поля, у

Матрунчын двор завітала Карпачыха. Суседка доўга навязвала наравістую Зьвяздоху, грукала даёнкай, нарэшце ўбілася ў хату.

- Ну, як ты тут? Ці палягчэла? - гукнула Карпачыха і тут жа дадала: - Я яго шукаю, падлюгу, а ён у кінабудцы сядзіць, гарэлкай заліваецца. Другім разам, далібог, падапру калом, ды падпалю гэтую кінабудку разам з п'янтосамі.

Карпачыха яшчэ пару хвілін лаяла цесьця і сунялася толькі тады, як Матруна войкнула і папрасіла зьбегаць па фэльчарку.

- У больніцу трэба - хай бы падлячылі, - уздыхнула суседка і ўжо адчыніўшы дзьверы, крыкнула: - Унука пашлю, а то ж каровы стаяць нядоеныя...

Дзьверы стрымана грукнулі і - дзіўная рэч - Матруне адразу ж палягчэла. Сэрца ўжо не рвалося з грудзіны, увушшу не шумела і Матруна нават пачула, як білася ў шыбу зумклівая восеньская муха. Звон у вушах заўсёды зьнікаў, калі яна згадвала пра больніцу - гэтае, ва ўяўленні Матруны, страшнае месца, дзе яна за сваё жыцьцё так ніколі і не пабывала і дзе, па чутках, людзей рэзалі, поркаліся ў нутры, а потым зноў сшывалі.

У хляву рыкнула нядоеная Зьвяздоха, муха стукнулася ў шыбу і пачала кружляць над галавою, а ў самой галаве сталі кружляць беспакойныя думкі. «І чаго яны да мяне прычапіліся?» - падумала Матруна, згадаўшы нязваных гасьцей. Асабліва яе ўстрывожыў мужчына ў капелюшы, які пытаўся пра немца. - Ці не Канавальчык што набрахаў? - прашаптала Матруна і тут жа супакоіла сябе на думцы, што мужчына, відаць, яе з кімсьці пераблытаў. Муха ізноў стукнулася ў шыбу, а на двары пачуліся шаргатлівыя крокі. Прычым ішлі відавочна не Карпачыха з фэльчаркай, бо знадворку кашлянулі, мацюкнуліся, грукнулі дзьвярыма, ды так, што парахня пасыпалася са столі і нехта сіплым голасам прамовіў: «Ня ўлезе, давядзецца пілаваць». Другі мужчына гойкнуў: «Улезе!», а Матруна спалохана

перахрысьцілася і прашаптала:

- Каго там яшчэ прынесла?

Мужчыны доўга валтузіліся ў прысенку, нарэшце ўваліліся на кухню і Матруна з жахам убачыла, як у сьвятліцу, падчапіўшы квяцістую фіранку, уехала тоўстае габляванае бервяно.

- А божухна, - выдыхнула Матруна і ў той жа міг ўгледзела барвовы твар карпачысінага зяця: Казік трымаў цяжкое бервяно і зморана аддзімаўся.

- Прыйшлі, цётка Матруна, падлогу табе замацаваць, - засоплена і не зусім цьвяроза прабубнеў «западэнец», прымасьціўшы бервяно на калена, - так што выбачай - патурбоцім.

Хлопцы - а разам з Казікам у хату ўваліліся Васька Халімонаў ды Пецька Траян - паклалі бервяно, зморана ўздыхнулі і ў хаце запахла гарэлкай.

- З раёну званілі. Загадалі ўмацаваць падлогу, - патлумачыў Казік. - І ганак паправіць, - гукнуў праз Казікава плячо Халімонаў - немалады ўжо мужчына, якога летась пазбавілі шофэрскіх правоў і перавялі ў цесьлі.

Казік раскрыў рот, каб яшчэ нешта сказаць, ды тут у хату ўбілася цешча.

- Вы што! - гракнула Карпачыха ад парога, - зусім ад гарэлкі пашалелі? Зь бервяном у хату лезуць!

- Старшыня паслаў, - уставіў слова Пецька Халімонаў, - загадаў падлогу ўмацаваць, як ветэрану працы.

- Дык што ж вы, будзеце мазгатаць хворай жанчыне над вухам? - не сунімалася Карпачыха і зяць, адвёўшы вочы, плаксіва прамармытаў: - А можа яе да нас? Хай пажыве пару дзён, пакуль мы ўправімся.

Цешча неяк дзіўна паглядзела на зяця і, ці не ўпершыню ў жыцьці, пагадзілася зь зяцевай

прапановай.

- А й сапраўды, Іванаўна... Фэльчарка ў раён зьехала, дык чаго ты тут будзеш ляжаць? Пайшлі да нас, а то ж не дадуць гэтыя п'янтосы жыцьця.

І Йванаўна, шморгнуўшы носам, асуджана ўздыхнула ў адказ.

Да сяброўчынай хаты ішлі моўчкі і гэтае маўчаньне муляла карпачысіну душу. Карпачыха ўвесь час мерылася штосьці спытаць - керхала, набірала ў грудзіну паветра, але тут жа стульвала вусны і з шумам аддзімалася. Нарэшце, абмінуўшы зялёную каровіну ляпеху, яна чародным разам керханула і запыталася:

- А што за чалавек да цябе прыяжджаў?

Матруна зьлёгку сьцепанулася, паправіла хусцінку на скроні.

- А я й сама яго ня ведаю. Прыйшоў... у капелюшы, не выпіўшы, дастаў нейкую кніжачку і пачаў пра нейкага Бомбуха пытацца. Пытаецца, а ў мяне мятлікі ўваччу. Так і самлела. Ачулася, а яго ўжо і ў хаце няма.

- Хто ж такі, гэты Бомбух? -задуменна выдыхнула Карпачыха, - ці не траянавы гэта швагра, што летась краму абрабаваў?

Сяброўка прымружыла вочы, згадваючы прозьвішча траянава швагра і, не згадаўшы, стоена прашаптала:

- Гэта ж я сёньня ў сяльпе была, дык там Халімоніха байкі баяла. Казала: пільнуйце, бабы, калодзежы, бо нейкі немец едзе - хоча ваду патруціць.

Матруна, аднак, ня чула тых слоў, бо душа ейная на кароткае імгненьне вырвалася з грудзіны і адляцела ў мінулае. І на Матруну ізноў зірнуў малады немец і ў прысенку ізноў брудна вылаяўся Міцька Дзенісенка. І Матруна ўцяміла, нарэшце - хто едзе ў адведкі і бяскроўныя вусны бязгучна прашапталі: «Божухна, няўжо гэта ягоны сын?»

- Ты, Іванаўна, балбатню тую да сэрца не бяры, - засакатала Карпачыха, пабачыўшы, што Матруна зьмянілася з твару. - Халімоніха ж вядомая балаболка. Памятаеш, казала на Тройцу, што на Бычкі міцярыт зваліцца.

... За цэлы дзень Матруна не прамовіла ні слова - ляжала на ложку, глядзела ў столь, маркотна ўздыхала і ад уздыхаў варушылася сівая павуцінка, што вісела над галавой. Увечары сяброўка паставіла на стол чыгунок парнай бульбы, паклікала есьці і калі Матруна адмовілася, сілком зацягнула да стала.

- Паеш ты, далібог, а то памрэш з галадухі.

Есьці і сапраўды не хацелася: Матруна распалавініла бульбіну, каўтнула малака, наставіла на сяброўку сумныя вочы і сяброўка, адсунуўшы ўбок талеркі, падхапілася на ногі.

- Давай пагадаю. Уведаеш, што будзе - адразу палягчэе.

Карпачыха дастала з шафы калоду карт, ператасавала, расклала на стале, засяроджана пачухала гузаваты нос.

- Вось гэты стары псюк табе й не дае спакою, - сяброўка тыцнула пальцам у піковага караля і ўздыхнула - глыбака і трывожна. - Чакаюць цябе нейкія згрызоты, нейкія размовы, а ўсё скончыцца... - Карпачыха перагарнула дагары тварам крайнюю карту, сумелася і ў гэты момант праз парог - з глухой кашлянінай і тупаценьнем - кульнуўся зяць Казімер.

- Хату ці зачынілі? - запыталася цешча, і зяць, пачэрпнуўшы вады зь вядра, стомлена выдыхнуў: - Зачынілі...

- За вас дужа не бярыся, п'янтосы няшчасныя, - прамовіла Карпачыха і з такім імпэтам узялася тасаваць карты, што яны высьлізнулі з рук і пасыпаліся на падлогу.

Наступным ранкам, а восьмай гадзіне, Казімер рушыў на працу, але неўзабаве вярнуўся і задыхана паведаміў:

- Цётка Матруна! Там да вас прыехалі... Тэлевізар прывезьлі, і ўсё такое...

- Які целевізе-ер, - усхвалявана прасьпявала Матруна і, апранаючыся, доўга не магла патрапіць у рукаво кацавейкі.

Яны выбеглі з Карпачыхай на падворак і ў канцы вуліцы ўгледзелі крытую машыну, а поруч зь ёю Канавальчыка ды нейкага незнаёмага мужчыну.

- Хто з вас Апалонік? - гукнуў незнаёмец, калі жанчыны падышлі бліжэй.

- Я-а, - дрогкім голасам азвалася Матруна, зачапіўшы нагой сьвежую каровіну ляпеху.

- Расьпішыцеся ў атрыманьні... - мужчына расправіў на жываце скамечаную паперку, - тэлевізара, люстры, паласа і журнальнага століка.

- А калі мне што-небудзь дадуць? - пакрыўджана выдыхнуў Канавальчык. - Я, між іншым, ветэран вайны, маю тры баявых мэдалі.

- Наступным разам, дзед, - буркнуў мужчына і з кіслай мінай на твары працягнуў Матруне пакамечаную паперку.

На ганак уласнай хаты Матруна ступіла, ня чуючы пад сабой ног, а пабачыўшы квяцісты кілім на падлозе, маленькі стол на крывых нагах і чалавека, які стаяў на стале і ўкручваў лямпачкі ў люстра, нават ікнула ад хваляваньня.

- Усё, цёткі, прымайце работу! - чалавек скочыў са стала, пстрыкнуў уключальнікам і Карпачыха, што стаяла за сьпінаю, зачаравана прашаптала: - Як у царкве.

Дзень згасаў ужо ад ранку і мяккі змрок, нібыта дым ад бульбоўніку, плыў у вокны, кволіўся ў вісюлінах казённай люстры, няроўным прастакутнікам ляжаў на паверхні журнальнага століка і ў нетрах прастакутніка

цёмнай плямай вымалёўвалася нерухомая жаночая пастаць. Матруна сядзела ля вакна - дробненькая, скурчаная, лядашчая і летуценна паглядала спачатку на грэйдзер, што сноўдаў па вясковай вуліцы, а потым на пакрэсьленае згалелым вецьцем неба.

«Сустракайце, Матрона Іванаўна, госьця. І не забывайце - пра што мы з вамі гаманілі», - паведаміў учора мужчына ў капелюшы і душу Матруніну працяў халадок трывожнага чаканьня. Адвячоркам, калі яны з Карпачыхаю мясілі цеста для пірагоў, Матруну пачалі біць дрыжыкі, ноччу яе апанавала нэрвовая ліхаманка, але раніцою ільдзінка непакою ў душы растала і цела чарговым разам апанавала хваравітая немач. Матруна прысела на хвілю да вакна і, няздольная зварухнуць аніводнай сваёй цяглiцай, так і застыла ў няёмкай паставе, пазіраючы на няўтульны, колеру цьмянага волава сьвітанак. Яна сядзела так гадзіну, а можа і дзьве, і калі неба канчаткова праясьнела, у яго прадоньні сталі нараджацца напаўзабытыя абліччы: гайдалася ў паветры няголеная пыса Міцькі Дзенісенкі; таўпілавы сын Мікола сарамліва пасьміхаўся ёй, блытаючыся ў вецьці; і сам Таўпіла, акалелы, пакрыты бухматым інеем, наблізіўся да вакна і тут жа растаў, зьліўшыся зь бязрадасным небам. Там, за вакном, нараджаліся напаўзабытыя галасы, гучалі няўцямныя зыкі: Міцькава лаянка, сіплы таўпілавы кашаль, вясёлы воклік «Брава, Зоніа!», ад якога шумела ўвушшу і абуджалася прыспанае сэрца і, апанаваная ўсёй гэтай замараччу, Матруна не адразу ўцяміла - ці то папраўдзе за шыбай паўстала Карпачыха, ці тое ёй прымроілася.

- Едуць! - гукнула сяброўка і ад вокліка ейнага здрыгануўся і апаў долу апошні ліст з яблыневага вецьця.

Да весьніц Матруна ішла як не на сваіх нагах, а ўбачыўшы жанчын, што стаялі ля канавальчыкавай хаты, і зусім зьніякавела. «Едуць, едуць», - загаманілі жанкі і з-за павароткі выехала спачатку шэрая «волга», а потым зялёны старшынёўскі «казёл». Цяжка гудучы на няўезджанай дарозе, машыны ўзьехалі на пагорак,

спыніліся і з «волгі» вылез нетутэйшага выгляду мужчына й маладая кабета ў бялюткім як сьнег палітоне.

«Жонка, жонка» - зашапталіся ў натоўпе і той жа міг сэрца Матруніна сьцялася - яна ізноў убачыла Бэртрама. Шалёная радасьць палыхнула, апаліла шчокі й згасла ад усьведамленьня, што гэта быў не Бэртрам, а ягоны сын.

-... Заработная плата сяльчанаў вырасла ў параўнаньні з 1965-м годам у 1,7 раза. Вёска Бычкі, паводле генэральнага пляна, ператвараецца ў пасёлак з усімі камунальнымі выгодамі, - грымеў на ўсю вулку зычны голас калгаснага старшыні - Сьцяпана Міканоравіча Бамбізы. Сьцяпан Міканоравіч шыбаваў поруч з гасьцямі, а сьледам за імі, на невялічкай адлегласьці, сунуўся той самы мужчына ў шэрым капелюшы.

- Ну вось, - прамовіў старшыня, падышоўшы да весьніц, - гэта і ёсьць тая самая Матрона Іванаўна Апалонік, зь якой вы хацелі пазнаёміцца.

Не ўздымаючы вачэй, Матруна паціснула спачатку шырокую і цёплую мужчынскую далонь, а потым халодную й далікатную жаночую долоньку.

- Как ваше здорофйе, Матрйона Іванофна? - запытаўся немец, дыхнуўшы саладжавым пахам мяты.

Матруна неакрэслена кіўнула і, змагаючыся з нэрвовай дрыготкай, пачала перабіраць пальцамі ражкі навюткай, па выпадку павязанай хусткі.

Немец стрымана кашлянуў, расшпіліў, потым зноў зашпіліў верхні гузік палітону: - Я ест сын Бэртрама Бомбаха, который тут погіб. Вы же его зналі, Матрйона Іванофна?

Матруна ізноў кіўнула, узьняла вочы і, натыкнуўшыся на суворы пагляд з-пад шэрага капелюша, страсянула галавой.

- Может, Матрйона Іванофна, вы знаете - где он был

похоронен?

- Вы ведаеце, дзе быў пахаваны спадар Бомбах? - перапытаў праз хвілю шэры капялюш, але Матруна маўчала, з хваравітай зацятасьцю пазіраючы пад ногі.

Немец яшчэ штосьці пытаўся, выцягнуў з кішэні мэталёвую блямбу, згадаў Лёшку Клячкіна, нарэшце асуджана ўздыхнуў і жонка - бялявая й вастраносая кабета - тузанула яго за рукаво. Немка штосьці прамовіла па-свойму, пайшла да машыны і сьледам за ёю, цяжка шоргаючы падэшвамі чаравікоў, пайшоў і сын Бэртрама Бомбаха.

- Гендэ хох! - гукнуў з-за плоту Канавальчык. Канавальчык зірнуў на жанчын, спадзяючыся, што тыя ацэняць ягоны жарт, але жанчыны абурана зашыкалі, а Карпачыха крутнула пальцам ля скроні і мацюкнулася.

- Адзін гарлае абы-што, другая маўчыць як статуёвіна, - ледзь чутна прасіпеў Бамбіза, махнуў рукой і лёгкім трухам пабег да свайго «казла».

Неўзабаве машыны зьніклі за павароткай, і жанкі, пастаяўшы хвілінку, пачалі разыходзіцца. Ніхто зь іх не падышоў да Матруны, ніхто нічога не сказаў, нават Карпачыха сарамліва адвяла вочы, і толькі Канавальчык штосьці крыкнуў у ейны бок, ды словы ягоныя заглушыла вуркатанне грэйдзеру, які выяжджаў з прыдарожных кустоў. Матруна села на лаўку, насунулася сьпінаю на плот і з дзіўным спакоем падумала, што так і памрэ тут, пад плотам, ня ў сілах падняцца на ногі.

У абед прыгналі статак - быў канец кастрычніку і скаціну пасьвілі толькі да абеду. Зьвяздоха доўга рыкала пад гарою, клічучы гаспадыню, нарэшце прыйшла да хаты, пастаяла ля паркану і, лізнуўшы шупатым языком вільготныя ноздры, пасунулася ў хлеў. Па абедзе - ужо ў вечаровым сутоньні - з-за павароткі выехала крытая машына, пад'ехала да хаты і з кабінкі выкуліўся той самы мужчына, што прывозіў тэлевізар ды іншыя рэчы. Мужчына штосьці запытаў, Матруна кіўнула і праз

колькі хвілінаў госьць вынес з хаты спачатку тэлевізар, потым згорнуты ў трубку кілім, нарэшце, журнальны столік і люстру, якая суцішна зазьвінела на ветры.

- А ты думала, што табе далі назаўсёды? - гукнуў ад сваёй хаты Канавальчык, калі машына ад'ехала.

Матруна нават не зірнула ў суседавы бок і Канавальчык, абражаны такімі абыходзінамі, падцягнуў зацухмоленае галіфэ, жвавым трухам перабег дарогу.

- Гэта сынок таго фрыца прыехаў, якога мы шлёпнулі? - сусед вытрымаў паўзу, чакаючы, што Матруна абзавецца хоць словам, але тая маўчала. - Тут да мяне чалавек прыходзіў... з Камітэту... - Канавальчык вытрымаў яшчэ адну паўзу, - між іншым, пра цябе пытаўся... Я яму ўсё і распавёў. Як мы таго немца вялі, як той немец жыць прасіўся. Гэта ж я яго і шлёпнуў, а Міцька Дзянісенка на сябе запісаў... Хітры быў, хахляра, таму і выбіўся ў людзі.

Нейкая дзіўная сіла падняла Матруну на ногі і яна, зьлёгку хітаючыся ўбокі, пасунулася дадому. Убіўшыся ў хату, Матруна глынула збружэлага квасу, няўмела перахрысьцілася і, не распрануўшыся, лягла на ложак. Жанчына цяжка ўздыхнула, зьмежыла павекі, а калі зноўку расплюшчыла вочы, дык убачыла ў пройме прачыненых дзвярэй Бэртрама. Бэртрам пасьміхнуўся ёй аднымі вуснамі, паставіў у кут стрэльбу і, ня ведаючы - чым заняць рукі, стаў расшпільваць, а потым зноў зашпільваць верхні гузік мундура.

- Сын твой прыяжджаў, мы яго ўсёй вёскай сустракалі, - прамовіла Матруна і, прыкусіўшы дрыготкую вусну, скрозь сьлёзы прашаптала: - Замуж я так і ня выйшла.

- Ведаю, - азваўся Бэртрам і голас ягоны прагучаў гулка, няўцямна, нібыта з калодзежу.

Згадка пра калодзеж на кароткае імгненьне абудзіла Матруну; жанчына страпянулася, памкнулася разьвязаць хусьцінку, якая душыла яе, ды нечакана скацілася з ложку і паляцела ў халоднае і сырое

прадоньне, на дне якога плюскала вада і хтосьці голасна гукаў ейнае імя.

Імжыстым ранкам ў шыбу пастукалі і на падворку прастуджана кашлянуў Канавальчык.

- Гэй, Матруна, выганяй карову!

Канавальчык кашлянуў другім разам, прыпаў тварам да шыбы і на вільготным шкле - у тым месцы, куды тыцнуўся канавальчыкавы нос, утварылася буйная кропля. Хвіліну яна нявыплаканай сьлязінай трымцела на ветры, а потым сарвалася долу, не пакінуўшы па сабе ніякага сьледу.

## Сьветлай ноччу

Ноч была на дзіва сьветлаю. Злавесна-барвовая поўня, што ўзьнялася зьвечару па-над Дабранскай гарой, неўзабаве праясьнела, зрабілася малочна-белаю і, павіснуўшы на гольлі дрымотнай таполі, заліла навакольле туманным сьвятлом. Адбіткі гэтага сьвятла ляжалі на чорных люстрах лужын, на абмытых начной расой таполевым лісьці, на дахах гатаўскіх хат і на гладкай шэрстцы ката Барыса - аграмаднага сібірака, які сядзеў на шуле весьніц і, лена варушачы канцом цяжкога - у руку таўшчынёй - хваста, мружыўся на поўню.

Панавала цішыня і толькі чуйнае Барысава вуха ўлоўлівала сярод гэтай цішы кволыя гукі: цвырканьне конікаў, падзеньне яблык у садзе, храпеньне гаспадара ў хаце й скавытаньне шчанюка Дуроніка ў канцы агарода. На прамінулым тыдні сканаў у сваёй будцы стары Палкан, і ўзамен яму гаспадар прынёс аднекуль блазнаватага шчанюка, якога назваў Дуронікам. Шчанюк гэты дзень да ночы лётаў па двары, дзяўкаў на карову, ганяўся за курамі, ад якіх урэшце рэшт набраўся скочак і цяпер несупынна скавытаў і чухаў лапамі адвіслыя вушы.

Ката адольвала дрымота.

Ад самага ранку гаспадар стагаваў на Дабранскай гары сена - звозіў зьляжалыя капёшкі ды клаў вялікі стог. З-пад капёшак, калі конь сьцягваў іх зь месца, уроссып разьбягаліся палёўкі: Барыс цэлы дзень іх душыў і так захапіўся гэтаю справаю, што нават не прыходзіў у абед дахаты паласавацца сырадоем. Іншая кацера пасьля такой беганіны даўно б ужо дзе-небудзь прыкархнула, скруціўшыся абаранкам, але Барыс быў катом прынцыповым. Пад кустом ніколі ня спаў. Упадабаў адно месца - толькі там і ўкладваўся. І месца гэтае было не абы-дзе, а на гарышчы хаты, ля цёплага коміну.

На гарышчы, апрача Барыса, спала на духмянай канюшыне й гаспадарава дачка Люська. Люська тая мела звычку цягацца ў суседнюю вёску на танцы, і Барысу даводзілася падоўгу чакаць дзяўчыну, бо самому яму адчыніць паддашкавыя дзьверы не выпадала.

Паволі цішэлі зыкі: карова ў хляве пакінула сапці й толькі зрэдзьчасу ўздыхала, Дуронік больш не варушыўся ў бульбяніку, а сьнегавая поўня заблыталася ў таполевым вецьці і падворак пануpыўся ў цемру. Цемра лёгкім цяжарам лягла на Барысавы павекі, кот на кароткае імгненьне прыснуў, нават прыдушыў у сьне пару палёвак, але варта было ўдалечыні чхнуць матацыклу, як ён абудзіўся, разьмежыў зіркатыя вочы і, зь нецярплівасьцю пераступіўшы з лапкі на лапку, ударыў нягнуткім хвастом па шуле.

Матацыклы, як заўсёды, спыніліся на ўскрайку вёскі. Хлопцы, што прывезьлі дзевак, у іншых месцах насіліся на сваіх «Панoніях» аж да раньня, будзячы пры гэтым нават глухаватых дзядоў. А вось па Гатаву гойсаць сярод ночы не насьмельваліся. У Гатаве жыла загадчыца крамы, якую яны вельмі паважалі й таму берaглі ейны сон. Да таго ж хлопцам і без матацыклетнага ляскату даводзілася часьцяком будзіць магазыншчыцу, стукаючыся да яе сярод ночы й здушана прамаўляючы:

- Міронаўна... выручы... брат прыехаў...

Ля крайняй хаты заглух, а потым зноў завёўся матацыкл, пачуўся дзявочы віск, хлапечы рогат, і кот, задаволена прагнуўшы сьпіну, пайшоў па паркану насустрач людзкім галасам.

Ён ужо стаміўся ісьці й лапы забалелі ад гострых штыкецін, калі зь цемры выплылі дзявочыя постаці. Дзевак было тры: Люська, яе сяброўка Манька Цыкіна й яшчэ адна, кірпатая й круглатварая, імя якой Барыс ня ведаў і якая прыехала ў Гатава на пагасьціны - ці то зь Ленінграду, ці то яшчэ зь якога вялікага места. Колькі часу дзяўчыны нясьпешна ішлі па вуліцы, спрытна пераскокваючы праз лужыны, а параўняўшыся з Барысам, разам азірнуліся і, пырснуўшы здушаным сьмехам, пабеглі навыперадкі, сьмешна раскідваючы ўбакі цыбатыя ногі. Кот хацеў быў сігануць за імі ўсьлед, але перадумаў: сьцежка была мокраю ад расы дый бегчы не было сэнсу, бо «начныя бадзягі», як называла дзевак гаспадыня, адразу дахаты ніколі ня йшлі - сядалі на бярвеньне перад Маньчынай хатай і распавядалі адна адной розныя глупствы.

Вякнуўшы, Барыс пайшоў па паркану - цяпер ужо ў адваротным накірунку, - а дайшоўшы да Маньчынай хаты, пачуў ценькі й дарэшты задыханы голас ленінградкі:

- Божухна, які дурань! Які дурань! - парывіста выдыхала ленінградка, хітаючы галавой і летуценна пазіраючы на поўню.

Праваруч ад яе, на камлі таўшчэзнай хвоі, сядзела Манька Цыкіна, а ля іхных ног, на другім бервяне, месьцілася Люська.

- Які дурань! - паўтарыла пасьля хвіліны маўчаньня гараджанка, і Манька Цыкіна, тузануўшы сяброўку за спадніцу, запытала: - Што... што ён табе сказаў?

- Што трэба - то й сказаў! - адказала за гараджанку Люська, і ў голасе ейным чулася лёгкае хваляваньне.

- А цябе, Люсечка, ніхто й не пытаецца, - азвалася Манька Цыкіна. Памаўчаўшы, Манька адламала ад камля кавалак кары, шпурнула ў лужыну, зьедліва дадала: - Думаеш, ніхто ня ведае, як ты зь ім за клюбам цалавалася?

- Хто? Я?! - голас Люсьчын дрыжэў і зрываўся. Люська падхапілася зь бервяна, рванулася, на радасьць Барысу, да хаты, але яе схапіла за рукаво зьбянтэжаная ленінградка.

- Ну, дзяўчынкі... ну чаго вы...

Хвіліну дзеўкі наструнена маўчалі, потым Люська фыркнула, плюхнулася на камель, ленінградка прымасьцілася поруч і, уздыхнуўшы, пралепятала:

- Ну, хочаце, будзем хадзіць з клюба пехатою?

Словы гэтыя завісьлі ў паветры. Люська з Манькаю прымірэнча пераглянуліся, разам зірнулі на сяброўку.

- Ноччу? Пехатою? Паўз могілкі?!

- Ну і што, што паўз могілкі? - запыталася ў сваю чаргу гараджанка, і ў голасе ейным ужо ня чулася ранейшай бадзёрасьці.

- Ты ж, Маша, відаць, ня ведаеш... - прашаптала Люська, вытрымала паўзу, зьбіраючыся распавесьці ўсё па парадку, ды яе апярэдзіла Манька Цыкіна.

- Карацей, прыехаў адзін таксіст з Азярышча, стаў там ля базару й чакаў - каго падвесьці. І тут падышла нейкая цётка. Высокая такая, прыгожая і ўся ў чорным...

- У белым, а ня ў чорным... - паспрабавала было ўдакладніць Люська, але сяброўкі абурана махнулі рукамі, і яна змоўкла.

- Падыходзіць, значыцца, і кажа: - «Адвязі мяне на гатаўскія могілкі», - і сто рублёў дае. Ну, таксіст грошы ўзяў ды паехаў... Прыехалі яны, а ўжо цемнавата было -

гадзін, можа, дзесяць вечара. Цётка вылезла з машыны і загадала таксісту, каб чакаў. - «Дачакаешся - яшчэ сто рублёў атрымаеш», - так і сказала... Ну і пайшла на могілкі. Таксіст гадзіну чакае, другую - няма нікога. Страшна стала. Хацеў ужо дадому ехаць, а тут бачыць - ідзе нехта - увесь у белым. Прыгледзеўся, а гэта тая цётка...

- Як цётка? Яна ж у чорным была, - улякнута перапытала жыхарка вялікага места й Люська, азірнуўшыся на бокі, страшным голасам растлумачыла: - З Хадоры, зь нябожчыцы зьняла. Яе якраз таго дня пахавалі - у саматканай кашулі.

- А т-таксіст?

- А што таксіст... Абамлеў. Націснуў... на што там яны цісьнуць... машына рванула, нават дрэва зламала, - Люська яшчэ раз азірнулася. - Казалі - памёр праз тыдзень. Гэта таму, што сотню ня выкінуў.

- Мы на наступны дзень туды хадзілі - сьляды машыны бачылі й бярэзіну зламаную, - уставіла слова Манька Цыкіна і Люська згаджальна кіўнула галавой.

Барыс адчайна, аж да ёкаўкі ў горле, пазяхнуў. Ён зусім асавеў, а дзеўкі між тым і ня думалі разыходзіцца. Кот саскочыў з паркану, узьняў хваста і, сьцярожка ступаючы па мокрай траве, падышоў да Люські.

- Пра «чорную руку» распавядзі, што людзей душыла, - прамовіла Люська, ды нечана войкнула, падхапілася на ногі, а згледзеўшы Барыса, падчапіла таго мыском чаравіка й адкінула на дарогу.

- Не, пра «чорную руку» не цікава. Раскажу лепей, як дзяўчынка айчыма забіла.

Барыс быў абражаны. Абышоўшы дзевак з тылу, ён ускочыў на бярвеньні, прайшоўся ў дальні канец, усеўся там і абурана закруціў хвастом.

- Мне пра гэта сястра распавяла, што ў Віцебску жыве. Прасіла, праўда, нікому не расказваць.

Манька Цыкіна, надаўшы голасу злавесна-шапятлівыя ноткі, пачала новы аповед, а ленінградка, якая, відаць, ніколі такіх жахаў ня чула, ад страху нават перастала дыхаць і сьцягнула са сьпіны на голаў сваю гіпюравую кофту.

- У адной дзяўчынкі быў дужа паганы айчым. Увесь час за ёю падглядваў... І вось прыйшоў аднойчы гэты айчым дахаты, убачыў, што дзяўчынка пераапранаецца - і палез да яе...

- Як гэта - палез? - пудліва перапытала ленінградка.

- Ты што, не разумееш? Як Васька да цябе сёньня лез, так і гэты... - растлумачыла Люська й ленінградка пасьля такіх словаў яшчэ больш скурчылася й нацягнула кофту да самых вачэй.

- Ну, палез, значыцца, схапіў дзяўчынку за руку. А ў іхнай хаце пад лаўкай сякера ляжала. Дзяўчынка да сякеры дацягнулася, схапілася за тапарышча і... карацей, па галаве айчыма гвазданула. Крывёю ўсе сьцены запырскала. Айчым на падлогу паваліўся, зубамі заскрыгатаў, засіпеў: «Прыйду да цябе», - і падох. Дзяўчынка перапужалася, пабегла да маткі. А матка ейная дворнічыхай рабіла. Пачула што ды як, кінула мятлу і дахаты пабегла. Пабедавалі яны, кроў змылі, у хаце прыбралі, а тут і міліцыя ўвалілася. Матка ўсю віну на сябе ўзяла: сказала, што гэта яна забіла - яе й пасадзілі. І вось засталася дзяўчынка адна. Спаць лягла, а страшна ж адной... усё гэты айчым мроіцца. Сьвятла нават не выключала. І раптам бачыць - на дзьверцах шафы кропля крыві засталася. Хацела выцерці, ды перадумала: трэба было з пасьцелі вылазіць, а ў хаце халодна, печка ня паленая. А наступнай начы ўспомніла яна пра пляму - глянула, а яна нібыта большаю стала. Схапіла анучку - давай церці. А кроў не адціраецца. Ну што, лягла ў пасьцель, а пляма раніцою ў два разы павялічылася. І так расла цэлы тыдзень, а на восьмую ноч заліла ўсе дзьверцы. І падобнай стала на чалавечы цень, - у гэтым месцы Манька перарвала аповед і намалявала рукамі ў паветры вырыс чалавечага ценю. - А ў дванаццаць

гадзін ночы пляма раптам пачарнела, дзьверцы рыпнулі, пачалі расчыняцца і з шафы выйшаў... - але хто выйшаў з шафы, Манька сказаць не пасьпела. Яе гарадзкая сяброўка нечакана падскочыла, нема крыкнула, апавядальніца пукнула, а кот Барыс сігануў зь перапуду пад бліжэйшы куст.

- Люська, дурная-а! - гукнула ленінградка й жартам, але хвацка, выцяла кулаком па Люсьчынай хрыбціне.

- Вось так, Люсечка. Яшчэ раз тыцнеш пальцам - болей расказваць ня буду, - пакрыўджана зазначыла Манька Цыкіна, а ленінградка, памацаўшы рукою пэўнае месца, дадала: - Ледзь не абпісалася.

Люська, якая мела звычку пужаць сябровак, тыцкаючы ім пальцамі пад драбы, сумелася, пракудліва шморгнула носам.

- Ну добра, раскажу вам яшчэ адну гісторыю. Таксама пра айчыма. Але гэта ўжо была праўда, - забалаболіла Манька, а кот Барыс абтрос мокрую лапку і ўскочыў на паркан.

- Памерла ў адной дзяўчынкі маці, і засталася яна з айчынам. І вось прыйшоў аднойчы айчым дахаты, прынёс радыёпрымальнік і кажа: - «Слухай, але ніколі не ўключай кароткія хвалі». А наступным днём зьехаў айчым у камандзіроўку і дзяўчынка адна засталася. Цікава ёй стала - што будзе, як кароткія хвалі ўключыш? Узяла і ўключыла. І вось слухае нейкую музыку... стра-ашную такую... але нічога не адбываецца. А ў дванаццаць гадзін ночы музыка раптам абарвалася і нехта ці-іха так сказаў: «Дзяўчынка, выключы радзіва, труна на колцах пад'яжджае да твайго гораду». Дзяўчынка перапужалася, выключыла радзіва, а на наступную ноч зноў уключыла. Прыслухалася, і раптам чуе - той жа голас, але больш гучна, кажа: «Дзяўчынка, дзяўчынка - выключы радзіва, труна на колцах едзе па тваёй вуліцы».

Кот Барыс, які сядзеў на паркане, пазяхнуў, памыў пысу падушачкамі правай лапкі.

- І вось трэцяя ноч... Падсела яна да радзіва...

- Ой, дурная-а... - прастагнала, перарываючы апавядальніцу, ленінградка, а апавядальніца, рашчаперыўшы пальцы абедзьвюх рук, прашаптала: - Уключыла, і раптам чуе...

- Манька, зараз жа йдзі дахаты! - крыкнулі за Барысавай сьпінай, дзьверы Маньчынай хаты гучна бразнулі і Манька, гукнуўшы: - Йду-у! - прабачліва дадала: - Пайду, заўтра ўставаць рана - наша чарга гнаць у поле.

Шпаркія крокі заціхлі ў глыбіні двара й ленінградка зь Люськаю падхапіліся зь бярвеньня. Сюд-туд азіраючыся, сяброўкі рушылі на паўсагнутых нагах па вуліцы й Люська, падышоўшы да сваёй хаты, нечакана матлянулася да паркану.

- Куды ты? - гукнула было ленінградка, а ўбачыўшы, як сяброўка задзерла прыпол спадніцы, таксама прысела пад куст.

Люська ўжо абцягнула прыпол, калі ў агародзе зашамацеў бульбоўнік і сяброўкі пудліва адскочылі ўбок. Празь імгненьне з-пад плоту вытыркнулася кудлатая галава Дуроніка, дзеўкі ўголас аблаялі шчанюка, і гараджанка, дробна стукаючы зубамі, запыталася:

- Т-ты д-дзе сьпіш?

- На гарышчы, а ты? - адгукнулася Люська, гэтаксама граючы на зубарыках.

- І я на гарышчы, - Маша, бліснула ў цемры бялкамі вачэй і ў нерашучасьці пацерла лабешнік.

- Слухай, пайшлі да мяне, - пралепятала, чытаючы сяброўчыны думкі, Люська. - Я раніцою ўстану, скажу маці, каб тваіх папярэдзіла.

Дзяўчыны крадком увайшлі ў двор, спыніліся пад вокнамі хаты, прыслухоўваючыся да храпеньня

Люсьчынага бацькі, і, перавёўшы дых, палезьлі па драбінах на гарышча.

Кот Барыс прасьлізнуў у дзьвярную пройму, у два скачкі дабег да сваёй ляжанкі. Колькі хвілін ён рупліва аблізваў мокрыя лапы і толькі пасьля таго прыслухаўся да бязладнай валтузьні на другім канцы гарышча. Дзеўкі, ужо накрыўшыся з галавою коўдрай, шалёна валтузіліся, вішчэлі, а навалтузіўшыся ўдосыць, аб нечым горача зашапталіся.

Кот памыў лапаю пысу, задаволена пацягнуўся. Потым яшчэ раз пазяхнуў і, перад тым, як накрыцца хвастом, пашкроб кіпцюрамі крокву.

- Ай, хто там? - крыкнулі на другім канцы гарышча, у крокву над Барысавай галавой стукнуўся дзявочы туфель, і Барыс, прыхаваўшыся за комін, падаў голас.

- Супакойся, гэта наш кот, - сонна прамармытала Люська і яшчэ праз хвіліну сяброўкі суладна засоплі насамі.

Кот расьцягнуўся на ляжанцы, прыціснуўся сьпінаю да коміна. Комін быў яшчэ цёплы і зьлёгку дрыжэў ад волатаўскага храпу гаспадара. Барыс заплюшчыў вочы і перад тым, як заснуць, падумаў, што заўтра ў яго будзе цяжкі дзень - трэба будзе зноўку ісьці на Дабранскую гару душыць мышэй.

Заўтра, як толькі ў хаце рыпнуць масьніцы, ён прачнецца, правядзе падушачкамі лап па вачах і будзе доўга слухаць ранішнія зыкі. На доле бразьне вядро, паліецца вада ў калодзеж, гаспадыня штосьці гучна крыкне суседцы. Потым у хляве будзе бясконца доўга зумкаць струмень у даёнцы, а калі гаспадыня падоіць карову і выйдзе на двор, ён прыцісьнецца пысай да паддашкавых дзьвярэй і голасна вякне. Гаспадыня, як заўсёды, вылаецца, нясьпешна падымецца па драбінах, хвіліну-другую будзе тыцкаць прутом у шчыліну, скідваючы непадатную зашчапку, а спусьціўшыся долу, плісьне ў чаропкі - у ягоную вялікую і ў маленькую Дуроньчыну - духмянага сырадою.

...Барыс ужо спаў і сьніў палёвак, калі яму прымроіўся раптам саладкаваты і ні з чым не параўнальны пах малака, і ён аблізнуўся спрасонку.




# Вінцэсь Мудроў

Нарадзіўся 11 верасьня 1953 г. у Полацак. Беларускі літаратар і журналіст, актыўны ўдзельнік руху самвыдату ў 1970-1980-я, крытык камуністычнай нацыянальнай папітыкі, цярпеў ад перасьледаў з боку КГБ.

Дзяцінства і юнацтва М., сын савецкага афіцэра (расейца па нацыянальнасьці), правёў на радзіме маці ў Беларусі. У старэйшых клясах сярэдняй школы № 2 Наваполацку ён ужо быў вядомы ў моладзевым асяродку як чалавек, што крытычна ставіўся да савецкае рэчаіснасьці і адчуваў у сувязі з гэтым ціск з боку адміністрацыі, непасрэднай прычынай для якога паслужыла вывешваньне на школьнай дошцы аб'яваў праграмаў передачаў «Голаса Амэрыкі», «Радыё Саабода» і іншых заходніх радыёстанцыяў. .

У пэрыяд вучобы ў Наваполацкім політэхнічным інстытуце стаў ініцыятарам выданьня рукапіснага літаратурна-мастацкага часопісу «Блакітны ліхтар». Разам з групай аднадумцаў (Валеры Шлыкаў, Анатоль Рыбікаў, Андрэй Грабаў і інш.) выпусьціў у 1971-1974 15 нумароў часопіса. Нумар, цалкам падрыхтаваны М., зьмяшчаў ягоныя меркаваньні па праблеме беларускай мовы і яе пэрспэктываў ва ўмовах СССР. Поруч з чыста літаратурнымі матэрыяламі ў часопісе пастаянна зьмяшчаліся публіцыстычныя творы, дзе

крытыкавалася праводзімая ў Беларусі палітыка русіфікацыі. У адным са сваіх вершаў М. параўнаў беларусаў са зьніклым народам этрускаў. .

Часопіс паступова павялічыў лік аўтараў і акрамя Полацку і Наваполацку дастаткова шырока чытаўся і меў рэзананс у Беларускім дзяржаўным унівэрсытэце і іншых менскіх вышэйшых установах. У 1974 на сьлед часопісу выйшаў КГБ. У вачох гэтае інстытуцыі ўяўляла грамадзкую небясьпеку ўжо сама беларуская мова моладзевага альманаху, які выходзіў у «інтэрнацыянальным сацыялістычным горадзе», у якасьці якога Наваполацак паказваўся афіцыйнай прапагандай. Усе нумары «Блакітнага ліхтара» былі канфіскаваныя. З М. і інш. выдаўцамі былі праведзеныя «прафіляктычныя гутаркі», у выніку чаго выпуск часопіса прыпыніўся. .

У 1976 М. скончыў Наваполацкі політэхнічны інстытут. Па прычыне палітычнай ненадзейнасьці яму было адмоўлена ў прыёме на працу на Наваполацкі завод «Вымяральнік», які належаў да ліку «абаронных» прадпрыемстваў.

У другой палове 1970-1980-х М. актыўна займаўся капіяваньнем і распаўсюджваньнем забароненай у СССР літаратуры, у прыватнасьці, твораў М.Булгакава «Ракавыя яйкі» і «Сабачае сэрца». Асаблівае месца ў гэтай дзейнасьці займала нелегальнае распаўсюджваньне недаступных беларускаму чытачу навуковых і публіцыстычных матэрыялаў нацыянальнага характару: «Расейска-крыўскага (беларускага) слоўніка» В.Ластоўскага, беларускага часопіса «Крывіч»; антыкамуністычных вершаў і паэмаў вязьня ГУЛАГу паэткі Ларысы Геніюш. М. наведваў Л.Геніюш у яе доме ў Зэльве Гарадзенскай вобл.; у 1983 удзельнічаў у пахаваньні паэткі, якое адбылося пад татальным кантролем КГБ. .

Працаваў на прадпрыемствах Наваполацку, а пасьля Ямала-Нянецкай аўтаномнай акругі РСФСР. Пастаянна адчуваў увагу КГБ. У 1986 супрацоўнікі КГБ падчас чарговай «прафіляктычнай гутракі» пагражалі выслаць

М. зь Ямала-Нянецкай акругі за антысавецкую дзейнасьць. .

У канцы 1980-х М. вярнуўся ў Беларусь і цяпер жыве ў Наваполацку. Ён займае актыўную грамадзкую пазыцыю: з 1990 - сябра Беларускага Народнага Фронту, удзельнічае ў акцыях дэмакратычнай апазыцыі. З 1995 - карэспандэнт «Радыё Свабода» па Полацкім рэгіёне. Вядомы таксама як аўтар некалькіх кнігаў мастацкае прозы і перакладчык з альбанскае і расейскае моваў. Сябра Беларускага ПЭН-Цэнтру. (Уладзімір Арлоў) .

**Крыніца:** *Дэмакратычная апазыцыя Беларусі (1956-1991). Даведнік.*